+тэлепраграма № 43 (305) 22 лістапада 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Аднооўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА



## У НУМАРЫ





АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

## Я здымаю каго хачу

Гутарка з Алесем Матафонавым.

# Эўропе бацька не патрэбны

**Кіраўніку Беларусі і сямём ягоным міністрам забаронена зьяўляцца ў Эўропе. З Лукашэнкам пачалі размаўляць ягонай жа мовай, без эківокаў. Ці штурхне гэта Менск у абдымкі Масквы, стане ясна 27 лістапада.**

Аляксандар Лукашэнка і сем ягоных урадоўцаў пазбаўленыя права ўяжджаць на тэрыторыю 14 краінаў Эўразьвязу. У чорным сьпісе кіраўнік Адміністрацыі прэзыдэнта, прэм'ер, старшыня КДБ, міністры замежных справаў, абароны, унутраных справаў, юстыцыі. Толькі Партугалія, што знаходзіцца ад Беларусі найдалей, дабілася права не далучацца да супольнага рашэньня.

Партугальцы баяліся, што дыпляматычныя санкцыі супраць Беларусі могуць сапсаваць ход канфэрэнцыі міністраў замежных справаў АБСЭ, што мае адбыцца 6—7 сьнежня ў Порту. Гэта быў, аднак, ня першы выпадак, калі партугальскія дыпляматы спрачаліся з сваімі калегамі наконт візавых абмежаваньняў. Нядаўна аналягічныя разыходжаньні ўзьніклі ў пытаньні пра забарону на візы для кіраўнікоў Зымбабвэ. Але партугальскі міністар не пераканаў калег у немэтазгоднасьці ўвядзеньня санкцый супраць Беларусі.

Каб знайсьці годны кампраміс, міністры пагадзіліся на формулу, што выключае Партугалію зь сьпісу забароненых краінаў. Калі лукашэнкаўцы паедуць у Порту, ім будзе выдадзеная нацыянальная партугальская, а не шэнгенская віза.

Чорны сьпіс быў скарочаны з 52-х, пра якіх вялася гаворка раней, да васьмёх асобаў. Такую прапанову ўнесла Швэцыя. Яна спасылалася на засьцярогі Польшчы, Латвіі і Літвы. Гэтыя краіны-кандыдаткі зазвычай амаль аўтаматычна падтрымліваюць усе рашэньні Брусэлю, але ў дадзеным выпадку гэта зрабіла б немагчымым вырашэньне штодзённых пытаньняў памежнага супрацоўніцтва.

Напярэдадні сустрэчы ў Брусэлі шэф польскай дыпляматыі Ўладзімер Цімашэвіч заявіў, што Польшча падтрымлівае само рашэньне і разумее ягоныя матывы, але, зыходзячы з рацыі суседзтва і канечнасьці кантактаў зь Беларусяй, ёй цяжка было б спыніць зь ёй адносіны.

Падставай для санкцый стала неаднаразовая адмова Менску падоўжыць візы супрацоўнікам місіі АБСЭ і поўная адсутнасьць дэмакратыі ў Беларусі. Хоць Менск пачаў распраўляцца зь місіяй адразу пасьля леташніх выбараў, а дэмакратыяй ня пахне ад 1995-га, гром грымнуў толькі цяпер.

У суайчыньнікаў па кантынэнце даўно чакаліся рукі пакараць "апошняга дыктатара Эўропы". Стрымлівала толькі тое, што яшчэ большая ізаляцыя беларускага кіраўніцтва непазьбежна штурхнула б яго ў цясьнейшыя абдымкі Масквы. Адчуўшы, што інкарпарацыя Беларусі ў Расею больш не стаіць на парадку дня, эўрапейцы памянялі тактыку. А тутака і нагода вырвалася: імпэтнае жаданьне "дыктатара Беларусі" прарвацца на саміт NATO ў Прагу, шантажуючы Эўропу кантрабандай наркотыкаў і нелегальнай іміграцыяй.

У адрозьненьне ад санкцый, якія эўрапейцы ўводзілі ў 90-х, гэтым разам яны могуць даць эфэкт. Па-першае, узрасла залежнасьць краіны ад экспарту ў Эўразьвяз. Па-другое, сяред беларусаў вырасла папулярнасьць ідэі інтэграцыі ў Эўрасаюз.

Ніякіх адэкватных мераў у адказ Беларусь прыняць ня можа. Хіба што сапраўды, на радасьць тутэйшым кантрабандыстам, здыме дротавыя заслоны на заходняй мяжы. Таму афіцыйныя мэдыі нават ня надта крытыкуюць эўрапейскія краіны, абмяжоўваючыся звыклымі спасылкамі на "амэрыканскі ціск".

На канфэрэнцыі па Беларусі, арганізаванай 14 лістапада ў Вашынгтоне пад эгідай "Амэрыкен энтэрпрайз інстытут", прагучалі заклікі да "зьмены рэжыму" ў Беларусі. Гэты выраз апошнім часам стаў модным у дачыненьні да Іраку. Пасьля такое паралелі Лукашэнку не выпадае спадзявацца на літасьць з боку Вашынгтону. Аднак ад эўрапейцаў беларусы заўжды чакалі большага.

Беларусь ня можа праводзіць палітыку самаізаляцыі доўгі час. Таму Пуцін зрэагаваў на рашэньне эўрапейцаў імгненна. У аўторак прэс-сакратарка кіраўніка Беларусі Натальля Пяткевіч з захапленьнем абвесьціла, што А.Лукашэнка атрымаў запрашэньне з Масквы. Праўда, інфармаваныя расейскія крыніцы цьвердзяць, што сустрэча адбудзецца па просьбе беларускага боку.

Візыт Лукашэнкі ў Маскву можа адбыцца ўжо 27 лістапада. Мяркуючы па імгненнай рэакцыі, Масква гатовая гуляць зь Менскам у тую ж гульню, якая прынесла ёй за апошні год столькі перамог на ўкраінскім фронце. Беларуска-расейская сустрэча ў вярхах можа стаць чарговым паваротам флюгера беларускай палітыкі. Раз Лукашэнку ня будзе куды езьдзіць, акрамя як у Расею, ён гатовы езьдзіць у Расею.

**Мікола Бугай**

# Алаг адзін — муфціяў два

Упершыню за 600 гадоў адбыўся падзел ісламскай грамады Беларусі. У кастрычніку Камітэт па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў пры Саўміне зарэгістраваў Духоўнае ўпраўленьне мусульманаў, якое сталася канкурэнтам Мусульманскаму рэлігійнаму аб'яднаньню, што існуе ўжо 8 гадоў. Каб разабрацца ў прычынах падзелу, мы зьвярнуліся да муфціяў абедзьвюх рэлігійных арганізацыяў.

Старонка 5.

# Марнаваньне часу

**30-гадовы Алесь Пашкевіч абраны старшынём Саюзу пісьменьнікаў. Апошняя навіна: 35-гадовы Міхась Скобла, 39-гадовы Эдуард Акулін і 43-гадовы Барыс Пятровіч абраныя намесьнікамі старшыні. Намесьнікам старшыні стаў і "вэтэран", 66-гадовы Анатоль Кудравец.**

Усім гэтым таленавітым людзям я сымпатызую. Кудравец 19 гадоў узначальваў часопіс "Нёман". Пры ім выданьне мела найбольшы наклад. Пісьменьніка, які прайшоў праз апарат ЦК КПБ і гэтулькі гадоў быў актыўным удзельнікам літаратурнага працэсу, трэ было б угаварыць напісаць успаміны. У добрага стыліста Кудраўца яны будуць чытацца зь ня меншай цікавасьцю, чым ягоная "выдуманая" проза. Дый "выдуманую" грэх яму не пісаць. Празаік Б.Пятровіч добра зарэкамэндаваў сябе як намесьнік галоўных рэдактараў "ЛіМу" й "Полымя". Цяпер ён — галоўны рэдактар "Дзеяслова". Паэт, празаік, літаратуразнаўца А.Пашкевіч выкладае ў БДУ, кіруе там паэтычным сэмінарам. Ён жа — намесьнік галоўнага рэдактара "Дзеяслова". Паэт і бард Э.Акулін — таксама намесьнік у "Дзеяслове". Паэт, парадыст і журналіст М.Скобла — рэдактар у "Беларускім кнігазборы", укладальнік збораў твораў Уладзімера Жылкі й Ларысы Геніюш, аўтар прадмоваў і камэнтароў да іх. Нядаўна ён уклаў анталёгію беларускае паэзіі XX ст. (358 аўтараў), якая цяпер у карэктуры.

Таленавітыя і дзейныя людзі ўзначалілі састарэлую арганізацыю, якую, як і КПСС, як і гандарыкаўска-козікаўскія прафсаюзы, як і калгасы, немагчыма рэфармаваць.

Уладзе СБП патрэбны толькі дзеля аднаго — ухваляць ад імя пісьменьніцкае супольнасьці яе палітыку. Каб нязгодных пазбавіць трыбуны, улада забрала ў Саюзу часопісы. Раней дзяржаўныя фактычна, яны сталіся дзяржаўнымі юрыдычна. І цяпер выдатна відаць, хто зь пісьменьнікаў гэтаму рэжыму свой, а хто — чужы.

Саюз пісьменьнікаў патрэбны як прафсаюзнае аб'яднаньне, што бароніць аўтарскія правы, выпрацоўвае супольную лінію паводзінаў пісьменьнікаў на выдавецкім рынку — скажам, патрабуе ад кіраўнікоў дзяржаўных і недзяржаўных часопісаў і выдавецтваў пэўны мінімум за друкаваны аркуш і паэтычны радок. Першасныя арганізацыі СБП маглі б падпісваць калектыўныя дамовы з галоўнымі рэдактарамі. СБП бараніў бы аўтарскія, працоўныя і сацыяльныя правы сваіх сяброў на радыё, тэлебачаньні, у тэатрах і кіно...

Аднак калі будзе выпрацаваны статут Саюзу як абаронцы карпаратыўных інтарэсаў, улады пастараюцца не зарэгістраваць яго. Калі такі статут будзе ўсётакі зарэгістраваны, можа вынікнуць калізія: выдаўцы — кіраўнікі СБП ня могуць прадстаўляць інтарэсы аўтараў. У такім разе яны мусяць пакінуць свае пасады. Дый нават пры самым дасканалым статуце і пры адданым інтарэсам пісьменьнікаў кіраўніцтве ў СБП знойдуцца дзясяткі штрэйкбрэхераў, якія пагодзяцца на ўсякія ўмовы працы і аплаты ды абгрунтуюць гэткае рашэньне чым заўгодна.

Патрыцыйшы шмат намаганьняў дзеля стварэньня новае арганізацыі замест сталінска-жданаўскага інструмэнту кантролю за паводзінамі і дзейнасьцю літаратараў, А.Пашкевіч, Э.Акулін, А.Кудравец, Б.Пятровіч і М.Скобла ўрэшце расчаруюцца. Яны будуць шкадаваць змарнаванага часу. "Адвахой для сябе самога, беражы і назапашвай час", — вучыў Сэнэка. Рэдагуючы "Дзеяслоў" і кнігі, выкладаючы і папулярызуючы літаратуру, а цяпер яшчэ і стаўшы кіраўнікамі СБП, ці думаюць таленавітыя людзі, колькі твораў яны не напішуць?


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Літаратара запамінаюць па напісаным і выдадзеным. Хто памятае кіраўнікоў Саюзу пісьменьнікаў? Пятрусь Броўка ўвайшоў у гісторыю найперш як стваральнік Беларускае Энцыклапэдыі, Максім Танк — як паэт...

**Анатоль Сідарэвіч**

# Крывое кола

**Рэдакцыя папрасіла адказаць на закіды А.Сідарэвіча Міхася Скоблу, паэта і новаабранага намесьніка старшыні СП.**

Гадоў пятнаццаць ведаю А.Сідарэвіча і за ўвесь гэты час ніводнага разу ня бачыў яго зьдзіўленым. Абураным за трыбунаю ў Доме літаратараназіраў, расчуленым над 66-м шэксьпіраўскім санэтам памятаю, вясёлым падчас падарожжа па заходнебеларускіх мястэчках і хутарах бачыў. І во на табе: Сідарэвіч зьдзівіўся, што на кіраўніцтва Саюзам пісьменьнікаў прыйшлі "таленавітыя і дзейныя людзі" А.Кудравец, А.Пашкевіч, Б.Пятровіч ды Э.Акулін. Маўляў,аднаму лепш было б пісаць мэмуары, другому — кіраваць паэтычным сэмінарам, трэцяму — рэдагаваць "Дзеяслоў", чацьвёртаму — сьпяваць уласныя песьні... І пад канвоем неісьці ў той саюз, не марнаваць свайго каштоўнага часу. Як неаспрэчны аргумэнт цытуецца Сэнэка, які вучыў "адваёўваць час для сябе самога". Дарэчы, Сэнэка ваяваў за свой час даволі арыгінальна — выхоўваючы крыважэрнага імпэратара Нэрона, які неўзабаве і парупіўся дарэшты вызваліць свайго настаўніка зь цянётаў будзёншчыны: прымусіў скончыць жыцьцё самагубствам. Але не пра тое гаворка.

А.Сідарэвіч — чалавек далёкі ад банальнасьці, а тут параўноўвае дзясяткі разоў параўнанае: Саюз пісьменьнікаў з калгасам. Шаноўны васпане, мы ж з вамі хутаранцы. Ня ведаю, калі раскулачылі ваш Доўгі Лес пад Ганцавічамі, а ў ваколіцах нашай Шыі пабліз у Дзярэчына калгасы ўтварыліся толькі на пачатку 50-х. Прычым ніхто ў сялянаў не пытаўся згоды, — хочаш ты ці не ў той калгас. Захочаш, калі замест калгасу прапануюць альтэрнатыву: Джэзказган альбо Котлас. А цяпер скажыце: каго зь пісьменьнікаў на вашай памяці заганялі ў саюз сілай? Можа, вас як літаратара валаклі туды гвалтам, скафіскаваўшы апошнюю асадку, не раўнуючы як плуг ці барану ў селяніна? Не было гэтага. Не хацелі — і не ўступалі. Як, дарэчы, і Л.Геніюш. Што праўда, яна ахвотна брала ўдзел у пісьменьніцкіх афіцыйных сходках, зьездах ды пленумах. Запрыгоненага калгасам селяніна ганялі ў поле за працадні, і — паспрабуй не зьявіся. А беларускі пісьменьнік за савецкім часам атрымліваў добрыя ганарары ды ўлетку зьбіраў грыбы вакол Лысай Гары. Так што калгас — не парнас. Вядома, кожнае параўнаньне кульгае, бывае ж у дадзеным выпадку — на абедзьве нагі.



Калі Саюз пісьменьнікаў быў створаны ў 1934-м, прычым не найлепшымі беларускімі пісьменьнікамі (Якуба Коласа ў апошні момант выкрасьлілі з аргкамітэту), то задумваўся ён сапраўды як апірышча савецкай улады. Але ў Францыі савецкай улады ніколі не было, а пісьменьніцкая арганізацыя ёсьць, і ў Грэцыі ёсьць, і ў Швэцыі. У 1941 г. украінская паэтка Алена Тэліга з-за мяжы патаемна прабралася ў акупаваны немцамі Кіеў і стварыла не суполку падпольшчыкаў, а непадкантрольны акупантам Саюз пісьменьнікаў. За што праз год і была расстраляная ў Бабіным Яры разам са сваімі паплечнікамі. Так што, як бачым, пісьменьніцкія арганізацыі ствараліся ня толькі бальшавікамі і не заўсёды дзеля шыхтоўкі літаратараў у шчыльныя ды паслухмяныя шэрагі.

Тыя, хто прагне "рэформаў" і патрабуе распусьціць творчыя саюзы як спадчыну сталінскай сыстэмы, забываюць, што за саветамі былі ўтвораныя і Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, і Акадэмія навук, і Тэатр опэры і балету, і выдавецтва "Беларуская энцыкляпэдыя". Дык можа, і іх распусьціць на радасьць імпэрскай навалачы ды беларусажэрам уласнай гадоўлі?

А.Сідарэвіч праўдзіва заўважае, што ўлада забрала ў пісьменьнікаў часопісы, каб пазбавіць нязгодных трыбуны. Але прыгадаймо, што незалежную трыбуну — часопіс "Дзеяслоў" — стварылі акурат тыя, хто ў верасьні ўзначаліў пісьменьніцкі саюз, ад якога, і зноў жа паводле Сідарэвіча, улада чакае аднаго — усхваленьняў на свой адрас. Дык ці прычакае ўлада тых усхваленьняў — за зачыненыя беларускія школы, за ліквідаваныя выдавецтвы, за выкінутую з высокіх кабінэтаў беларускую мову, за загнаныя ў касьцянаўска-бондараўскі холдынг часопісы, за адабраны, нарэшце, Дом літаратара? Рытарычнае пытаньне. Хаця, прыйдзі да кіраўніцтва саюзам другія сілы, прызабыты жанр панэгірыка ў нашай літаратуры мог бы зноў расквітнець.

Цяпер стаўка будзе рабіцца на штрэйкбрэхераў, якіх хапае ў любой прафэсіі, а ня толькі каля парнаскіх стромаў. Вось, ці бачыце, аднаму зь іх ужо і ордэн прышпілілі — за стварэньне дзяржаўнага гімну. А ён ахвотна грудзі падставіў, ведаючы, бессаромнік, што не зьяўляецца аўтарам таго гімну, а толькі суаўтарам. Сытуацыя проста анэкдатычная, але можна параіць навасьпечанаму ордэнаносцу расьпілаваць сваю ўзнагароду на дзьве часткі і падзяліцца з нашчадкамі пісьменьніка М. Клімковіча. Прынамсі, гэта будзе справядліва. Даюць ужо ордэны, спадары штрэйкбрэхеры, не прасьпіце момант. Але ўдзячныя прамовы прамаўляйце са сваёй купіны, а ня з ганку Саюзу пісьменьнікаў, над якім вісіць шыльда зь непатрэбнай вам Пагоняй.

Паступова, цягам апошніх гадоў, Саюз пісьменьнікаўператвараўся афіцыйнымі СМІ ледзь не ў баявы партызанскі атрад, які гатовы зь пёрамі наўзгатоўку ісьці на штурм цытадэляў улады. Два ранейшыя кіраўнікі саюзу былі сшальмаваныя. Некаторыя, асабліва старэйшыя, пісьменьнікі пачалі наракаць на залішне радыкальнае, на іх погляд, кіраўніцтва. І вось пісьменьніцкую арганізацыю ўзначаліў малады, здольны да кампрамісу чалавек, які спадзяваўся і спадзяецца пачаць адносіны з уладай з "чыстага ліста". Тым больш, апошнім часам усім чыноўнікам паступіла каманда зьвярху любіць незалежную Беларусь (цікаўным раю, для прыкладу, пачытаць віншаваньні рай- і аблвыканкамаў з нагоды 7 лістапада: аказваецца, для ўладнай вэртыкалі няма большай каштоўнасьці, чым беларуская дзяржава). Але спадзяваньні так і застаюцца спадзяваньнямі. Мур непаразуменьня, на вялікі жаль, так і застаўся стаяць. Творцаў па-ранейшаму штурхаюць на барыкады, каб потым, пацiраючы рукі, глыбакадумна заўважыць: калі гавораць гарматы, музы маўчаць. Ды не маўчаць, іх проста не дачуцца.

Рэдактарка "Маладосці" паэтка Р. Баравікова пабедавала ў "ЛіМе", што сёньня на Фрунзэ, 5 немагчыма сустрэцца з клясыкам і расплакацца ад утрапёнасьці, як калісьці прасьлязілася яна пры сустрэчы з Максімам Танкам. Ведаеце, спадарыня Раіса, і ў мяне тахкала сэрца, калі я атрымліваў сваю першую кніжку, што выйшла ў бібліятэчцы "Маладосці", з рук Анатоля Грачанікава. Няма ўжо ні Танка, ні Грачанікава, ні "маладосцеўскай" бібліятэчкі... А ў саюз усё адно прыходзьце. Не паплакаць, а разам падумаць, як бібліятэчку тую аднавіць.

А.Сідарэвіч, у адрозьненьне ад эмацыйнай паэткі, больш націскае на *ratio* і, маючы немалы жыцьцёвы досьвед, упэўнена заяўляе, што новая каманда ня здолее рэфармаваць "сталінска-жданаўскі інструмэнт кантролю" за дзейнасьцю пісьменьнікаў. Хто яго ведае, можа, нам і забракуе цярпеньня і вытрыманасьці. А магчыма, і хопіць, асабліва калі ўлічыць, што цяпер кантралююць пісьменьнікаў зусім іншыя арганізацыі. Што да часу, то яго, вядома, шкада. Ды найперш ня варта губляць дарагіх хвілінаў на пошук "аблудных авечак", якія ня хочуць даваць залатое руно. Зрэшты, аднадумцам, ашчадным да свайго і чужога часу, не выпадае весьці марных дыскусій. Давайце разам прыгадаем мудрае народнае выслоўе — крывое кола на сябе гразь кідае.

**Міхась Скобла**

## лісты ў рэдакцыю

# Хто ў незалежніцкую кааліцыю

**Пры канцы верасьня ў Празе праходзіла канфэрэнцыя правацэнтрысцкіх арганізацыяў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. "Праўую" Беларусь прэзэнтавалі Вінцук Вячорка і Анатоль Лябедзька. Ніхто і не чакаў, што нашыя апазыцыянэры будуць прызнавацца адзін аднаму ў цёплых пачуцьцях. Той жа, хто назіраў паводзіны абодвух лідэраў, зразумеў: наўрад ці калі-небудзь у найбліжэйшай будучыні АГП і БНФ аб'яднаюцца на адзінай плятформе.**

Непрыязнасьць Лябедзькі да Вячоркі і наадварот крыецца не ў асабістых пачуцьцях. Прычына халоднасьці стасункаў — узаемнае расчараваньне: аб'яднаньне пад лёзунгам "Далоў Луку!" не атрымалася. У Празе палітыкі практычна не размаўлялі і гучна папраўлялі выступы адзін аднаго.

Досьвед дзяржаваў з разьвітой палітычнай культурай сьведчыць, што самотная дробная партыя ніколі не адстаіць сваіх інтарэсаў. Трывалыя партыйныя кааліцыі атрымліваюцца тады, калі дзьве-тры партыі маюць падобныя праграмы, ідэалёгію альбо аднолькавы погляд на нейкую праблему. Як самі разумееце, аднаго імкненьня вылучыць кандыдата ў прэзыдэнты з сваіх шэрагаў для стварэньня кааліцыі недастаткова.

Сёньня галоўнае пытаньне — захаваньне сувэрэнітэту Беларусі. Менавіта па стаўленьні да яго мусяць яднацца і размяжоўвацца палітычныя сілы. У выпадку АГП і БНФ сяброўства не атрымаецца. Для А.Лябедзькі нэўтралізацыя Лукашэнкі ператварылася ў галоўную мэту, а для партыі В.Вячоркі любыя саступкі Расеі ў пытаньні сувэрэнітэту непрымальныя. Таму адносіны дзьвюх партый сапсаваліся. Хто мог бы скласьці незалежніцкую кааліцыю ў такім выпадку?

Зразумела, што для франтаўцаў застаецца прынцыповай адмова ад любога супрацоўніцтва з камуністамі. А вось левацэнтрысцкія партыі могуць брацца пад увагу. Аднак першым крокам магло б стаць аднаўленьне адзінства самога Фронту. Кур'ёзным (калі не трагічным) падаецца супрацьстаяньне былых аднапартыйцаў. Зянон Пазьняк не павінен сабе дазваляць "заціхаць" недзе ў Польшчы. Ён быў і ёсьць сымбалем. Заставацца на задворках палітыкі — памылка.

Калі старшыня КХП усьвядоміць патрэбу ў зьменах тактыкі, на наступных прэзыдэнцкіх выбарах адзіным кандыдатам ад апазыцыі ня стане "чорт з табакеркі".

Пазьняк мог бы ўжо цяпер вярнуцца ў актыўную палітыку. Першым крокам магло б стаць злучэньне КХП-БНФ і БНФ "Адраджэньне". А што далей? Магчыма, добрай падказкай будзе нядаўняя падзея ў Чэхіі: старшыня Грамадзянскага дэмакратычнага форуму Вацлаў Клаўс адмовіўся ад партыйнае пасады, каб прысьвяціць сябе толькі барацьбе за прэзыдэнцкі фатэль.

**Яўген Сідорык, Прага**

## ад рэдакцыі

Як удалося даведацца нашаму карэспандэнту, імя і прозьвішча Зянона Пазьняка застаецца ў сьпісах тых, каго памежнікі мусяць "пры апазнаньні затрымаць" на ўсіх беларускіх памежных пераходах.

# Час разьмежавацца

**Тое, аб чым так шмат казаў Пазьняк, пачаў рабіць Лукашэнка. Транзыт газу, вайсковыя базы і іншыя пытаньні ўзьнятыя. Як цяпер павядзе сябе апазыцыя?**

Калі раней у галовах незалежнікаў было ўсё ясна — Лукашэнка здраджвае, апазыцыя ратуе незалежнасьць, дык цяпер здарылася так, што Лукашэнка бароніць незалежнасьць, а частка апазыцыі гатовая яе здаць. Апазыцыя ніколі не была адзінай, і цяпер гэта стала відаць вельмі яўна. Падзел пайшоў па стаўленьні да ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы Беларусі звонку. Мне падаецца, што за гады незалежнасьці апазыцыя стала больш лібэральнай і менш беларускай. У цэнтры ўсяго стаяць лібэральныя каштоўнасьці, а не Беларусь. Надышоў час разьмежавацца і адмежавацца. Найбольш акрэсьлілі свае падыходы да сытуацыі МФ з аднаго боку і АГП зь іншага. Набліжаюцца мясцовыя выбары, і калі не разьмежавацца, дык на незалежніцкіх плячах у саветы пройдуць людзі, якім хочацца у Паўночна-заходнім краі, абы пры ўладзе.

**Wint, Менск**

# Прарвацца ў NATO не ўдалося

**20—21 лістапада ў Празе адбудзецца саміт *NATO*. Беларускага кіраўніка там не чакаюць.**

Само па сабе правядзеньне саміту ўжо зьяўляецца падзеяй. Але сёлетні саміт адрозьніваецца ад іншых. Упершыню саміт альянсу адбудзецца ў адной з краінаў былога камуністычнага блёку. Упершыню запрашэньне далучыцца да *NATO* атрымаюць былыя савецкія рэспублікі. Цягам саміту будзе прынятае рашэньне аб самым буйным пашырэньні *NATO* за ўсю гісторыю гэтай арганізацыі.

Мяркуецца, што ў саміце возьмуць удзел 2500 дэлегатаў. Разьвіцьцё падзеяў будуць асьвятляць каля дзьвюх тысячаў журналістаў. 500 розных аўтамабіляў ды аўтобусаў будуць забясьпечваць рух удзельнікаў форуму.

Першая агульная сустрэча 19 кіраўнікоў краінаў — сяброў *NATO* адбудзецца ўвечары 20 лістапада цягам вячэры ў рэзыдэнцыі прэзыдэнта Чэхіі Вацлава Гаўла. Адначасова ў мэрыі Прагі будзе адбывацца сустрэча міністраў абароны ды замежных справаў, а таксама сяброў дэлегацыяў краінаў — удзельніц Эўраатлянтычнай рады партнэрства *NATO*. У гэты ж вечар прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі сустрэнуцца ў Праскім кангрэсавым цэнтры.

На наступны дзень — 21 лістапада — праграма саміту будзе запоўненая пленарнымі паседжаньнямі ў Вальдштэйнскім палацы — будынку, дзе знаходзіцца Сэнат Чэскай Рэспублікі.

А ўвечары 750 чалавек зьбяруцца ў рэзыдэнцыі чэскага прэзыдэнта Вацлава Гаўла на грандыёзны гала-вечар. Там будуць і кіраўнікі краінаў — сяброў *NATO*, і кіраўнікі краінаў — удзельніцаў праграмы "Партнэрства дзеля міру", і прадстаўнікі Арганізацыйнага камітэту саміту, і чэскія міністры, і амбасадары розных краінаў.

Дакладна вядома, што там ня будзе Аляксандра Лукашэнкі. І, напэўна, Леаніда Кучмы.

І адзін, і другі пакуль не атрымалі чэскіх візаў, але ўжо пасьпелі атрымаць лісты ад кіраўніцтва *NATO* аб непажаданасьці іхнае прысутнасьці на саміце. Як паведаміў 12 лістапада агенцтву *"Reuters"* адзін з прадстаўнікоў штаб-кватэры альянсу ў Брусэлі, у лістах было адзначана, што, калі абодва гэтыя кіраўнікі ўсё ж вырашаць узяць удзел у сустрэчы, "яны ўбачаць мноства пустых крэслаў побач з сабой".



Робэрт Брадке

Увечары таго ж дня да думкі *NATO* далучыліся прадстаўнікі амэрыканскага ўраду. "Злучаныя Штаты супраць прыезду беларускага прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі на саміт *NATO* ў Празе", — пра гэта падчас тэлемосту з чэскімі журналістамі заявіў прадстаўнік Дзяржаўнага дэпартамэнту ЗША Робэрт Брадке.

Уладам Чэхіі ў гэтае сытуацыі не пазайздросьціш. Лукашэнка зьвярнуўся па чэскую візу пры канцы кастрычніка. Амаль адразу аб ягоным звароце стала вядома чэскім СМІ. Не праходзіць дня, каб сытуацыю зь беларускім прэзыдэнтам не абмяркоўвалі ў чэскай прэсе. Журналісты нават даведаліся, што беларуская дэлегацыя нібыта сабралася пасяліцца ў гатэлі "Парыж".

Але ўсё выглядае так, што, хутчэй за ўсё, беларускі кіраўнік ня ўбачыць ані Прагі, ані "Парыжу", ані заводу "Шкода" (пра сваё жаданьне наведаць гэтае прадпрыемства Лукашэнка паведаміў у звароце да чэскае амбасады). Чэскі МЗС схіляецца да рашэньня адмовіць Аляксандру Лукашэнку ва ўязной візе.



Да сустрэчы ў аэрапорце кіраўнікоў дзяржаў, запрошаных да ўдзелу ў саміце *NATO*, рыхтуюць 55 чорных *"Audi A8"*. МЗС Беларусі не пакідае надзеі, што падгоняць урэшце і 56-ую.

З аднаго боку, Прага мусіла б выдаць візу беларускаму прэзыдэнту як кіраўніку дэлегацыі краіны — ўдзельніцы Эўраатлянтычнай рады партнэрства. Зь іншага боку, удзел Лукашэнкі ў саміце быў бы парушэньнем галоўнай ідэі альянсу — пабудовы і абароны дэмакратычнага грамадзтва.

Асноўныя прэтэнзіі, якія прад'яўляюцца беларускаму кіраўніцтву, — парушэньне правоў чалавека і грамадзянскіх свабодаў, адсутнасьць дэмакратыі ў краіне.

Пасьля таго як стала вядома пра намеры чэскага МЗС, беларускае дыпляматычнае ведамства выявіла свой непрафэсіяналізм. Замест таго каб паспрабаваць спакойна і канструктыўна ўзгадніць пазыцыі як з *NATO*, так і з гаспадарамі саміту, беларускія МЗСаўцы гістэрычна пачалі пагражаць усім бакам нерастлумачанымі наступствамі і дэманстрацыяй "сапраўднага аблічча *NATO*" ўсяму сьвету.



Чэскі дыплямат у Менску Алеш Фойцік аказаўся крайнім

У такіх умовах рашэньне А.Лукашэнкі ўзяць удзел у саміце было б ня самым удалым. Наўрад ці кіраўніцтва Беларусі атрымае задавальненьне ад плённай працы і перамоваў з кіраўнікамі іншых краінаў сьвету цягам саміту *NATO*. Бо што за плён — размаўляць з пустымі крэсламі?

**Натальля Судлянкова, Прага**

# Апазыцыя апазыцыі

**17 лістапада ў Менску мусіць адбыцца палітычная акцыя ў падтрымку незалежнасьці Беларусі. Спачатку арганізатары меркавалі сабраць на яе да 5 тыс. чалавек. Аднак цяпер зь ліку ініцыятараў выйшлі ПКБ, Партыя працы, ЛДПБ, АГП. Ня хоча ўскладняць гэтай акцыяй палітычную сытуацыю Партыя БНФ. А вось моладзевыя палітычныя арганізацыі, наадварот, настроеныя зрабіць акцыю поўнамаштабнай.**

Заяўку на правядзеньне 17 лістапада акцыі "За незалежнасьць!" у гарвыканкам падалі Павал Знавец, Сяргей Высоцкі й Сяргей Шынкевіч. Апошні, сябар партыі БНФ, патлумачыў карэспандэнту "НН", што акцыю ладзяць незарэгістраваныя Беларуская партыя свабоды і Аб'яднаная сацыял-дэмакраты. Ён кажа, што БНФ "Адраджэньне" прыхільна да яе ставіцца, але пад заяўкай Шынкевіч падпісваўся як прыватная асоба. Затое актыўны ўдзел у падрыхтоўцы акцыі бярэ "Малады фронт". "Лукашэнка толькі імітуе сваю прыхільнасьць да незалежнасьці. Іншых сродкаў выказаць сваю пазыцыю ў нас няма", — кажа С.Шынкевіч.

Акцыя мае праходзіць пад бел-чырвона-белымі сьцягамі і лёзунгамі "За незалежнасьць!", "Беларускі народ — гаспадар сваёй краіны", "За дэмакратыю!", "За дабрабыт і годнае жыцьцё!". Павал Севярынец кажа, што "старэйшыя таварышы" замест паўнацэннай акцыі вырашылі правесьці пікет на плошчы Якуба Коласа. Моладзь жа выступае за шэсьце ад тае плошчы да Опэрнага тэатру, дзе мусіць адбыцца мітынг.

У аўторак, 12 лістапада, Павал Севярынец, Сяргей Высоцкі і Вячаслаў Сіўчык зладзілі прэсавую канфэрэнцыю. Яны абвесьцілі, што, нягледзячы на забарону гарвыканкаму, акцыя адбудзецца. А ў сераду, 13 лістапада, і гарадзкія ўлады перагледзелі сваё рашэньне ды дазволілі дэманстрантам правесьці маепрапрыемства.

Арганізатары кажуць, што іх намаганьнямі ўдалося надрукаваць толькі мінімальную колькасьць улётак з інфармацыяй пра акцыю. Тым часам, за апошні тыдзень за распаўсюд улётак і насьценныя надпісы былі затрыманыя міліцыяй шэсьць сяброў БПС.

"Многія апазыцыйныя палітыкі недаацэньваюць пагрозу незалежнасьці Беларусі, — кажа П.Севярынец. — Мы лічым, што сёньня ў Лукашэнкі і Масквы няма ніякіх супярэчнасьцяў. Ідзе гульня. Калі апазыцыя ня зможа выступіць у абарону незалежнасьці, то гэтая апазыцыя 17 лістапада спыніць сваё існаваньне, прынамсі для нас". Пакуль нічога не гаворыцца пра магчымасьць стварэньня новага палітычнага руху ў абарону незалежнасьці Беларусі, але перадумовы для гэтага ўжо ёсьць.

**Алег Тачоны**



Сяргей Высоцкі і Павал Севярынец ня першую палітычную акцыю праводзяць супольна.

# Сьцепанюк — мэр Бельску

**Сталі вядомыя вынікі муніцыпальных выбараў у Польшчы, на якія беларусы ўпершыню выйшлі як самастойная палітычная сіла.**

Андрэй Сьцепанюк (БВК) 84%
Яўгеніюш Беразовец (СЛД-УП) 11%
Пётар Даніла (Наша Падляшша) 5%

**Беласток.** Беларускаму выбарчаму камітэту не хапіла 0,9% галасоў, каб трапіць у Соймік сталіцы Падляскага ваяводзтва. Беларусы атрымалі 4,1%, ці больш за 15,5 тысячаў галасоў, пры неабходных 5%.

У склад БВК не ўвайшлі прадстаўнікі Беларускага грамадзкакультурнага таварыства (БГКТ). Яны абіраліся па сьпісах СЛД і атрымалі ў Сойміку два месцы. Дэпутатамі сталі Ян Сычэўскі, вядомы сваімі заявамі ў падтрымку Лукашэнкі, і Ян Зэнюк, дзяяч беластоцкага праваслаўнага асяродзьдзя, які за часамі ПНР заклікаў да забароны беларускай мовы.

Прафэсар Антон Мірановіч, кандыдат ад БВК на пасаду мэра Беластоку, сярод 12 кандыдатаў апынуўся на 5-м месцы, набраўшы 6,5% галасоў.

**Бельск-Падляскі.** Тут Кааліцыя Бельская, у якую ўваходзяць беларускія і украінскія арганізацыі, перамагла, атрымаўшы ў Радзе 8 месцаў з 21. У Бельскім павеце кааліцыя заняла другое месца пасьля СЛД, узяўшы 5 мандатаў з 19-ці. Пасаду бурмістра Бельска-Падляскага ўтрымаў беларус Андрэй Сьцепанюк, які набраў 84,2% галасоў.



Беларус Андрэй Сьцепанюк упэўнена перамог на выбарах на пасаду бурмістра Бельску-Падляскага.

**Гайнаўка.** У Радзе гораду Беларускі народны выбарчы камітэт (БНВК) заняў другое месца, атрымаўшы 5 мандатаў з 21, а ў павеце 5 з 17-ці. Аднак левыя, якія выйгралі тут выбары, змогуць утварыць кааліцыю зь іншымі палітычнымі сіламі, і голас беларусаў ня будзе вырашальным. На пасаду бурмістра Гайнаўкі БНВК кандыдата не выстаўляў.

**Уся Польшча.** У большасьці ваяводзтваў перамаглі прадстаўнікі кіроўнай кааліцыі СЛД—Унія Працы (УП), аднак не з такой перавагай, як спадзяваліся; большасьць жа вялікіх гарадоў узначалілі прадстаўнікі правых.

Аналітыкі кажуць, што кааліцыя СЛД—УП, якая знаходзіцца пры ўладзе крыху больш за год, ужо паказала сваё аслабленьне.

У Польшчы органы самакіраваньня маюць значную ўладу і не залежаць ад "цэнтру". Гэта робіць дэпутацтва ў мясцовых радах прывабным. Менавіта мясцовыя ўлады будуць вырашаць лёс вялізных сумаў грошай, якія атрымаюць польскія рэгіёны зь бюджэту Эўразьвязу пасьля 1 студзеня 2004 г.

**Аляксей Дзікавіцкі, Варшава**

# Двайное дно

**Скарачэньне напалову паставак газу ў Беларусь выклікала хвалю эмоцый. І Беларусь, і Расея лічаць сябе пацярпелымі. Дзьве краіны давалі адна адной розныя эканамічныя прэфэрэнцыі і сёньня ня могуць прыйсьці да адзінай думкі, хто ад гэтага нясе болей стратаў. Прыйшоў час лічыць. Саюз з Расеяй — гэта выгода ці перашкода для Беларусі?**

Напомнім, што новы этап у эканамічным супрацоўніцтве Беларусі і Расеі ўзяў пачатак з дамовы, заключанай сёлета ў траўні, паводле якой Беларусь атрымала газ па цэнах пятага поясу Расеі ў абмен на згоду акцыянаваць "Белтрансгаз" і перадаць ягоныя акцыі Расеі.

Лічбы, што прыводзяцца ў друку, часта супярэчаць адна адной. Дзяржаўныя СМІ злоўжываюць лічбамі агітацыйнага характару. Па іх цяжка разабрацца ў сытуацыі. Ніжэй прыведзеныя зьвесткі, якія даюць чытачу магчымасьць зрабіць уласныя разьлікі.

**Транзытны тарыф у Беларусі складае каля $0,26 за 1 тыс. м³** газу на 100 км. Даўжыня беларускага газаправоду 560 км. Гадавы транзыт расейскага газу па тэрыторыі Беларусі ў 2001 г. быў роўны прыкладна 28 млрд. м³. З 1994 г. Беларусь набывала газ у "Газпраму" па $30—50 за 1 тыс. м³. З траўня газ для Беларусі пачалі адпускаць па цэнах пятага поясу — як для Смаленску. Цяпер гэта $24,2 за 1 тыс. м³. Калі Беларусь зусім адмовіцца ад паставак газу з Расеі, то самы танны альтэрнатыўны варыянт — купляць "блакітнае паліва" ў Туркменіі па цане прыблізна $80 за 1 тыс. м³. Меркаванае спажываньне газу Беларусяй у 2002 г. — 16,8 млрд. м³. Зь іх частку газу Беларусь купляе ў "Ітэры" па вышэйшых цэнах (у 2002 г. 6,6 млрд. кубамэтраў па $36). У краінах Балтыі транзытны тарыф роўны $0,50, у заходнеэўрапейскіх краінах — $1,75. Карыстаючыся сваім манапольным становішчам на паўднёвым эўрапейскім кірунку, Украіна ўсталявала транзытны тарыф, роўны $1,93 за 1 тыс. м³ на 100 км. Для Малдовы, Літвы і Украіны цана расейскага газу складае $70—80. Сусьветныя цэны на газ роўныя $110 за 1 тыс. м³.

### Хто каму вінен?

Атрымай Беларусь прыродны газ па цэнах украінскага ўзроўню, дык краіна затраціць звыш цяперашняй аплаты $880 млн., а падымі транзытны тарыф да ўкраінскага ўзроўню — атрымае дадатковы прыбытак каля $260 млн. Такім чынам, калі параўнаць з Украінай, то Расея сёньня датуе Беларусь пры пастаўках газу на ўзроўні $620 млн. у год.

Неабходна таксама ўлічыць, што Расея, пастаўляючы для Беларусі газ па ўнутрырасейскіх цэнах, пагадзілася на ўмовы пастаўкі газу, паводле якіх Беларусь можа аплачваць толькі 30% у грашовай форме (а насамрэч выходзіць дзесьці 8%). За астатнія пастаўкі Беларусь разьлічваецца прадукцыяй па заліковых апэрацыях, устанаўліваючы на тавары, як правіла, больш высокія цэны, чым тыя, па якіх іх можна было б прадаць на рынку за грошы. Экспэрты ацэньваюць выгаду Беларусі ад падобных бартэрных схемаў у $50—60 млн. за год.

Пры пераходзе на ўкраінскі ўзровень цэнаў Беларусь пры сёньняшніх транзытных магутнасьцях здольная пакрываць за кошт транзыту прыблізна пятую частку сваіх расходаў на закупку газу. Увод другой веткі газаправоду "Ямал—Эўропа" (плянуецца ў IV квартале 2002 г.) дасьць магчымасьць павялічыць аб'ём пампаванага газу з 28 да 36 млрд. м³. Аднак, паводле ранейшых дамоўленасьцяў, эксплюатацыю гэтай веткі плянуецца ажыцьцяўляць супольна з "Газпрамам". У сувязі з гэтым рана даваць ацэнку магчымым выгадам.

### Цана эканамічнай незалежнасьці — 300—500 млн. даляраў у год

Пры гэтым адзіная дадатковая крыніца, на якую можна разьлічваць Беларусі, — гэта спаганьне з расейцаў платы за абслугоўваньне вайсковых базаў каля Ганцавічаў і Вялейкі. Паводле словаў А.Лукашэнкі, гэтыя аб'екты па важнасьці не саступаюць "Байкануру", за арэнду якога Расея плаціць Казахстану $200 млн. у год. Іншых дадатковых крыніц няма. Напрыклад, ня варта браць пад увагу разавыя прэфэрэнцыі абодвух бакоў (падатковыя льготы пры будаўніцтве газаправоду ў $167 млн., прадастаўленыя Беларусяй, практычна перакрываюцца запазычанасьцю Беларусі за мінулыя пастаўкі газу, што складае прыкладна $250 млн.), а таксама ахову дзяржаўнай і ўладкаваньне мытнай мяжы, паколькі гэта абавязковыя выдаткі, зьвязаныя з абаронай такой каштоўнасьці, як наяўнасьць у народу ўласнай дзяржавы. Страты ж ад зьбіраньня ўскосных падаткаў у расейскі бюджэт супастаўныя з выгадаю, якую Беларусь атрымлівае ад завышэньня кошту тавараў пры заліковых бартэрных апэрацыях.

**Крыніцы фінансаваньня аплаты спажываньня газу па рынкавых расцэнках (у дужках кошты ў млн. даляраў)**





IREX-PROMEDIA

Апроч прыроднага газу, Расея пастаўляе ў нашу краіну 100% нафты і 93% вугалю (удзельная вага імпартаваных газу, нафты і вугалю ў спажываньні першасных энэргарэсурсаў складае адпаведна 52, 24 і 1,3%). Аплата імпарту іншых энэрганосьбітаў ажыцьцяўляецца на рынкавых умовах. У 2001 г. на пакупку нафты неабходна было выдаткаваць $920 млн., а за транзыт расейскай нафты Беларусь магла атрымаць $130 млн.

Такім чынам, калі ўлічваць патэнцыйныя страты і выгады, то, у залежнасьці ад аптымістычнасьці сцэнароў, $300—500 млн. у год — гэта сума, якая забясьпечыла б эканамічную незалежнасьць Беларусі ад Расеі ў пастаўках газу і энэргарэсурсаў наагул. Аднак дзе ў беларускай эканоміцы зь яе адсталай законсэрваванай структурай, нізкай эфэктыўнасьцю можна адшукаць такія грошы? Вядома, што ў грашовай форме Беларусь плаціць цяпер ня больш за $100 млн. у год.

Ёсьць і іншы момант. Пры пераходзе на рынкавыя разьлікі будзе разбурана цяперашняя схема пагашэньня пазыкі за ранейшыя пастаўкі газу. На ўнутраным рынку, з дазволу ўраду, "Белтрансгаз" фактычна перапрадае газ спажыўцам па цэнах, у 2 разы большых у параўнаньні з цэнамі на мяжы. Напрыклад, у ліпені 2002 г. цана расейскага газу на мяжы зь Беларусяй складала $24, а прамысловыя прадпрыемствы і энэргасыстэма атрымалі яго па $47,93 за 1 тыс. м³. Розьніца грошай праходзіла празь дзяржаўны бюджэт і выдаткоўвалася на пакупку нафты й мазуту, пагашэньне запазычанасьці бюджэтных арганізацый за энэрганосьбіты.

### А што суседзі?

Прыкладам таго, што чакае Беларусь у выпадку пераходу на рынкавыя адносіны ў сфэры разьлікаў за пастаўкі газу, можа служыць украінская эканоміка, якая мае прыблізна такі самы ўзровень эфэктыўнасьці.

Аплачваючы каля 40% паставак расейскага газу грашыма па рынкавай цане $80 за тысячу кубамэтраў, Украіна на сёньня мае запазычанасьць $1,4 млрд. Паводле ацэнак экспэртаў, стан украінскіх прадпрыемстваў дазваляе ім аплачваць толькі блізу $25 за 1 тыс. м³. У зьвязку з гэтым Расея дабіваецца ад Украіны перадачы ёй шэрагу аб'ектаў, акцыі якіх маглі б паслужыць для пагашэньня запазычанасьці.

Украіна мае на парадак больш высокую транзытную прапускную здольнасьць, чым Беларусь (127,8 проці 28 млрд. м³). Транзыт газу праз Украіну складае 35% ад агульнага спажываньня газу Эўрапейскім Зьвязам і амаль 100% ад ягоных патрэбаў у імпарце расейскага газу. Украіна за кошт транзыту пакрывае імпарт з Расеі 30 млрд. м³ газу ў год, што эквівалентна $2,4 млрд. (Прамыя замежныя інвэстыцыі ва ўкраінскую эканоміку за ўсе гады незалежнасьці склалі ня болей за $4 млрд. пры гадавым бюджэце $6 млрд. і ВУП у $30 млрд. Для параўнаньня — дадзеныя па Беларусі: 1,2 млрд. даляраў інвэстыцый, бюджэт 5 млрд. і ВУП 11 млрд.). Акрамя таго, Украіна штогод здабывае 18 млрд. м³ уласнага газу пры спажываньні парадку 73 млрд. м³.

У разьліку на аднаго ўкраінца на аплату газу жывымі грашыма прыходзіцца $48 у год. Паколькі ў Беларусі адсутнічае здабыча газу, то пры пераходзе на рынкавыя адносіны давялося б аплачваць 80% ад кошту, што склала б $110 на аднаго беларуса.

### Праядаем грошы ўнукаў

Пераразьмеркаваньне рэсурсаў у нацыянальнай эканоміцы спараджаецца ўмяшальніцтвам дзяржавы ў дзейнасьць суб'ектаў гаспадараньня, якое мае на ўвазе адбіраньне прыбытку ў адных і перадачу яго ў выглядзе субсыдый іншым. Нягледзячы на зьніжэньне эфэктыўнасьці, у нацыянальнай эканоміцы такая палітыка дапушчальная ў крайніх выпадках, як лекі ў невялікіх дозах. Калі ж прадпрыемствы адносяцца да розных краін, абмен прэфэрэнцыямі павінен быць раўназначным, інакш губляецца ўвесь сэнс палітыкі пераразьмеркаваньня. Калі толькі яны не зьбіраюцца стаць прадпрыемствамі адной краіны.

Адным з заплянаваных мерапрыемстваў Праграмы эканамічнага супрацоўніцтва паміж Беларусяй і Расеяй на 2000—2005 г. зьяўляецца падрыхтоўка да аб'яднаньня газатранспартных сыстэм дзьвюх дзяржаў з увахоdjаньнем беларускай у склад "Газпраму". Эксплюатацыю другой веткі газаправоду "Ямал—Эўропа", будаўніцтва якой ужо канчаецца, меркавалася ажыцьцяўляць супольна. Можна меркаваць, што па патрабаваньнях расейскага боку акцыянаваньне "Белтрансгазу" мусіла скончыцца менавіта да гэтага часу. Іначай кажучы, Расея ў абліччы "Газпраму" не задарма субсыдуе Беларусь, а наўзамен разьлічвае атрымаць кантроль над транзытам свайго газу праз Беларусь, што дазволіць у пэрспэктыве зрабіць гэты транзыт бясплатным і зь лішкам кампэнсаваць цяперашнія страты. Паводле прыблізных разьлікаў, 3 гады бясплатнага транзыту роўныя аднаму году сёньняшніх субсыдый. Але ў пэрспэктыве аб'ём транзыту павінен павялічыцца: поўнае завяршэньне будаўніцтва "Ямала—Эўропы" дазволіць, па некаторых зьвестках, давесьці аб'ём пампоўкі газу да 60—70 млрд. м³.

Што датычыць Беларусі, то адбываецца своеасаблівае праяданьне стратэгічных рэсурсаў будучыні ў выглядзе страты кантролю над магістральным газаправодам і прыбытку ад транзыту газу — ўсё з-за імкненьня ўтрымаць на плаву састарэлыя беларускія вытворчасьці, не мадэрнізуючы іх. Прадукцыйнасьць тэхналёгій гэтых вытворчасьцяў вельмі нізкая: у некаторых галінах у 10—20 раз меншая, чым у разьвітых краінах, з прадукцыяй якіх даводзіцца канкураваць. У гэтых умовах павышэньне ў 3—5 разоў выдаткаў на энэргарэсурсы зробіць большыню беларускіх прадпрыемстваў неканкурэнтаздольнымі і змусіць іх закрыцца. Такім чынам, у эканамічнай палітыцы, што праводзіцца, дамінуюць

# расейскіх датацый

кароткатэрміновыя мэты і інтарэсы на шкоду доўгатэрміновым.

### Ці можна абысьціся без·прэфэрэнцый

На цяперашні момант Беларусь імпартуе больш за 85% паліўна-энэргетычных рэсурсаў ад узроўню спажываньня, пры гэтым удзельная вага Расеі ў імпарце энэргарэсурсаў складае амаль 100%. Поўная стаўка на Расею ў сфэры паставак энэргарэсурсаў зьяўляецца істотнай пагрозай нашай эканамічнай бясьпецы. Прычым небясьпека заключаецца ня столькі ў самім памеры — 100% паставак з аднае краіны, колькі ў эканамічнай залежнасьці Беларусі ад Расеі, якая заключаецца ў немагчымасьці 100%-ай аплаты энэргарэсурсаў у грашовай форме.

Прэфэрэнцыі Расеі — гэта своеасаблівы падмурак так званай беларускай эканамічнай мадэлі. Выбі яго, і ўстойлівая, на першы погляд, канструкцыя разваліцца.

Аслабленьне эканамічнай залежнасьці ад Расеі магло б адбывацца па меры структурнай перабудовы беларускай эканомікі. Неабходна было дачакаць моманту, калі прадпрыемствы з мадэрнізаванымі тэхналёгіямі склалі б крытычную долю (больш за 50%) у стварэньні ВУП, пасьля чаго Беларусь магла б бязбольна выйсьці з СНД, падаць заяўку на ўступленьне ў ЭЗ і перайсьці на рынкавыя адносіны з Расеяй у сфэры паставак энэргарэсурсаў. У гэтых умовах банкруцтва і санацыя неэфэктыўных вытворчасьцяў, якія ня здолелі прыцягнуць інвэстара, кампэнсаваліся б фінансавай падтрымкай з боку ЭЗ у рамках удзелу ў праграмах падрыхтоўкі да ўступленьня. Аднак непераадольнай перашкодай усяму гэтаму стала “паўстаньне мас” у 1994 г.

### Ілюзія супрацьстаяньня глябалізацыі

На думку прыхільнікаў інтэграцыі, саюз з Расеяй павінен быў стаць бастыёнам супраць эканамічнай глябалізацыі і экспансіі заходніх транснацыянальных карпарацый на постсавецкую прастору. Самым “грандыёзным” эканамічным праектам саюзу было стварэньне звыш дзясятка транснацыянальных і міждзяржаўных фінансава-прамысловых груп (ТФПГ і МФПГ) з удзелам беларускіх і расейскіх прамысловых прадпрыемстваў і банкаў. У іх ліку канцэрн “БелРасАўта” па разьвіцьці дызэльнага аўтамабілебудаваньня, “Элетэкс” — група, якая аб’ядноўвала прадпрыемствы дзьвюх краін па вытворчасьці тэлевізараў і камплектавых да іх, ТФПГ “Славянская папера” па вытворчасьці кардону і цэлюлёзы, МФПГ “Міждзяржмэтвыраб” па вытворчасьці мэталакорду і бартавога дроту, “Абаронныя сыстэмы” — альянс прадпрыемстваў зброевай сфэры, “Белаграінвэст”, які аб’ядноўваў вытворцаў мінэральных угнаеньняў.

Зацікаўленасьць беларускіх прадпрыемстваў у стварэньні ФПГ была выклікана надзеяй на атрыманьне субсыдый з саюзнага бюджэту і больш свабоднага выхаду на расейскі рынак, а таксама надзеяй на “манаполію на пакупніка”.

Як і прадказвалі многія эканамісты, спасылаючыся на аналягічныя прыклады ў Вугоршчыне, Польшчы, дзяржаўная падтрымка тэхналягічна адсталых і неэфэктыўных вытворчасьцяў ня здольная вырашыць праблему іх стратнасьці ў рынкавых умовах гаспадараньня. Гэта зьвязана зь несупастаўнасьцю неабходных для мадэрнізацыі сродкаў з наяўнымі ў нацыянальнай эканоміцы любой постсацыялістычнай краіны рэсурсамі.

Сьведчаньнем гэткай несупастаўнасьці служыць аб’ём фінансаваньня сумесных міждзяржаўных праграм з саюзнага бюджэту Расеі і Беларусі. У 2001 г. на выкананьне больш як пяцідзесяці саюзных праграм было выдаткавана каля $24 млн. (30% ад усяго бюджэту), у той час як для будаўніцтва аднаго толькі заводу па вытворчасьці кінэскопаў у рамках рэалізацыі праграмы “Саюзны тэлевізар” патрабуецца $500 млн.

Каб пазьбегнуць стратнасьці, прадпрыемствы, якія ўваходзяць у ФПГ, працягваюць выкарыстоўваць імпартныя камплектавыя. Гэтак, “Гарызонт” і “Віцязь” працягваюць выкарыстоўваць імпартовыя кінэскопы. А вось прадпрыемствы, якія ў рамках ФПГ зьвязаныя жорсткімі абавязкамі, маюць страты. Напрыклад, стварэньне канцэрну “БелРасАўта” прывязала аўтамабільныя заводы Беларусі да расейскіх вытворцаў рухавікоў, у выніку чаго быў практычна згублены рынак аўтаперавозак.

Крах бальшыні саюзных праграм канчаткова паказаў на практыцы ілюзорнасьць супрацьпастаўленьня саюзу Беларусі і Расеі, як самадастатковай эканамічнай сыстэмы, няўхільнай глябалізацыі сусьветнай эканомікі.

### Кансэрвацыя адсталасьці

Эканамічнае супрацоўніцтва ў рамках саюзнай дзяржавы Беларусі і Расеі антырынкавае па сваёй сутнасьці. Інтэграцыя прасоўваецца ў тых сфэрах, дзе рашэньні па-ранейшаму прымаюцца з цэнтру, а стымулам міжнародных эканамічных адносінаў зьяўляецца плян, а ня рынкавая цана. Яна ідзе толькі там, дзе беларускія ініцыятывы адпавядаюць інтарэсам расейскіх палітычных і эканамічных эліт, якія імкнуцца атрымаць бясплатны транзыт і доступ да вайсковай інфраструктуры, кантроль над прыбытковымі беларускімі прадпрыемствамі, фінансаваньне ў рамках асобных саюзных праграм, выгады ад бартэрных апэрацый.

У розных суб’ектах Расейскай Фэдэрацыі яшчэ захоўваюцца астраўкі “рынкавага сацыялізму”. Напрыклад, 29% замежнагандлёвага абароту Беларусі з Расеяй накіроўваецца ўсяго ў адзін суб’ект Фэдэрацыі — Маскву, у многім дзякуючы закупачной палітыцы мэра Лужкова, які аддае перавагу беларускім таварам замест заходніх, нягледзячы на тое што апошнія каштуюць таньней і маюць больш высокую якасьць.

І наадварот, інтэграцыя спыняецца ў тых сфэрах, дзе эканамічны лад дзьвюх краін ужо істотна адрозьніваецца. Напрыклад, шматлікія звароты кіраўніцтва Беларусі да Расеі з просьбай аб зьніжэньні цэнаў на нафту ня маюць ніякага водгуку, паколькі не фэдэральнае кіраўніцтва ўплывае на прыватныя нафтавыя кампаніі, а хутчэй яны на яго.

Пры гэтым, спрыяючы існаваньню неканкурэнтаздольных і стратных прадпрыемстваў, саюз Беларусі і Расеі стрымлівае выхад беларускай прадукцыі на іншыя рынкі. Ва ўсіх нашых суседзяў расьце тавараабарот з ЭЗ і падае з гаспадарча адсталымі краінамі СНД, тым самым адбываецца зьмена структур нацыянальных эканомік — у рамках як іх рынкавай трансфармацыі, так і міждзяржаўнай эўрапейскай інтэграцыі. Для параўнаньня, доля экспарту ў разьвітыя індустрыяльныя краіны ў 2000 г. у параўнаньні з 1990 г. узрасла ў Літве з 32% да 56%, у Польшчы з 65% да 76%, ва Ўкраіне з 15% да 23%, і ўпала ў Беларусі з 18% да 11%.


IREX-PROMEDIA

Газавая інтэграцыя

### З-за саюзу — без інвэстыцый

Вызначальным фактарам, які перашкаджае прыцягненьню замежных інвэстыцый у Беларусь, зьяўляецца не спэцыфічнае стаўленьне беларускіх уладаў да малога бізнэсу і не адсутнасьць тут выгадных праектаў для замежнага капіталу. Гэта наступствы ўжо іншай зьявы — канцэнтрацыі ўсяго беларускага замежнапалітычнага дзяржаўнага рэсурсу на постсавецкай прасторы, што праяўляе сябе ў формах саюзу Беларусі і Расеі ды СНД.

Калі параўнаць аб’ём прамых замежных інвэстыцый (ПЗІ) на душу насельніцтва за 1994—2000 г., то ў эўрапейскіх краінах СНД ён супастаўны (Малдова — $113, Украіна — $65, Беларусь, з улікам газаправоду “Ямал—Эўропа” — $120, Расея — $118), хаця ня ўсе зь іх праводзілі “папулісцкую” інвэстыцыйную палітыку, заклікаючы рабіць стаўку на ўнутраныя сілы, як Беларусь. Эканомікі гэтых краін моцна розьняцца па структуры. Аб’ядноўвае гэтыя краіны толькі адно: усе яны ўваходзяць у СНД. Краіны Балтыі, якія ад пачатку занялі цьвёрдую пазыцыю, не далі ўцягнуць сябе ў СНД і кінулі ўсе палітычныя рэсурсы на ўступленьне ў ЭЗ, дамагліся на парадак большага ўзроўню інвэстыцый (Літва, кандыдатка другое чаргі — $643, Эстонія, кандыдатка першае чаргі — $1360).

**Патэнцыял эканамічных інтарэсаў Беларусі ў Эўропе бясконца пераўзыходзіць часовыя выгады ад інтэграцыі з Расеяй**

Расейскі капітал ня можа забясьпечыць неабходных замежных інвэстыцый у эканоміку Беларусі. Па ацэнках аналітыкаў, для мадэрнізацыі тэхналягічнай базы беларускай эканомікі неабходна пад $35 млрд. Між тым, за 1994—2000 г. аб’ём ПЗІ ў эканоміку Беларусі без уліку газаправоду “Ямал—Эўропа” склаў $285 млн., зь іх, па ацэнках экспэртаў, доля расейскіх склала 15%, г.зн. крыху больш за $40 млн. У той час як усяго за апошнія 10 год у былыя постсацыялістычныя краіны было інвэставана больш за 100 млрд. дал. ЗША.

Магчымасьці расейскіх інвэстараў несупастаўныя з магчымасьцямі заходняга капіталу. Калі эканоміка Беларусі складае 5% ад эканомікі Расеі, то эканоміка Расеі — менш за 5% ад эканомікі ЭЗ. У пераліку па рынкавым курсе ВУП Расеі меншы, чым ВУП толькі адных Нідэрляндаў.

Патэнцыял эканамічных інтарэсаў Беларусі ў Эўропе бясконца пераўзыходзіць часовыя выгады ад інтэграцыі з Расеяй.

Сапраўды, глябалізацыя і транснацыяналізацыя сусьветнай эканомікі нераўнамерна пераразьмяркоўваюць рэсурсы паміж краінамі, а замежныя інвэстыцыі здольныя аказваць як пазытыўны, так і нэгатыўны ўплыў на разьвіцьцё краінаў (у залежнасьці ад эканамічнай палітыкі той ці іншай краіны). Аднак гэтыя працэсы носяць аб’ектыўны і непазьбежны характар. У канкурэнцыі паміж краінамі па прыцягненьні прыцягненьнем замежных інвэстараў шляхам уваходжаньня ў ланцужкі ТНК. Як вынік, Беларусь можа апынуцца выключанай з гэтых працэсаў. Замежныя інвэстыцыі могуць проста не пасьпець дапамагчы ў мадэрнізацыі беларускай эканомікі, і тады гэта будуць ужо зусім іншыя працэсы на іншых умовах — арганізацыя новых замежных і ліквідацыя мясцовых вытворчасьцяў.

Збыт нізкаякасных тавараў па нізкіх цэнах на эканамічнай прасторы СНД (90% у Расеі) толькі ствараe ілюзію захаваньня эканомікі са структурай, дзе пераважаюць гатовыя высокатэхналягічныя тавары. Пры адмове ад транснацыянальнага капіталу ва ўмовах нястачы ўнутраных інвэстыцый Беларусь непазьбежна ператворыцца ў “сыравінны прыдатак” на задворках сусьветнай эканомікі.




замежных інвэстыцый для тэхнічнага пераўзбраеньня самы галоўны рэсурс — гэта час.

Аб’яднаньне намаганьняў Беларусі і Расеі па падтрымцы неэфэктыўных вытворчасьцяў шляхам дзяржаўнага пратэкцыянізму і “ўзнаўленьня разарваных эканамічных сувязяў” даваляе гэтым прадпрыемствам марудзіць з мадэрнізацыяй і

### Сцэнары разьвіцьця падзей

Выбудоўваць верагодныя сцэнары далейшага эканамічнага супрацоўніцтва Беларусі і Расеі цяжка, паколькі эканоміка ў гэтым выпадку зьяўляецца закладніцай палітычных стасункаў.

Можна толькі адзначыць, што сыстэмныя зьмены, такія як увядзеньне расейскага рубля, шырокі перадзел уласнасьці і сродкаў вытворчасьці з удзелам расейскага капіталу і т.п., магчымыя толькі напярэдадні буйных палітычных кампаній. Бо “падмуркам” т.зв. “беларускай эканамічнай мадэлі” служыць захаваньне грашовай эмісіі і дзяржаўнага сэктару эканомікі. Таму, імаверней, сытуацыя можа разьвівацца ў выглядзе разавых набыткаў расейскім капіталам асобных “кавалкаў” беларускай гаспадаркі, якія “рынкава-сацыялістычная” Беларусь будзе пэрыядычна, але няўхільна “здаваць” набіраючай абароты рынкавай расейскай эканоміцы.

Цяперашнія эканамічныя адносіны Беларусі з Расеяй *спрыяюць* у кароткатэрміновым пэрыядзе стабільнасьці “беларускай эканамічнай мадэлі”. Але з пункту гледжаньня нацыянальных эканамічных інтарэсаў, якія заключаюцца ў павышэньні стандартаў жыцьця насельніцтва на аснове ўстойлівага эканамічнага росту ў доўгатэрміновым пэрыядзе, саюз Беларусі і Расеі хутчэй выступае *перашкодай* на адзіна магчымым шляху — інтэграцыі ў эўрапейскі палітычны, эканамічны і валютны саюз.

**Уладзь Калупаеў**

# Справа Рахманька

**14 лістапада пачаліся слуханьні па справе Віктара Рахманька, былога начальніка Беларускай чыгункі.**

З-за высокага статусу Віктара Рахманька першай інстанцыяй для яго зробіцца адразу Вярхоўны Суд. Сьледзтва па справе вялося амаль 10 месяцаў, матэрыялы справы налічваюць 39 тамоў. Абвінавачванаму інкрымінуюць чатыры крадзяжы на суму больш за мільён рублёў, два эпізоды атрыманьня хабару на суму звыш 19 млн., пяць фактаў злоўжываньня службовым становішчам, што нанесла Беларускай чыгунцы страты, роўныя 242 млн. рублёў. Фігуруе нават незаконнае паляваньне ў 1999 г., калі Рахманько, на думку сьледзтва, застрэліў лася і дзіка. Яшчэ сэнатара вінавацяць у падлогу й падробцы дакумэнтаў. Па справе Рахманька праходзяць яшчэ 5 абвінавачваных, у асноўным супрацоўнікі Беларускай чыгункі.

### Памочнік машыніста Рахманько

Віктар Рахманько нарадзіўся ў 1953 г. у Наваградку. Жанаты, мае траіх дзяцей. Скончыў Беларускі інстытут інжынэраў чыгуначнага транспарту. Пасьля арміі працаваў памочнікам машыніста цеплавоза Менскага лякаматыўнага дэпо. Наступнымі службовымі прыступкамі Рахманька былі месцы дзяжурнага па станцыі Баранавічы-Цэнтральныя, старшага інжынэра-графіста, цягніковага дыспэтчара аддзелу перавозак Баранавіцкага аддзяленьня БЧ, галоўнага інжынэра, начальніка станцыі Баранавічы-Цэнтральныя. Знаходзячыся на гэтай пасадзе, Рахманько прыйшоў у палітыку — зрабіўся дэпутатам Баранавіцкага гарсавету. У 1994 г. яго прызначылі начальнікам Баранавіцкага аддзяленьня БЧ. У 1996 г. Рахманько заняў таксама сэнатарскае крэсла, а ў кастрычніку 1998 г. зрабіўся начальнікам Беларускай чыгункі. Цікава, што незадоўга да ўзбуджэньня справы супраць Рахманька расейская генпракуратура зацікавілася сваім міністрам шляхоў зносінаў Мікалаем Аксёненкам. Мэдыі шмат казалі пра тое, што расейская й беларуская чыгуначнікаў зьвязвае старое сяброўства і што Аксёненка мог нават дапамагчы прызначэньню Рахманька на пасаду кіраўніка



БЧ. Сёлета ў студзені Пуцін зьняў Аксёненку.

### Гісторыя справы

21 лістапада 2001 г. генэральны пракурор узбудзіў крымінальную справу супраць Рахманька. 5 сьнежня 2001 г. яму выставілі абвінавачаньне ў злоўжываньні службовымі паўнамоцтвамі ды крадзяжы маёмасьці ў асабліва вялікіх памерах. Гэткія цяжкія абвінавачаньні былі ўпершыню прад'яўленыя сэнатару. Адпаведна артыкулу 102 Канстытуцыі, ня трэба было нават згоды парлямэнту на затрыманьне дэпутата. На пасадзе Рахманька, зь якога ўзялі падпіску пра нявыезд, замяніў Васіль Гапееў.

У сярэдзіне сьнежня пракуратура даслала афіцыйны ліст у савет рэспублікі. У ім паведамлялася, што Віктар Рахманько выкарыстаў службовае становішча ў кастрычніку 1999 г., калі пасяліў свайго сына Юр'я ў нумары "люкс" гатэлю "Экспрэс" на Прывакзальнай плошчы ў Менску. Усе выдаткі за сына (каля 14 тысячаў даляраў), які на чыгунцы не працаваў, але жыў у гатэлі амаль два гады, несла чыгунка. Пракуратура сьцьвярджала, што Рахманько змовіўся са службовымі асобамі калгасу "Шлях Леніна" Баранавіцкага раёну. За кошт калгасу быў пакладзены асфальт да лецішча Рахманька, што каштавала калгасу амаль 8 з паловаю тысячаў даляраў. Старшыня калгасу Уладзімер Арцянкоў сьцьвярджае, што пракладаў дарогу не да лецішча, а да вёскі Міхнаўшчына.

### Наша чыгунка

Беларускую чыгунку стваралі яшчэ за царскай Расеяй, каб зьяднаць цэнтар мэтраполіі з Заходняй Эўропай найкарацейшым шляхам. Днём яе заснаваньня лічыцца 29 лістапада 1871 г., калі пачала дзейнічаць чыгуначная лінія Смаленск—Ворша—Менск—Берасьце. Праўда, першы ўчастак чыгункі пабудавалі ў 1851—62 г. як частку магістралі Санкт-Пецярбург—Варшава.

Сёньня эксплюатацыйная працягласьць Беларускай чыгункі складае 5,5 тыс. кілямэтраў. У адміністрацыйным пляне яна складаецца з 6 аддзяленьняў (унітарных прадпрыемстваў): Менскага, Баранавіцкага, Берасьцейскага, Гомельскага, Магілёўскага ды Віцебскага. Яны ядналь 384 буйныя й малыя станцыі.

На чыгунцы працуюць больш за 110 тыс. чалавек. Па рэйках перавозяць 90% грузаў ды 60% пасажыраў. За шэсьць месяцаў гэтага году грузазварот склаў 16473,7 млн. тона-кілямэтраў — гэта на 11,3% больш, чым летась. А вось пасажыраў у першым паўгодзьдзі чыгунка мела на 14,2% меней, чым летась: паказьнік пасажырскіх перавозак склаў 7186,3 млн. пасажыра-кілямэтраў. За першую палову 2002 г. чыгунка зарабіла 553,2 млрд. рублёў. Зь іх 485,4 млрд. (87,7%) — прыбыткі ад перавозак, 67,2 млрд. рублёў (12,3%) — ад падсобна-дапаможнай дзейнасьці.

### Хто наварыць на перавозках

Перавозкі па Беларусі — стратная справа. Сёлета за першае паўгодзьдзе страты склалі 88,5 млрд. рублёў. Найбольш згубілі на прыгарадных цягніках — прыбыткі пакрылі толькі 35,8% выдаткаў. Нятанна абыходзіцца й будаўніцтва галоўнага корпусу новага вакзалу ў цэнтры Менску. За першыя шэсьць месяцаў на яго патрацілі 2 млрд. 672 млн. рублёў (большую частку сумы — мільярд 780 млн. — сплаціла чыгунка).

Зарабляе чыгунка на міжнародных перавозках, у першую чаргу на ўсходнім напрамку. Але й тут ня ўсё гладка. Зь ліпеня на Беларускай чыгунцы на экспартна-імпартныя перавозкі грузаў дзейнічае унутрырасейскі тарыф. Гэта азначае, што створаныя роўныя ўмовы для беларускіх ды расейскіх кампаніяў, паралельна са зьніжэньнем коштаў на грузаперавозкі па чыгунцы. Гэткае зьніжэньне выгаднае ў першую чаргу расейскаму боку, якому будзе лягчэй канкураваць зь іншымі, у тым ліку беларускімі таварамі на нашым рынку.

Маркетынгавыя дасьледаваньні, праведзеныя Беларускай чыгункай, абяцаюць зьніжэньне кошту перавозак, у асноўным на тэрыторыі Расеі (калі тавар вязуць зь Беларусі туды ці ў Беларусь адтуль). На 50—60% зьменшацца кошты транспартаваньня для нафтапрадуктаў, цэмэнту, бульбы, солі тэхнічнай; на 40—50% для вырабаў і лому чорных мэталаў; на 30—40% для ўгнаеньняў, керамічнай пліткі; на 15—30% для вугалю, лесаматэрыялаў, хлебных ды зерневых грузаў; на 10—40% для большасьці астатніх грузаў. Кошт перавозак па тэрыторыі Беларусі з Расеі ці ў Расею зьнізіцца ня так моцна: для цукру, цэглы, керамічнай пліткі й жалезабэтонных вырабаў на 10—40%, а для астатніх грузаў прыкладна на 10—20%.

На першы погляд здаецца, што беларусы знаходзяцца ў больш выгадных умовах, але ж гэтыя лічбы зьніжак ператворацца ў рэальныя грошы толькі тады, калі беларускі тавар сапраўды паедзе ў Расею. Насамрэч апошнім часам беларускі экспарт у краіны па-за СНД расьце, а ў краіны СНД, у тым ліку ў Расею, падае. Сёлета за сем месяцаў адмоўнае сальда ў гандлі з Расеяй склала 835 млн. даляраў. Увогуле, фінансавыя адносіны Беларускай чыгункі й расейскага Міністэрства шляхоў зносін даволі заблытаныя.

Паводле меркаваньняў экспэртаў, чыгуначныя перавозкі — адна зь нешматлікіх сфэраў, у якой Расея мае запазычанасьць перад Беларусяй. Называецца нават прыкладная лічба той запазычанасьці — 10 млн. даляраў. Але кіраўніцтва БЧ сьцьвярджае, што нічога гэтага няма, бо дзейнічае сыстэма ўзаемазаліку. Удасканальвалі яе менавіта Рахманько й Аксёненка.

**Алесь Кудрыцкі**



IREX-PROMEDIA

Цягнік Рахманька сышоў з рэек

# Талісман бізнэсоўца

*Пятнаццаць "зялёных" за двухдаляравую купюру*

Зьбіраньне даляраў у нас — не нумізматыка і не баністыка. У Беларусі, як і ў многіх іншых краінах, гэта сталася сродкам хоць неяк зьберагчы свае грошы ад інфляцыі. Ніводзін беларус не надумаецца прыдбаць зялёную "пяцёрку", "дзясятку", "дваццатку" ці "сотку" проста дзеля таго, каб была. Выключэньне можа быць зробленае хіба для аднае купюры — двухдаляравай.

Гэта вельмі рэдкая банкнота друкавалася ў ЗША апошнім разам у 1976 г., да 200-годзьдзя краіны. Наклад быў вельмі абмежаваны, таму нават многія амэрыканцы ніколі ня бачылі гэткай купюры і нават не падазраюць пра ейнае існаваньне.

На 2-даляровай банкноце выяўлены трэці амэрыканскі прэзыдэнт Томас Джэфэрсан (1743—1826) і рэпрадукцыя карціны "Абвяшчэньне незалежнасьці ЗША". Як сьведчаць знаўцы, на купюры канца XIX ст. былі партрэты вынаходцаў Морзэ і Фултана. Потым амэрыканскія ўлады вырашылі не парушаць традыцыі і вярнуцца да звыклых прэзыдэнцкіх выяваў.




Сярод бізнэсоўцаў шмат забабонных людзей, якія лічаць, што 2-даляравікі прыносяць удачу і посьпех у справах. Ня дзіва, што рэдкія банкноты карыстаюцца падвышаным попытам. Такі "талісман" можна прыдбаць у Менску за 15 даляраў — у 7,5 разу даражэй за намінал. Бліжэйшым часам іх цана можа падняцца: як паведамляе "*Вестник московского бухгалтера*", у Маскве гэтыя банкноты каштуюць ужо да 100 даляраў.

**Адам Воршыч**

## на тыдні

### Залежнасьць ад трубы

**11 лістапада ў Маскве прэм'ер-міністар Генадзь Навіцкі паабяцаў да 1 ліпеня 2003 г. скончыць акцыянаваньне "Белтрансгазу"**, што дазволіць расейскаму "Газпраму" праглынуць наш канцэрн. Разам з тым, Навіцкі заявіў, што Беларусі трэба "адыходзіць ад залежнасьці ад адной трубы".

### Новая "кола"

**Кампанія "Кока-кола Бэўрыджыз Беларусь" пляную распачаць у Беларусі выраб гатунку *"Coca-Cola light"***, 100 грамаў якога ўтрымліваюць 0,3 калёрыі замест 41 калёрыі ў традыцыйнай "коле". Раней нізкакалярыйную газіроўку завозілі з расейскіх заводаў. На беларускім заводзе кампаніі пад Калядзічамі працуе 200 чалавек.

### Усеагульная ёдызацыя

**Беларусь, чыё насельніцтва пакутуе на ёдавае галадаваньне, хутка не пабачыць аніякай іншай солі, акрамя ёдаванай.** Налета будзе забаронена ўвозіць у Беларусь неёдаваную соль, пачнецца поўны пераход харчовай прамысловасьці на соль зь ёдам.

### Дзяржава аддасьць "Беллегпрам"

**Прэзыдэнт канцэрну "Беллегпрам" Эдуард Нарышкін паведаміў, што прадпрыемства неўзабаве ператворыцца ў недзяржаўны холдынг.** Канцэрн складаецца з 91 прадпрыемства, на якіх працуюць 120 тысячаў чалавек. І хоць 71 прадпрыемства "Беллегпраму" ўжо не належыць дзяржаве, сярэдняя рэнтабэльнасьць застаецца вельмі малая — 5,3%.

### МТЗ прадае трактары сэрбам

**МТЗ прадаў 72 трактары "Беларус" у крэдыт Фонду разьвіцьця Ваяводзіны праз яго дылера — фірму "Аграпанонка-МТЗ-Фінке".** Трактары прызначаюцца для фэрмэраў Ваяводзіны. МТЗ пляную прадаваць у Сэрбію 300 трактароў штогод.

**А. К.**

## Царква ў вагоне

**У вайсковых гарадках Барысава адчыняюцца праваслаўныя цэрквы.** Так, у Лядзішчах зьявіўся храм Сьв.Георгія. У царкву ператварылі... чыгуначны вагон: зрабілі ганак, на даху прымацавалі крыж, а вокны закратавалі. Служыць там айцец Андрэй Шабалоўскі. Паводле ягоных словаў, пераабсталяваньне вагону ў царкву — звычайная практыка. У іншым вайсковым гарадку Барысава — Пячах — будаўніцтва праваслаўнай царквы Сьв.Дзьмітрыя Данскога яшчэ ня скончанае. Яна, у адрозьненьне ад лядзішчанскай, будзе мець традыцыйны выгляд — з купаламі ды званіцаю.

## Пра гімназію забыліся

**У Барысаве на 150 тыс. жыхароў толькі адна навучальная ўстанова, дзе выкладаньне вядзецца цалкам па-беларуску, — 2-я гімназія.** Працуе яна ўжо 11 гадоў. Вучыцца там 820 чалавек. Гімназія зазнае цяжкасьці ад недахопу беларускамоўных падручнікаў ды праблемаў з рамонтам старога будынку. Расейскамоўную 1-ю гімназію цалкам адрамантавалі да 900-годзьдзя Барысава, а пра 2-ю неяк забыліся.

## Рабеце стаўкі, барысаўцы!

**У хуткім часе ў Барысаве зьявіцца першае казыно.** Яго плянуецца разьмясьціць на першым паверсе рэстарацыі "Бярэзіна".

**Алег Скатарэнка, Барысаў**

## Zvaliūsia z dachu

**U vioscy Padlasiejki 72-hadovy stary vyrašyū adramantavać dach svajoj chaty.** Uźniaūsia pa drabinach navierch, ale tamaka nie ūtrymaūsia. Pakul u viosku dajechala "chutkaja", jon skanaū.

## Charčavacca — za svaje

**Baranavickija ūlady vyrašyli naleta admianić darmavoje charčavańnie ū špitalach.** Robicca heta z-za taho, što byccam by bolšaść nahatavanaha chvoryja nie jaduć, a vylivajuć. Charčavacca biaz hrošaj buduć tolki lhotniki, šerah jakich pakul nia vyznačany. Astatnija, razam z daktarami, musiać ješči ū stałoūcy za svoj košt. Na aščadžonyja hrošy (70 tys. dalaraū) horad kupić tamohraf. Praūda, i tym pryboram nielha budzie karystacca za tak.

## Tancy i viktaryna

**10 listapada baranavickaja arhanizacyja TBM ładziła imprezu, pryśviečanuju 120-hodździu J.Kupały i J.Kołasa.** U zali Pałacu kultury tekstylščykaū sabrałasia bolš za 400 čałaviek. Hledačam byli pradstaūlenyja pieśni na słovy tvorcaū, ich vieršy i biełaruskija tancy. TBM razdavała pryzy pieramožcam haradzkoj viktaryny, pryśviečanaj Kołasu i Kupału. Za pieršaje miesca vučniu 11-j klasy dali 30 tysiač rublioū; za druhoje 20 tys. atrymaū vajskoviec-adstaūnik, za 2 trecija pa 15 tys. uziali studenty baranavickich navučalnych ustanovaū.

**Rusłan Raviaka, Baranavičy**

## Калегіюм адновяць

**Рэстаўрацыя былога езуіцкага калегіюму пачнецца ў хуткім часе ў Воршы.** Адноўлены помнік архітэктуры XVII ст. стане дамінантай у гістарычна-культурным цэнтры гораду. У 1842 г. езуіцкія муры былі прыстасаваныя пад турму, якая праіснавала ў іх да 1989 г. У двухпавярховым будынку разьмесьцяцца музэі прыроды і мастацтва, выстаўныя залі, майстэрні мясцовых мастакоў, кавярні. Упрыгожаньнем места мусіць стаць адноўленая вежа з гадзіньнікам.

## Ангельцы набылі дом

**Новае жыльлё атрымаў сямейны дзіцячы дом Гаўрылаўцоў у Воршы.** Сродкі на набыцьцё шыкоўнага двухпавярховага катэджу ды прысядзібнага ўчастку выдаткавала ангельская дабрачынная арганізацыя "Надзея і дамы — дзецям". Сямейны дзіцячы дом Надзеі і Васіля Гаўрылаўцоў зьявіўся 7 гадоў таму і налічвае дзесяць дзяцей ад 5 да 18 году. Пакуль ён адзіны ў Воршы. Брытанская арганізацыя за 2,5 году працы ў Беларусі набыла жыльлё для 15 сямейных дамоў, у якіх выхоўваецца 130 дзяцей.

## Аштрафавалі немца

**Прадстаўнік нямецкай фірмы "Штоц-Агра-Сэрвіс", што арандуе зямлю ў калгасе імя Чапаева** (Аршаншчына), аштрафаваны інспэкцыяй па экалёгіі за самавольнае спаленьне саломы, забароненае нашым прыродаахоўным заканадаўствам. Аднак штрафу ў 277 тыс. рублёў Кляўс Плётц пакуль не заплаціў. Цяпер ён вырашае пытаньне аб падаўжэньні візы на знаходжаньне ў Беларусі.

## Аварыя на рагу

**На рагу аршанскіх вуліц Савецкай і Замкавай сутыкнуліся "Жыгулі" й "КамАЗ".** Дзякуй богу, кіроўцы ды пасажыры не пацярпелі. Грузавік выехаў на тратуар ды ўрэзаўся ў кавярню "Замкавуч". Асноўны ўдар прыняў на сябе стылізаваны кантрафорс.

**Віктар Лютынскі, Ворша**

# Крыж па-за законам

У верасьні ў вёсцы Беліца (Лідчына), дзе ў 1659 г. тутэйшае шляхецкае рушаньне пабіла маскоўскае войска Хаванскага, быў усталяваны памятны крыж — якраз ля броду цераз Нёман, дзе адбылася бітва. Ініцыяваў ушанаваньне памяці продкаў старшыня мясцовай філіі ТБМ Станіслаў Суднік. Праз два тыдні мясцовыя ўлады паведамілі яму, што крыж усталяваны "незаконна" — без даведкі з Інстытуту гісторыі, зямельнага пляну і г.д. — і яго трэба зьнесьці. У адказ людзі, падахвочаныя мясцовым пробашчам, зладзілі ля крыжа дзяжурства. Улады крыху адступіліся, параіўшы С.Судніку хутка сабраць усе неабходныя паперкі, але сытуацыя з крыжам яшчэ застаецца няпэўнай.



Сам С.Суднік цьвердзіць, што зямля, на якой стаіць крыж, — няўдобіца, непрыдатная для гаспадарчага выкарыстаньня. Дазвол на ўсталяваньне крыжа яму быў выдадзены на паседжаньні рады мясцовага сельсавету. На той час, паводле словаў старшыні філіі ТБМ, аніякіх іншых дакумэнтаў ад яго не патрабавалі. "Я не абавязаны ведаць, якія дакумэнты патрэбныя, — кажа С.Суднік. — Я мушу толькі сабраць дакумэнты, а ўжо якія — мусяць ведаць чыноўнікі. Тады яны ад мяне большага не патрабавалі". Толькі пасьля ўсталяваньня крыжа райвыканкам адмяніў дазвол сельсавету.

С.Суднік не зьбіраецца здавацца: "Я пэўны, што кожны суд вырашыць справу на маю карысьць". Цяпер старшыня лідзкай філіі ТБМ чакае адказу з Інстытуту гісторыі: туды быў накіраваны запыт наконт гістарычнасьці самой падзеі.

**С.М., А.Ш.**

## Гарадзенскі адказ Пуціну

**Гарадзенская арганізацыя БНФ зьбіраецца ладзіць пікеты пад лёзунгам "За незалежнасьць"** супраць прапановы расейскага прэзыдэнта Пуціна аб уключэньні Беларусі ў склад Расеі. Адбудуцца яны 16 лістапада з 11 да 13-й на прыпынку каля гандлёвага дому "Берасьце" і каля Дому сувязі. Мерапрыемства пройдзе ў рамках агульнабеларускай акцыі 17 лістапада.

**Андрэй Мялешка, Гародня**

## Бізнэс віцебскіх астролягаў

**Віцебскі цэнтар маркетынгу прапануе новую паслугу — астралёгію бізнэсу.** Там можна замовіць структурны аналіз фірмы, прагноз у сфэры дзейнасьці і адпаведную ацэнку пэрсаналу. Асноўнае значэньне надаецца гараскопу часу рэгістрацыі фірмы, таму віцебскім бізнэсмэнам рэкамэндавана зьвяртацца да астролягаў яшчэ да пачатку асноўнай дзейнасьці.

## Прэзэнтацыя макетаў

**6 лістапада ў Віцебску адбылася прэзэнтацыя архітэктурнага макету зьнішчанай у 1985 г. забудовы часткі праспэкту Фрунзэ ў раёне Летняга амфітэатру.** Стварылі макет архітэктары Алесь Вашкевіч і Аляксандар Міхалюкоў пры ўдзеле Ігара Цішкіна, які забясьпечваў гісторыка-археалягічную частку дасьледаваньняў. Тры будынкі, узноўленыя ў маштабе 1:50, былі архітэктурнымі помнікамі XVII—XVIII ст. Зьнесьці іх загадаў тагачасны галоўны архітэктар Ул.Андаралаў — дзеля спрашчэньня руху тралейбусаў. Прэзэнтацыя пляншэту з макетамі адбылася ў кавярні "Альгерд", блізка да месца, дзе некалі стаялі архітэктурныя помнікі.

## Ламан у музэі Шмырова

**8 лістапада ў музэі Шмырова адбылася сустрэча з акторам Коласаўскага тэатру Пятром Ламанам.** Яе арганізавала супрацоўніца музэю Тацяна Маранава, якая нядаўна пераехала ў Віцебск зь Езярышча. Зь ейным зьяўленьнем у музэі вядомага партызана ўпершыню загучала беларуская мова. Падчас сустрэчы бард Леанід Маранаў прасьпяваў свае песьні на вершы Пятра Ламана.

**Міхал Чарвінскі, Віцебск**

## Мыльныя мянялы

**Не пашанцавала кіроўцу Смургонскага заводу аптычнага станкабудаваньня.** У лазьні яму тэрмінова спатрэбіліся беларускія рублі. У кішэні былі толькі сто даляраў. Памяняць грошы вызваліся два выпадковыя знаёмцы. Няцяжка здагадацца, што мяняюць яны іх да сёньня.

**Мар'ян Вянгроўскі, Астравец**

## Зачыніўся "Вольны горад"

**Нумар ад 1 лістапада завяршыў сабой выданьне крычаўскага незарэгістраванага тыднёвіка "Вольны горад".** Прычынай закрыцьця сталіся фінансавыя праблемы. За ўвесь час існаваньня, з 1998 г., сьвет пабачылі 109 нумароў "Вольнага гораду", якія друкаваліся ў смаленскай друкарні й распаўсюджваліся сярод жыхароў Крычаўшчыны.

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

## Ставяць царкву

**Праваслаўную царкву на 10 купалоў узводзяць у Бялынічах на месцы, дзе некалі стаяў кармэліцкі касьцёл.** Будынак касьцёлу быў зруйнаваны ў 1967 г. пры дапамозе піратэхнікаў зь Ленінграду. На пачатку году будаўніцтва царквы было абвешчана на Бялынiччыне ўсенароднай справай. На ахвяраваньні бялынічанаў ужо пастаўлены зруб бажніцы. Цяпер спэцыялісты зь Менску выбрабляюць купалы. На гэта трэба 10 кубоў драўніны і тона медзі. Каштуюць дах і купалы больш за 35 млн. рублёў.

## Багатыя бялынічане

**Паводле інфармацыі адміністрацыі бялыніцкай філіі №701 ААТ "Беларусбанк", з пачатку году дэпазыты ўкладаньнікаў філіі ў нацыянальнай валюце вырасьлі на 82%, а ў замежнай — на 26%.** Яны вымяраюцца сумамі ў 468,6 млн. рублёў і 242,3 тыс. умоўных адзінак. У пераліку на кожнага жыхара раёну гэта складае па 19525 руб. і 10,1 у.а.

**Базыль Ліцьвіновіч, Бялынічы**

## Лекар з гузікамі

**У Чавусах тры дні гастраляваў так званы народны лекар Уладзімер.** Лячыў ён шляхам унушэньня і сапраўды бясплатна, затое "замоўленыя" гузікі, булаўкі і сьвечкі прадаваў па 6000 рублёў за кожную.

**"Іскра", Чавусы**

## Паганская эўраінтэграцыя

**Асяродак беларускіх паганцаў *"Gega Ruch — Kryūskaja Draūgija Druvingaū"* быў залучаны ў склад панэўрапейскага рушаньня *"Heathen Front"* у якасьці Крыўскай філіі.** Адным зь лідэраў і ідэолягаў Фронту зьяўляецца слынны нарвэскі дзяяч і музыка Варг Вікернэс, які цяпер адбывае тэрмін за забойства сатаніста. Расейскія нэапаганцы мелі намер стварыць усеславянскае задзіночаньне, куды, на іх думку, мусілі ўвайсьці й беларускія прыхільнікі старавечных культаў. Адылі, зважаючы на належнасьць нашага краю да Прыбалтыйскага гісторыка-культурнага рэгіёну і балцкую дахрысьціянскую традыцыю, крыўскія друвінгі адмовіліся ад супрацы пад славянскаю эгідаю.

**Аляксей Дзярманіс, Менск**




IREX-PROMEDIA

У ноч з 7 на 8 лістапада невядомыя расьпісалі і размалявалі сьцены мячэта ў Слоніме. Кіраўнік мясцовых мусульманаў Сулейман Байрашэўскі (на здымку) кажа, што гэты вандалізм адбыўся ўжо ня першы раз.

## 18 ПАНЯДЗЕЛАК, ЛІСТАПАДА

### БТ

6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00 Навіны.
6.15, 7.15, 8.15 Добрай раніцы, Беларусь!
9.15,17.00 "Пецярбурскія таямніцы". Сэрыял.
10.05 Кола тэлеагляду.
10.20 Існасьць. Духоўная праграма.
10.45 Плянэта АРТ.
11.10, 22.00 "Магія каханьня". Сэрыял.
12.20 "На скрыжаваньнях Эўропы". Нацыянальны тэлефэстываль песьні.
13.05 Тэлебаромэтар. Прагноз надвор'я.
13.20 Г.Польскіх у кінааповесьці "Дзікі сабака дынга".
15.20 "Машына ператварэньняў". Сэрыял для дзяцей.
15.50 "Сузор'е надзей". Нацыянальны тэлевізійны конкурс юных талентаў.
16.20 Мультыклюб.
18.20 Камэдыя "Дублёрка" (Францыя).
20 05 Галоўнае пытаньне.
20 40 Калыханка.
21.00 Панарама. Інфармацыйны канал.
21.45 Навіны рэгіёну.
22 50 10 хвілін пра спорт.
23 20 Зона Ікс.
23 30 Сэрыял "Першая хваля" (Канада–ЗША).

### СТВ

16.05 "Сьвет Бобі". Мультсэрыял.
16.30, 19.30, 23.25 "24 гадзіны".
16.50 "Сямейныя страсьці". Ток-шоў.
17.55 "Пад вуглом 23 з паловай". Дак. фільм.
18.25 "Хіт-момант".
18.35 "Кобра". Тэлесэрыял.
19.15 Музыка на СТВ.
19.45 "Навіны СНД".
20.00 "Добры вечар, маленькі...".
20.15 "СТВ-спорт". Тэлеальманах.
20.35 "Партрэт у інтэр'еры".
20.50 "Запрашаем паскардзіцца".
21.00 "Тэхналёгія".
21.10 "Арт-экспрэс". Культурнае жыцьцё сталіцы.
21.25 "Расейскі цуд". Рэальнае кіно.
22 25 "Мэрсэдэс". Дак. фільм.
23.40 "Накаўт". Навіны боксу.
0.05 Начны экран: Джэймз Сьцюарт, Рычард Атэнбара, Пітэр Фінч у прыгодніцкім фільме "Палёт Фэнікса".

### 8 КАНАЛ

17.30 Мультфільм "Том і Джэры".
17.40 Фантастычны трылер "Чужыя".
19.50 Дак. фільм "Дзікія пумы Андаў".
20.40 Тэлекрама.
20.45 "Вечарніца".
21.00 "Аўта-курс".
21.15 Дэтэктыў "Залатыя павукі".

### Першы музычны канал

7.00 "Пад'ёмнік".
8.30, 17.00, 20.30, 22.15 MegaMix.
12.00 "Azon".
14.00, 22.10 Навіны спорту.
14.10 "ІнтэрАктыў".
16.00 "Скул-парад".
18.30 Музыка.ru.
19.30 People-mix.
22.00 "120/80". Інфармацыйна-забаўляльная праграма.

### АНТ

**Тэхнічная прафіляктыка да 16.35.**
16.35 АНТ прадстаўляе: "Контуры".
17.15 Чалавек і закон.
18.00, 20.30, 23.15 "Нашы навіны".
18.10 "Вялікае мыцьцё".
19.05, 21.10 "Неахопны Разанаў. Юбілей".
20.00 Час.
22.10 Шматсэрыйны фільм "Ледавіковы пэрыяд". 5-я сэрыя.
23.25 "Фабрыка зорак".
23.55 "Іншы час".
0.35 "На футболе".
1.05 "Апалёгія".

### РТР

7.45 Бэт Мідлер, Даяна Кітан, Голдзі Хоўн і Сара Джэсыка Паркер у камэдыі "Клюб першых жонак" (ЗША). 1996 г
9.45 Весткі. Дзяжурная часьць.
10.00, 19.00 Весткі.
17.50 Сэрыял "Зладзейка. Шчасьце напракат".
18.50 Дабранач, дзеці!
19.35 Мясцовы час. Весткі–Масква.
19.55 Расейская сэрыя. Тэлесэрыял "Ніна. Расплата за каханьне".
21 00 Прэм'ера. Тэлесэрыял "Марш Турэцкага-3. Хто страляе апошнім".
22.00 Ток-шоў "Весткі +".
22.35 "Культурная рэвалюцыя". "Публічны чалавек ня мае права ўтойваць сваё жыцьцё".

### Культура

17.30, 23.00 Навіны культуры.
17.45 Улада факту.
18.10 "Дапамажыце Тэлеку".
18.20 Сцэнаграма.
18.45 С.Пракоф'еў. Першы канцэрт для фартэпіяна з аркестрам.
19.00 75 год рэжысэру. "Службовыя раманы Эльдара Разанава".
19.40 "Жорсткі раманс". Маст. фільм.
22.00 Весткі.
22.10 Тэатральная Расея. "Дон Кіхот, ці Сумная аповесьць пра Дон Кіхота Ляманцкага". Спэктакль Навасібірскага моладзевага тэатру "Глёбус".
23.25 "Начны палёт".

### НТВ

9.00 Сёньня раніцай.
9.20 Надвор'е на заўтра.
9.25 "Надоечы".
11.00, 15.00, 16.00, 17.00 Сёньня.
14.40 "Не вучыце мяне жыць". Ток-шоў "Прынцып даміно".
16.05 Баявік "Агент нацыянальнай бясьпекі". "Шантаж".
17.15 "Увага. Вышук!".
18.00 "Сёньня" з Тацянай Мітковай.
18.35, 22.15 Дэтэктыў "Крот-2".
19.45 Сэрыял "На рагу, ля Патрыярхавых-2". 4-я сэрыя.
21.00 "Сёньня ўвечары" з Кірылам Пазднnetwork
21.35 Сэрыял "Трэці лішні".

### Эўраспорт

9.30 Аўтагонкі сэрыі НАСКАР. ЗША. Паўтор.
10.30 Тэніс. Мастэрз. Шанхай. Фінал. Паўтор.
12.30 Парусны спорт. 1/4 фіналу. Новая Зэляндыя. Паўтор.
13.30 Ралі. Вялікабрытанія. Паўтор.
14.00 Футбол. Легенды чэмпіянатаў Эўропы. Паўтор.
15.00 Тэніс. Мастэрз. Шанхай. Фінал. Паўтор.
17.00 Футбол. 1/2 фіналу.
19.00 Эўрагалы. Футбольны часопіс.
20.45 Футбольны часопіс лігі чэмпіёнаў. Паўтор.
21.45 Футбольны часопіс лігі чэмпіёнаў. Паўтор.
22.15 Эўрагалы. Футбольны часопіс. Паўтор.
1.15 Ралі. Вялікабрытанія.

## 19 АЎТОРАК, ЛІСТАПАДА

### БТ

6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00 Навіны.
6.15, 7.15, 8.15 Добрай раніцы, Беларусь!
9.15, 17.00 "Пецярбурскія таямніцы". Сэрыял.
10.05 "Падарожжа вакол сьвету". Дак. сэрыял (ЗША).
10.20 Час мясцовы.
10.45 Падарожжа дылетанта. Таямніцы Камайскага храму.
11.00 Сола для дэбютанта. Яўген Шымановіч (клярнэт).
11.10, 22.00 "Магія каханьня". Сэрыял.
12.20 Добры дзень, Беларусь!
13.10 Г.Польскіх у ваенным рамане "Вернасьць".
14.40 Дак. сэрыял "Патаемныя людзі".
15.25 "Машына ператварэньняў". Сэрыял для дзяцей.
15.50 "Усе на арбіту!" Пазнавальны сэрыял.
16.00 Пяць цудаў.
16.10 5х5. Інфармацыйна-забаўляльная праграма для старшаклясьнікаў.
16.55 Кліп-абойма.
18.20 "Дзьве жанчыны ў Парыжы". Маст. фільм (Міжнародны францускі канал).
20.05 Ток-шоў "Стадыен".
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама. Інфармацыйны канал.
21.45 Навіны рэгіёну.
22.50 10 хвілін пра спорт.
23.20 Зона Ікс.
23.30 Начны этэр.
0.35 Эратычная камэдыя "Каханьне і сэкс" (ЗША).

### СТВ

5.00 "Мэш". Сэрыял.
5.30 "Шэршэ ля ФАН".
6.0. 15.35 "Чарапашкі ніндзя: новая мутацыя". Тэлесэрыял.
6.30, 15.05 "Джым Батан". Мультсэрыял.
7.00, 14.35 "Чалавек-павук". Мультсэрыял.
7.30, 12.30, 16.30, 19.30, 23.45 "24 гадзіны".
7.45, 20.15 "СТВ-спорт". Тэлеальманах.
8.05, 19.45 "Навіны СНД".
8.20, 20.50 "Менск і менчукі".
8.30 "Тэхналёгія".
8.40 "Меншчына. Людзі, падзеі, факты"
8.50 Кіно: Торын Блэк, Нэнсы Эвэрхард, Грэг Эвіган у фантастычным фільме "Монстар зь бездані".
11.00 "Пакуль гарыць сьвечка".
11.30 "Яга, цёмная страсьць". Тэленавэла.
12.50 "Вовачка". Сэрыял.
13.20, 18.35 "NEXT". Тэлесэрыял.
16.05 "Сьвет Бобі". Мульт. сэрыял.
16.50 "Сямейныя страсьці". Ток-шоў.
17.55 "Пад вуглом 23 з паловай". Дак. фільм (ЗША)
18.25 "Хіт-момант".
20.00 "Добры вечар, маленькі..."
20.25 "Тэма дня".
20.35 "Добры дзень, доктар!"
21.00 "Тэхналегія".
21.10 "Закон і крымінал".
21.25 "Расейскі цуд". Рэальнае кіно.
22.25 Кіно: В.Праскурын, К.Лаўроў, С.Любшын у сатырычнай камэдыі "Скура".
0.05 Начны экран: Джон К'юсак, Анжэліка Х'юстан, Анэт Бэнінг у псыхалягічным трылеры "Кідалы".

### 8 канал

17.30 Мультпарад.
17.40 Маст. фільм "Бой пасьля перамогі", 1-я сэрыя.
19.00 "Банка коміксаў".
19.15 Прыгодніцкі фільм "Бэрмудзкі трохкутнік".
20.40 Тэлекрама.
20.45 "Вечарніца".
21.00 Гурман-клюб.
21.20 Л.Філатаў у маст. фільме "Забытая мэлёдыя для флейты".

### Першы музычны канал

7.00 "Пад'ёмнік".
8.30, 17.30, 20.30, 22.45 MegaMix.
12.00, 16.40"Azon".
14.00, 22.10 Навіны спорту.
14.10 "ІнтэрАктыў .
16.00 "20-ка Першых".
18.30 Музыка.RU.
19.30 People-mix.
22.00 "120/80". Інфармацыйна-забаўляльная праграма.
22.30 "Заваёўнікі кантынэнтаў".

### АНТ

8.00 Тэлеканал "Добрай раніцы".
9.00 Навіны.
9.15, 19.05 "Сямейныя повязі". Сэрыял.
10.00 "Жывёлы-парушальнікі". Вострасюжэтны фільм.
10.50. 23.30 "Фабрыка зорак".
11.15 Дыснэй-клюб: "Перапынак".
16.45 "Самі з вусамі".
17.15 Незалежнае расьсьледаваньне.
18.00, 20.30, 23.20 "Нашы навіны".
18.10 "Вялікае мыцьцё".
20.00 Час.
21.10 "Апошні герой-2". "Тыгры".
22.15 Шматсэрыйны фільм "Ледавіковы пэрыяд". 6-я сэрыя.
0.00 Тэлеканал "Новы дзень". "Ведзьмакі". 1-я сэрыя.
0.30, 1.30 "Апалёгія"
1.00 Тэлеканал "Новы дзень". "Геніі і ліхадзеі". Фрыцьеф Нансэн.

### РТР

7.45, 19.55 Тэлесэрыял "Ніна. Расплата за каханьне".
8.50, 21.00 Тэлесэрыял "Марш Турэцкага-3. Хто страляе апошнім".
9.45 Весткі. Дзяжурная часьць.
10.00, 19.00 Весткі.
17.50 Сэрыял "Зладзейка. Шчасьце напракат".
18.50 Дабранач, дзеці!
19.35 Мясцовы час. Весткі–Масква.
22.00 Ток-шоў "Весткі +".
22.35 Апошні сэанс. Жан Рэно ў фільме "Прыдуркі" (Францыя). 1995 г.

### Культура

15.00 "Разуменьне". "Агонь".
15.55 "Трацьцякоўка – дар бясцэнны!" "Што ёсьць ісьціна?"
16.20 "Твар у твар". Фільм 2-і з дак. цыклу "Калыма".
17.30, 23.00 Навіны культуры.
17.45 "Палацавыя таямніцы". "Велічны сірата".
18.10 "Дапамажыце Тэлеку".
18.20 Дак. сэрыял "Сакрэтныя фізікі". Якаў Зяльдовіч.
18.45 "Партытуры не гараць".
19.30 Да 75-годзьдзя Міхаіла Ўльянава. "Тэма". Маст. фільм.
21.05 "Што рабіць?"
22.00 Весткі.
22.15 "Экалёгія літаратуры". Чынгіз Айтматаў.
23.25 "Начны палёт".

### НТВ

9.00 Сёньня раніцай.
9.20 "Увага. Вышук!".
10.00, 15.00 Сёньня.
10.05 Кулінарны паядынак.
11.00, 16.00, 17.00 Сёньня.
14.40 "У пасьцелі з ворагам". Ток-шоў "Прынцып даміно".
16.05 Сэрыял "На рагу, у Патрыярхавых-2". 4-я сэрыя.
17.20 Дак. драма "Злачынства і пакараньне".
18.00 "Сёньня" з Тацянай Мітковай.
18.35, 22.15 Дэтэктыў "Крот-2". 9-я сэрыя.
19.45 Сэрыял "На рагу, ля Патрыярхавых-2". 5-я сэрыя.
21.00 "Сёньня ўвечары" з Кірылам Пазднnetwork
21.35 Сэрыял "Трэці лішні".

### Эўраспорт

9.30 Футбол. Легенды чэмпіянатаў Эўропы. Паўтор.
10.30, 14.30 Эўрагалы. Футбольны часопіс. Паўтор.
12.00 Конны спорт. Паказальныя выступленьні. Паўтор.
13.00 Ралі. Вялікабрытанія. Паўтор.
16.00 Экстрэмальны часопіс YOZ.
16.30 Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат сьвету. Турцыя. Паўтор.
18.00, 21.00 Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат сьвету. Польшча. Жывая трансьляцыя.
20.00 Футбольны часопіс лігі чэмпіенаў. Паўтор.
23.00 Бокс Жывая трансьляцыя.
0.45 Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат сьвету. Польшча. Паўтор.

## 20 СЕРАДА, ЛІСТАПАДА

### БТ

6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00 Навіны.
6.15, 7.15, 8.15 Добрай раніцы, Беларусь!
9.15, 17.00 "Пецярбурскія таямніцы". Сэрыял.
10.10 "Падарожжа вакол сьвету". Дак. сэрыял (ЗША).
10.20 "Сьпявай, душа!" Летнія ўспаміны.
10.45 Здароўе. Тэлечасопіс.
11.15, 22.00 "Магія каханьня". Сэрыял.
12.20 Добры дзень, Беларусь!
13.15 Г.Польскіх у кінакамэдыі "Нікчэмная мітусьня".
14.40 Дак. сэрыял "Патаемныя людзі".
15.25 "Машына ператварэньняў". Сэрыял для дзяцей.
15.50 "Усе на арбіту!" Пазнавальны сэрыял.
16.00 Пяць цудаў.
16.10 5х5.
16.55 Кліп-абойма.
18.20 Масква – Менск.
18.35 Ц.Рот і Дж.Орманд у крымінальнай драме "Ў пастцы".
20.15 "Беларускае Палесьсе". Відэафільм АТН.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама. Інфармацыйны канал.
21.45 Навіны рэгіёну.
22.50 10 хвілін пра спорт.
23.20 Зона Ікс.
23.30 Начны этэр.
1.05 А.Пяскоў і С.Шакураў у фантастычным прыгодніцкім фільме "Хагі-Трагер" (Расея–ЗША).

### СТВ

5.00 "Мэш". Сэрыял.
5.30 "Шэршэ ля ФАН".
6.00, 15.35 "Чарапашкі ніндзя: новая мутацыя". Тэлесэрыял.
6.30, 15.05 "Джым Батан". Мультсэрыял.
7.00, 14.35 "Чалавек-павук". Мультсэрыял.
7.30, 12.30, 19.30, 23.50 "24 гадзіны".
7.45, 20.15 "СТВ-спорт".
7.55, 19.45 "Навіны СНД".
8.10 "Добры дзень, доктар!".
8.25 "Сьнеданьне зь Інай Афанасьевай".
8.30, 21.00 "Тэхналёгія".
8.40 "Меншчына. Людзі, падзеі, факты".
8.50 Кіно: Нікалас Кейдж, Холі Хантэр, Джон Гудмэн у крымінальнай камэдыі братоў Коэнаў "Выхаваньне Арызоны".
11.00, 21.10 "Аўтапанарама".
11.15 "Тэатральныя гісторыі".
11.30 "Яга, цёмная страсьць". Тэленавэла.
12.50 "Такая прафэсія".
13.20, 18.35 "NEXT". Тэлесэрыял.
16.05 "Сьвет Бобі". Мультсэрыял.
16.50 "Сямейныя страсьці". Ток-шоў.
17.55 "Пад вуглом 23 з паловай". Дак. фільм.
18.25 "Хіт-момант".
20.00 "Добры вечар, маленькі...".
20.25 "Навіны сусьветнай шоў-індустрыі".
21.25 "Расейскі цуд". Рэальнае кіно.
22.25 Кіно: М.Дзяржавін, М.Кокшанаў, А.Панкратаў-Чорны ў камэдыі "Імпатэнт".
0.05 "Ілюзіён": Грэта Гарба і Шарль Буае ў гістарычнай мэлядраме "Пакарэньне".

### 8 канал

17.30 Мультпарад.
17.40 Маст. фільм "Бой пасьля перамогі", 2-я сэрыя.
19.00 Праграма "Майстэрства вылечваньня".
19.15 Маст. фільм "Прывідная мэта".
20.45 "Вечарніца".
21.00 Эўропа сёньня.
21.30 Містычны трылер "Сны".

### Першы музычны канал

7.00 "Пад'ёмнік".
8.30, 17.00, 20.30, 22.15 MegaMix.
12.00, 16.00 "Azon".
14.00, 22.10 Навіны спорту.
14.10 "ІнтэрАктыў".
18.30 Музыка.RU.
19.30 People-mix.
22.00 "120/80". Інфармацыйна-забаўляльная праграма.

### АНТ

8.00 Тэлеканал "Добрай раніцы".
9.00 Навіны.
9.15, 19.05 "Сямейныя повязі". Сэрыял.
10.00 Таямніцы стагодзьдзя. "Апошні палёт Валерыя Чкалава".
10.40, 23.25 "Фабрыка зорак".
11.05 Сэрыял "Твінісы".
16.15 Міхаіл Ульянаў у фільме "Факты мінулага дня". 1-я сэрыя.
17.30 "Жарт за жартам".
18.00, 20.30, 23.15 "Нашы навіны".
18.10 "Вялікае мыцьцё".
20.00 Час.
21.10 "Расейская рулетка".
22.10 Шматсэрыйны фільм "Ледавіковы пэрыяд". 7-я сэрыя.
23.55 Тэлеканал "Новы дзень". "Ідалы". Одры Хепбэрн.
0.25, 1.25 "Апалегія".
0.55 Тэлеканал "Новы дзень". "Далёкая палуба".

### РТР

7.45, 19.55 Тэлесэрыял "Ніна. Расплата за каханьне".
8.50, 21.00 "Марш Турэцкага-3. Хто страляе апошнім".
9.45 Весткі. Дзяжурная часьць.
10.00, 19.00 Весткі.
17.50 Сэрыял "Зладзейка. Шчасьце напракат".
18.50 Добрай ночы, дзеці!
19.35 Мясцовы час. Весткі–Масква.
22.00 Ток-шоў "Весткі +".
22.35 Апошні сэанс. Прэм'ера. Фільм Жэрара Карб'ё "Кароль танцуе" (Францыя–Германія–Бэльгія).

### Культура

15.05 "Разуменьне". "Эвалюцыя".
15.55"Арт-панарама".
16.20 "Вайна пасьля вайны". Фільм 3-ці з дак. цыклу "Калыма".
17.30, 23.00 Навіны культуры.
17.45 "Айчына і лёсы". Дзьмітры Равінскі.
18.10 "Дапамажыце Тэлеку".
18.20 Дак. сэрыял "Сакрэтныя фізікі". Андрэй Сахараў. Фільм 1-ы.
18.50 75 год Міхаілу Ўльянаву. "Выратавальны круг".
19.30 "Старшыня" Маст. фільм. 1-я сэрыя.
21.05 Ток-шоў "Школа зласлоўя".
22.00 Весткі.
22.15 "Астравы".
23.25 "Начны палёт".

### НТВ

9.00 Сёньня раніцай.
9.20 "Вочная стаўка".
10.00, 11.00, 15.00, 16.00, 17.00 Сёньня.
10.05 "Шоў Алены Сьцепаненкі".
14.40 "Злодзей мусіць сядзець у турме". Ток-шоў "Прынцып даміно".
16.05 Сэрыял "На рагу, ля Патрыярхавых-2". 5-я сэрыя.
17.20 Шчырае прызнаньне.
18.00 "Сёньня" з Тацянай Мітковай.
18.40, 22.15 Дэтэктыў "Крот-2".
19.45 Сэрыял "На рагу, ля Патрыярхавых-2 . 6-я сэрыя.
21.00 "Сёньня ўвечары" з Кірылам Пазднnetwork
21.35 Сэрыял "Трэці лішні".

### Эўраспорт

9.30 Ралі. Вялікабрытанія. Паўтор.
10.30, 12.00, 17.00 Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат сьвету. Польшча. Паўтор.
13.30 Снаўборд.
14.00 Конны спорт. Чэмпіянат сьвету. Бэрлін.
15.00, 18.00, 21.00 Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат сьвету. Польшча. Жывая трансьляцыя.
20.00 Футбольны часопіс лігі чэмпіёнаў. Паўтор.
23.00 Футбол. Жывая трансьляцыя.
0.15 Футбол. Агляд.

## 21 ЧАЦЬВЕР, ЛІСТАПАДА

### БТ

6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00 Навіны.
6.15, 7.15, 8.15 Добрай раніцы, Беларусь!
9.15, 17.00 "Пецярбурскія таямніцы". Сэрыял.
10.10 "Падарожжа вакол сьвету". Дак. сэрыял (ЗША).
10.20 "Беларускае Палесьсе". Відэафільм АТН.
10.45 Лёс чалавека.
11.15, 22.00 "Магія каханьня". Сэрыял.
12.20 Добры дзень, Беларусь!
13.15 Г.Польскіх у дэтэктыве "Разарванае кола".
14.40 Дак. сэрыял "Патаемныя людзі".
15.25 "Машына ператварэньняў". Сэрыял для дзяцей. Заключная сэрыя.
15.50 "Усе на арбіту!" Пазнавальны сэрыял.
16.00 Пяць цудаў.
16.10 5х5.
16.55 Кліп-абойма.
18.20 Саюзнае веча.
18.40 Баскетбол. Чэмпіянат Эўропы. Мужчыны. Беларусь–Эстонія. Перадача з Гомелю.
20.05 Кароткамэтражны маст. фільм "Паветраны шарык" (Вялікабрытанія).
20.15 Асноўная вэрсія. "Крыж Эўфрасіньні Полацкай".
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама. Інфармацыйны канал.
21.45 Навіны рэгіену.
22.50 10 хвілін пра спорт.
23.20 Зона Ікс.
23.30 Начны этэр.
1.05 Рамантычная камэдыя "Ўсё магчыма, бэбі" (Вялікабрытанія).

### СТВ

5.00 "Мэш". Сэрыял.
5.30 "Шэршэ ля ФАН".
6.00, 15.35 "Чарапашкі ніндзя: новая мутацыя". Тэлесэрыял.
6.30, 15.05 "Джым Батан". Мультсэрыял.
7.00, 14.35 "Чалавек-павук". Мультсэрыял.
7.30, 12.30, 16.30, 19.30, 0.15 "24 гадзіны".
7.45, 20.15 "СТВ-спорт".
7.55, 19.45 "Навіны СНД".
8.10 "Тэма дня".
8.20 "Запрашаем паскардзіцца".
8.30, 21.00 "Тэхналёгія".
8.40 "Меншчына. Людзі, падзеі, факты".
8.50 Кіно: Ханс Мэтэсан, Шарлота Коўлмэн у трылеры "Падстава".
11.00 "Партрэт у інтэр'еры".
11.15 "Фільм, фільм, фільм".
11.30 "Яга, цёмная страсьць". Тэленавэла.
12.50 "Відавочца".
13.20, 18.35 "NEXT". Тэлесэрыял.
16.05 "Сьвет Бобі". Мультсэрыял.
16.50 "Сямейныя страсьці". Ток-шоў.
17.55 "Пад вуглом 23 з паловай". Дак. фільм.
18.25 "Хіт-момант".
20.00 "Добры вечар, маленькі...".
20.25 "Радыёкропка".
20.45 "Рамонт".
21.10 "Тэатральныя гісторыі".
21.25 "Расейскі цуд". Рэальнае кіно.
22.25 Кіно: Стыў Гатэнбэрг, Ізабэль Юпэр, Элізабэт МакГовэрн у трылеры "Акно ў спальні".
0.30 "Ілюзіён": Джульета Мазына ў трагікамэдыі Фэдэрыка Фэліні "Джульета і духі".

### 8 канал

17 30 Мультпарад
17.40 Маст. фільм "Злодзей".
19.00 "Банка коміксаў".
19.15 Камэдыя "Таксі"
20.40 "8 самых".
20.45 "Вечарніца".
21.00 "Аўта-курс".
21 15 Дэтэктыўны трылер "Шаманы пустыні".

### Першы музычны канал

7 00 "Пад'ёмнік".
8.30, 17.00, 20.30, 22.15 MegaMix.
12.0. 16.00 "Azon".
14.00, 22.10 Навіны спорту.
14.10 "ІнтэрАктыў .
18.30 Музыка.RU.
19.30 People-mix.
22.00 "120/80". Інфармацыйна-забаўляльная праграма.

### АНТ

8.00 Тэлеканал "Добрай раніцы".
9.00 Навіны.
9.15, 19.05 "Сямейныя повязі". Сэрыял.
10.00 Чалавек і закон.
10.40, 0.10 "Фабрыка зорак".
11.05 Дыснэй-клюб: "Чорны плашч".
16.15 Фільм "Факты мінулага дня". 2-я сэрыя.
17.30 Сьмехапанарама.
18.00, 20.30, 0.00 "Нашы навіны".
18.10 "Вялікае мыцьцё".
20.00 Час.
21.10 "Слабае зьвяно".
22.10 Шматсэрыйны фільм "Ледавіковы пэрыяд". 8-я сэрыя, заключная.
23.15 "Ледавіковы пэрыяд": дасье.
0.35 Тэлеканал "Новы дзень". "Расейскі экстрым".
1.00 "Апалегія".

### РТР

7.45, 19.55 Тэлесэрыял "Ніна. Расплата за каханьне".
8.50, 21.00 Тэлесэрыял "Марш Турэцкага-3. Залаты стрэл".
9.45 Весткі. Дзяжурная часьць.
10.00, 19.00 Весткі.
17.50 Сэрыял "Зладзейка. Шчасьце напракат".
18.50 Дабранач, дзеці!
19.35 Мясцовы час. Весткі–Масква.
22.00 Ток-шоў "Весткі +".
22.35 Кінаакадэмія. Прэм'ера. Ізабэль Юпэр і Жак Дзютрон у фільме Клёда Шаброля "Дзякуй за шакаляд" (Францыя–Гішпанія).

### Культура

15.10 "Разуменьне". "Сіла генаў".
16.05 "Пецярбург: час і месца".
16.30 "Хочацца сьпяваць", "Валанцёр Кац і іншыя". Дак. фільмы.
17.30, 23.00 Навіны культуры.
17.45 "Хто мы?". "Спрэчка на заходняй мяжы".
18.10 "Дапамажыце Тэлеку".
18.20 Дак. сэрыял "Сакрэтныя фізікі". Андрэй Сахараў. Фільм 2-і.
18.45 Білет у Вялікі.
19.25 "Медная бабуля". Дак. фільм.
19.55 Да 75-годзьдзя Міхаіла Ўльянава. "Старшыня". Маст. фільм. 2-я сэрыя.
21.05 "Культурная рэвалюцыя". "Наш бізнэс чалавечнейшы за амэрыканскі".
22.00 Весткі.
22.15 "Эпізоды".
23.25 "Начны палёт".

### НТВ

9.00 Сёньня раніцай.
9.20 Шчырае прызнаньне.
10.00, 11.00, 15.00, 16.00, 17.00 Сёньня.
10.05 "Крымінальнае пытаньне". "Рамантычны інтэр'ер".
11.00 Сёньня.
14.40 "Любоўны трохвугольнік". Ток-шоў "Прынцып даміно".
16.05 Сэрыял "На рагу, ля Патрыярхавых-2". 6-я сэрыя.
17.15 "Нацыянальная бясьпека". "Скрадзенае мора". Расьсьледаваньне НТВ.
18.00 "Сёньня" з Тацянай Мітковай.
18.35, 22.15 Дэтэктыў "Крот-2". 11-я сэрыя.
19.45 Сэрыял "На рагу, ля Патрыярхавых-2 . 7-я сэрыя.
21.00 "Сёньня ўвечары" з Кірылам Пазднnetwork
21.35 Сэрыял "Трэці лішні".

### Эўраспорт

9.30 Конны спорт. Чэмпіянат сьвету. Бэрлін. Паўтор.
10.30 Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат сьвету. Польшча. Паўтор.
12.00, 16.00 Футбол. Чэмпіянат Эўропы. Таварыскія матчы. Паўтор.
15.00 Футбол. Чэмпіянат Эўропы. Таварыскі матч.
18.00, 21.00 Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат сьвету. Польшча. Жывая трансьляцыя.
20.00 Горныя лыжы, кубак сьвету, Парк Сыты. Жанчыны. GS 1L.
23.00 Горныя лыжы, кубак сьвету, Парк Сыты Жанчыны. GS 2L.
0.15 Футбол. УЭФА Клясык. Паўтор.




# Хто мае права на Слова

**"Каталіцкі голас у тваёй хаце!" — так рэпрэзэнтуе сябе гэтая станцыя, хоць ніводзін касьцельны гіерарх не ўхваляе яе дзейнасьці. Большасьць слухачоў "Радыё Марыя" — людзі, "пакрыўджаныя капіталізмам". У этэры станцыі гучаць антыэўрапейскія й антысэміцкія заклікі. Дырэктар радыё падазраецца ў нячыстых апэрацыях, але паліцыя не наважваецца яго кранаць. Далейшая дзейнасьць "Радыё Марыя" можа выклікаць раскол сярод польскіх каталікоў.**

"І хто будзе слухаць тыя малітвы?" — дзівілася Нацыянальная рада радыёвяшчаньня і тэлебачаньня Польшчы пры канцы 1991 г., разглядаючы дазвол на заснаваньне каталіцкае радыёстанцыі. Налета торунскае "Радыё Марыя" выйшла ў этэр і пачало імкліва разьвівацца. Сёньня яго слухаюць каля шасьці мільёнаў жыхароў Польшчы і Заходняй Беларусі.

Большасьць сталых слухачоў ставіцца да "Радыё Марыя" вельмі эмацыйна, а іншых станцыяў ня слухае: "Навошта нам рэклама, гучная музыка й інфармацыйная сечка? Гэта не навіны, калі нам паведамляюць, што ў нейкай катастрофе загінула 40 чалавек, а ў коткі галівудзкай кіназоркі праблемы са страўнікам. Таму мы й слухаем "РМ".

"Каталіцкі голас у тваёй хаце!" — так рэпрэзэнтуе сябе гэтая станцыя, хоць ніводзін касьцельны гіерарх не ўхваляе яе дзейнасьці. У сьвеце існуе сетка "Радыё Марыя", але толькі ў Польшчы яно дасягнула такога посьпеху. Адно што папулярнасьць "РМ" мае моцны прысмак скандалу.

### Казаць можна ўсё

Шмат каму "РМ" замяняе касьцёл: 20% вяшчаньня складаюць малітвы і трансьляцыі імшы. Малітвы чытаюцца з удзелам слухачоў, якія тэлефануюць у студыю.

Людзей прыцягвае імкненьне торунскай радыёстанцыі да дыялёгу са слухачамі, што папросту абрываюць яе тэлефоны. На гэткія гутаркі сыходзіць палова этэрнага часу "РМ". Казаць па радыё можна ўсё.

Прыкладам, які-небудзь слухач можа ў простым этэры рытарычна запытацца, чаму менавіта сем міністраў чарговага ўраду зьяўляюцца прадстаўнікамі Уніі Свабоды (лібэральная польская партыя). І ўсьлед патлумачыць: бо сем сьвечак мае мэнора — жыдоўскі рытуальны падсьвечнік. А хтосьці іншы можа, не хаваючыся, выказаць свой погляд на Галакост: "Дужа шкада, што Гітлер ня вынішчыў гэтых крывасмокаў да апошняга. Да апошняга, нікога не шкадуючы. Ні кабет, ні дзяцей. Да апошняга!"

Такога кшталту прамовы рэдакцыяй не асуджаюцца, хутчэй нават заахвочваюцца. Калі слухаеш, міжволі ўзьнікае асацыяцыя з сумнавядомымі праектамі Ніны Чайкі. Самая адыёзная перадача "РМ" — "Бясконцыя размовы". Яна гучыць штодня з 22.20, цягнецца дзьве гадзіны й складаецца з тэлефанаваньняў у студыю, якія вызначаюць тэму для абмеркаваньня.

### Радыёайцец

Пазыцыю "РМ" аднаасобна вызначае заснавальнік і кіраўнік радыёстанцыі айцец-рэдэмптарыст Тадэвуш Рыдзык. Безь яго радыё не існавала б. Айцец — моцны харызматык і цудоўны арганізатар. У 1970-я ён сабраў пры торунскім касьцёле рэдэмптарыстаў музычны гурт моладзі, які граў біг-біт. На набажэнствы прыходзілі натоўпы вернікаў. Рыдзык ладзіў і папулярны музычны фэст "*Sacro Song*". На пачатку 90-х ён заснаваў "Радыё Марыя".

З стварэньнем і дзейнасьцю станцыі зьвязана нямала цёмных гісторыяў. Упяршыню праблемы з законам у "РМ" зьявіліся яшчэ ў 1992 г., але паліцыя заўжды лічыла за лепшае ня зьвязвацца з радыёайцом. Самым яскравым прыкладам нерашучасьці ўладаў стаўся выпадак з "мэрсэдэсамі", якія а.Тадэвуш спрабаваў увезьці зь Нямеччыны. У дакумэнтах машыны былі запісаныя як "падараваныя прадметы культу". На мытні ж высьветлілася, што яны не падараваныя, а купленыя. Пачалося сьледзтва. Але ніводная пракуратура не згадзілася займацца гэтай справай і ніхто так і ня быў пакараны.

Скаргаў на дырэктара "РМ" ніколі не бракавала. У асноўным яны тычацца стылю й зьместу камэнтароў радыёстанцыі. Так, у часе вечаровай перадачы 24 кастрычніка 1996 г. Рыдзык прапанаваў "пагаліць галовы, як курвам, што цягаліся зь немцамі", паслам Сойму, якія галасавалі за частковую легалізацыю абортаў. Словы айца былі кваліфікаваныя як "абраза вярхоўных органаў дзяржаўнай улады Рэспублікі Польшчы", што прадугледжвае да 8 гадоў турэмнага зьняволеньня.



**Карыкатура на Тадэвуша Рыдзыка: "Адзін Народ, адна Дзяржава, адна Рэлігія"**

Але нават гэтая справа мёртва ляжала ў пракуратуры месяцамі, бо Рыдзык ігнараваў усе позвы, і была ўрэшце ціха замятая. Торунскія паліцыянты толькі разводзілі рукамі: "Любога іншага ўжо даўно затрымалі б і прывялі сілай, але які пракурор наважыцца даць каманду схапіць ксяндза Р.? І які паліцыянт наважыцца выканаць той загад? Ды яго тут жа закляймуюць у этэры як ворага Польшчы й хрысьціянства".

### Мэдыя-імпэрыя

Сёньня "Радыё Марыя" ахоплівае 80% тэрыторыі Польшчы: у краіне створаная сетка з больш як 100 станцыяў. Праз спадарожнік перадачы трансьлююцца на Эўропу, Амэрыку і нават Расею. Станцыя працуе на кароткіх хвалях ад панядзелка да суботы з 7:00 да 9:15, а ў нядзелю з 8:00 да 10:00 на 15455 кГц (19 м), з 17:00 да 19:00 яе можна слухаць на 12010 кГц (25 м), а з 19:00 да 24:00 — на 7380 кГц (41 м) — час усюды польскі.

Ідэі Рыдзыка пашырае таксама фундамэнталісцкая газэта "*Nasz Dziennik*" і штомесячнік "*Rodzina Radio Maryja*".



**Большасьць сталых слухачоў ставіцца да "Радыё Марыя" вельмі эмацыйна**

Супрацьўляючыся "згубнаму заходняму ўплыву", айцец карыстаецца найноўшай заходняй тэхнікай. На яе грошы ёсьць, бо "РМ" вызваленае ад падаткаў, мытаў і атрымлівае ахвяраваньні. Каталіцкі этык і філёзаф Ёзаф Тышнэр сьведчыць: "Нядаўна чуў, як адзін біскуп дакараў падначаленага за падтрымку "Радыё Марыя". Той бараніўся — маўляў, яму так загадвае голас сумленьня. Біскуп адказаў, што апрача сумленьня трэба мець яшчэ й розум".

Часопіс "*Polityka*" распавёў пра слухачку, што, маючы мізэрную пэнсію, рэгулярна дасылае грошы "РМ". Кажа, што дала б іх унуку, але ведае, што, калі ўкладзе грошы ў радыё, унуку будзе больш карысьці, "ягонае жыцьцё палепшае".

Назваць "РМ" проста замшэлым гняздом фундамэнталізму нельга — гэта немалая сіла. У польскім парлямэнце ёсьць два дзясяткі дэпутатаў, абраньню якіх спрыяла радыёстанцыя. Дысцыплінаваныя слухачы айца Рыдзыка паслухмяна прагаласавалі за іх. Па першым закліку дырэктара "РМ" у Чанстахове зьбіраюцца 150 тыс. прыхільнікаў, колькі тысячаў едзе ў Ватыкан. Ладзіць такія акцыі грамадзкае аб'яднаньне сымпатызантаў радыёстанцыі — "*Rodzina Radio Maryja*", якое дагэтуль не паказала касьцельным органам свайго статуту.

### Сымбаль веры

Хто ж слухае "Радыё Марыя"? Найперш — "пакрыўджаныя капіталізмам", тыя, хто прайграў у працэсе дэмантажу польскага сацыялізму. "РМ" забясьпечвае ім псыхалягічную падтрымку, паказвае на "вінаватых" — заходніх інвэстараў, камуністаў, жыдоў, Эўразьвяз, ЗША. Апытаньні дазваляюць намаляваць наступны партрэт тыповага слухача: гэта кабета сталага веку зь невялікай адукацыяй, малым прыбыткам, якая нічым, апроч рэлігіі, не цікавіцца, вольны час бавіць перад тэлевізарам, глядзячы сэрыялы і шоў кшталту "Адгадай мэлёдыю".

Вельмі ёмка патлумачыў крэда Рыдзыкавай станцыі прымас Ёзаф Глемп: "Радыё Марыя" стварае ўласнае бачаньне грамадзтва, нязьменна заснаванае на барацьбе зь некім, нечым, на прапагандзе. Мяркую, што папулярнасьць "РМ" — справа часовая, на некалькі гадоў. Такі стыль, такія эмоцыі, лямант ня могуць доўга працягвацца".

"РМ" вядзе вайну на ўсіх франтах, даводзячы сваім прыхільнікам: вы апошнія сапраўдныя вернікі і ў атачэньні сілаў зла павінны бараніцца да апошняга.

Найбольш сыстэматычна погляды Рыдзыка выкладае штомесячнік "*Rodzina Radio Maryja*". Пачытаўшы яго, можна даведацца, што палітычныя сыстэмы падзяляюцца на здаровыя і выродлівыя. Да апошніх залічваюцца тыранія, алігархія і... дэмакратыя. Палітыкі падзяляюцца на "тых, хто дурыць народ", і "прадажных", грамадзтва ж складаецца ня зь левых-правых, а з прадстаўнікоў хрысьціянскіх сілаў і лібэралаў-сэкулярыстаў. "Свабода" — гэта масонскі ідэал, а лібэралізм — крыніца ўсялякага ліха. Карані эўрапейскіх бедаў — лібэралізму, камунізму, нацызму — у пратэстанцтве.

Рыдзык лічыць заганнымі самі асновы заходняга грамадзтва: "Пару гадоў працаваў за межамі Польшчы, бачыў, што там і як. Божа, бarані Польшчу ад гэтага лібэралізму, гэтай лібэральнай ідэалёгіі, горшай за таталітарную сыстэму камуністычнага ці нацыстоўскага кшталту".

Паводле Рыдзыка, "сваёй" улады ў Польшчы ніколі не было: "Хачу зьвярнуць увагу на пэўны міт, прапагандаваны ў СМІ, што да 1990 г. былі ўрады камуністычныя, а пазьней ужо прыйшлі нашыя. Гэта зусім ня нашыя ўрады". Сёньня прыхільнікаў "РМ" яднае нелюбоў да кіроўнага Саюзу лявіцы дэмакратычнай — у іх уяўленьні галоўнага ворага веры, палітычнага антыхрыста.

Праўда, ня любячы левых партыяў, сымпатызанты "РМ" адначасова падзяляюць у сацыяльным пляне левыя погляды — хочуць, каб дзяржава апекавалася сваімі грамадзянамі, давала датацыі вёсцы, ратавала прадпрыемствы, што збанкрутавалі, і не прадавала нічога іншаземцам. Рыдзыкаўцы нават спрабуюць сёе-тое практычна рабіць у гэтым напрамку — яны зладзілі збор грошай на Гданьскую суднаверф, каб тая ня трапіла ў рукі заходнім капіталістам. Але марна: грошай не хапіла.

У часе прэзыдэнцкай кампаніі 1995 г. радыё падтрымлівала Леха Валэнсу і ўсяляк змагалася зь іншымі кандыдатамі. Рыдзык абвінавац累 кандыдата ад Уніі Свабоды Кураня ў злачынствах сталінізму, а каб адгаварыць слу-

# Божае

хачоў галасаваць за Ганну Гранкевіч-Вальц, абвясьціў яе "жыдоўкай і масонкай". Абраньне ж прэзыдэнтам Аляксандра Квасьнеўскага торунскія фундамэнталісты палічылі паказьнікам таго, што людзі "адвярнуліся ад Бога". Кіраўніцтва Касьцёлу спрабавала ўзяць станцыю пад апеку, але Рыдзык ігнараваў рашэньні біскупату. Няўдалымі былі й іншыя спробы ўтаймаваць "Радыё Марыя".

У міжнароднай палітыцы галоўнымі ворагамі "РМ" зьяўляюцца немцы, ад якіх "палякі цярпелі і цярпецьмуць заўжды" (праўда, свае падазроныя камэрцыйныя гешэфты Рыдзык ладзіў якраз у Нямеччыне). "Радыё Марыя" змрочна паведамляе: немцы ўжо выкупілі траціну польскай зямлі, пачаўся пяты падзел Рэчы Паспалітай, Польшча памірае, а неўзабаве яшчэ дзесяць мільёнаў выгнаных некалі немцаў скупяць астатнюю палітую польскай крывёй і потам ральлю. Невыпадкова нашчадкі крыжакоў перанесьлі сваю сталіцу ў Бэрлін. Неўзабаве ад эўрапейскай навалы славяне выратуюцца толькі ва Ўкраіне...

### "Ёзаф" супраць "Марыі"

Уступленьне Польшчы ў Эўразьвяз — ці не галоўнае пытаньне ў спрэчцы паміж касьцельнымі гіерархамі й радыё. Кіраўнікі касьцёлу — за, а Рыдзык — супраць, бо, маўляў, уваход у ЭЗ раўназначны страце нацыянальнае тоеснасьці, традыцыйных каталіцкіх каштоўнасьцяў і зьнішчэньню краю.

Газэта *"Rzeczpospolita"* тлумачыць такія погляды "комплексам горшасьці ў дачыненьні да Эўропы", на які пакутуюць торунскія фундамэнталісты. Пацьвярджае гэтую тэорыю адсутнасьць варожасьці да Расеі: убогай Масковіі Рыдзыкавы адэпты не баяцца.

Прымас Ёзаф Глемп адгукнуўся на антыэўрапейскія заявы Рыдзыка і паспрабаваў згуляць на місіянэрскіх настроях слухачоў "РМ": "Лёгка абвесьціць — пакінем іх, бо гэта паганцы. Але ж нашая задача — ісьці туды, дзе трэба сеяць дабро".

Стаміўшыся папярэджваць, Ё.Глемп адкрыта зьвінаваціў "РМ" у "непадпарадкаваньні і палітызацыі", бо торунскія фундамэнталісты не падпарадкоўваюцца ні біскупу адпаведнай дыяцэзіі, ні правінцыялу рэдэмптарыстаў, ні біскупату. Палітызацыяй радыё Глемп лічыць зьдзекі з грамадзкіх аўтарытэтаў і пагарду да законаў, абавязковых для ўсіх грамадзянаў.

Айцец Рыдзык паводзіцца так, нібы над ім стаіць толькі Бог і Папа, кажуць біскупы. Гэткая непадкантрольная дзейнасьць можа выклікаць зьяўленьне паралельных касьцельных структураў, незалежных ад афіцыйнага біскупату. "Радзіны" "РМ" цяпер існуюць у абсалютнай большасьці парафіяў, іх чальцы мала слухаюць кіраўнікоў Касьцёлу, калі іхныя словы супярэчаць казаням з Торуню.

Рух польскіх фундамэнталістаў чымсьці нагадвае камуністычна-пэнсіянэрскую актыўнасьць на абшарах былога СССР. Многія, як Аляксандар Лукашэнка, скарысталі яе ў сваіх мэтах, пакуль тая хваля ня схлынула. Тое самае чакае і польскі рух пэнсіянэраў за сьветлую каталіцкую будучыню. Сталы век бальшыні фундамэнталістаў і адсутнасьць сур'ёзнага ідэалягічнага падмурку прарэкуе яму сумны фінал. Але пакуль рыдзыкаўцы моцныя і могуць нарабіць клопату дзяржаве. Разумеючы гэта, прымас Ёзаф Глемп абвесьціў вернікам: афіцыйнай радыёстанцыяй варшаўскай арцыдыяцэзіі зьяўляецца "Радыё Ёзаф", слухайце яго. Чарговы раз нагадаўшы, што выслоўі а.Рыдзыка не адлюстроўваюць пазыцыі Касьцёлу, прымас заначыў: "Ня кожны мае права вяшчаць слова Божае дзе хоча і як хоча".

**Сяргей Рак**

# Цярпімы Касьцёл


IREX-PROMEDIA

У Менскім Катэдральным касьцёле — шлюб. Ня вельмі маладая пара, гадоў па 35, пры іх — дружкі і бацькі. Парадку вянчаньня ня ведаюць, беларускай мовай, відаць, не гаварылі гадоў па дваццаць, а таму абрад ідзе церазь пень-калоду. Ксёндз Аляксандар Барыла цярпліва папраўляе і накіроўвае ход шлюбаваньня...

Хрэсьбіны ў тым самым касьцёле. Тры пары бацькоў і немаўляты аднолькава няўцямна глядзяць на ксяндза. На лбох бацькоў зьяўляюцца буйныя кроплі поту: ніхто ня помніць ані парадку хрэсьбінаў, ані неабходных малітваў. Ксёндз ізноў строга, але цярпліва папраўляе зьбянтэжаных...

Маладая жанчына скардзіцца, што ейны грамадзянскі муж ня хоча браць зь ёй касьцельны шлюб. Жанчына, шчырая верніца, ня мае з-за гэтага магчымасьці хадзіць на споведзі і камуніі. Яна страшна пакутуе, камплексуе, адчувае сябе адкінутай ад касьцёлу. Ксёндз прапануе ёй выйсьце — яна вянчаецца самаадна, складае абяцаньні свайму легкадумнаму мужу, і Касьцёл ізноў упускае яе да свайго ўлоньня...

Маладая пара з Варшавы прыяжджае хрысьціць сваё дзіця ў Менскую катэдру. Я пытаюся: "Чаму?" — "Мы не вянчаныя. У Польшчы 98% людзей — каталікі, Касьцёл вельмі моцны, вельмі дамінуе, і, каб павянчацца, трэба доўга хадзіць на нейкія гутаркі, духоўныя практыкаваньні. Перш чым хрысьціць дзіця, трэба прайсьці праз духовую падрыхтоўку да шлюбу, праз шлюб", — кажа малады муж. "Мы з тых 2% палякаў, якія лічаць, што Касьцёл аж занадта кантралюе прыватнае жыцьцё людзей. Касьцёл у Польшчы часам ня ўлічвае рэаліяў сучаснага жыцьця. У Беларусі з гэтым прасьцей", — лічыць маладая жонка.

Беларускі Касьцёл, сапраўды, цярплівы й спагадлівы да недасканаласьцяў тутэйшых вернікаў. "Больш за 70 гадоў савецкай улады на ўсходзе і 50 — на захадзе нанесьлі пазыцыям хрысьціянства вялікую шкоду. І хоць сатанінская палітыка не магла прыпыніць разьвіцьцё хрысьціянства, яна ўнесла некаторыя карэктывы ў тутэйшае касьцельнае жыцьцё. Тутэйшая спэцыфіка вымагае ад нас больш гнуткай палітыкі", — кажа малады дыякан, які спадзяецца налета быць высьвечаным у ксяндзы. Ён зь дзяцінства марыў быць беларускім ксяндзом. Сэмінарыю сканчае ў Польшчы і ня можа дачакацца, калі вернецца на Бацькаўшчыну. Дыякан кажа, што спалучэньне мяккасьці й гнуткасьці касьцельнае палітыкі з асабістай ахвярнасьцю многіх сьвятароў — асаблівасьць беларускага Касьцёлу.

У прыватных гутарках з ксяндзамі я пыталася, ці ня ёсьць гэтая палітыка нейкім маральным рэлятывізмам, канфармізмам. Ці ня стане Беларусь краінай рэфармацыі Касьцёлу, гэткай, як ЗША, дзе пасьля сёлетняга скандалу з масавай пэдафіліяй сярод сьвятароў запатрабавалі магчымасьці спавядацца праз Інтэрнэт *on-line*, сьвятарства жанчын, прызнаньня гомасэксуалізму нармальнай зьявай і скасаваньня цэлібату.

Беларускія ксяндзы рашуча адпрэчваюць такія ідэі. Яны застаюцца кансэрватыўнымі і цярпімымі. Мне падаецца, не найгоршае спалучэньне.

Касьцёл стаіць на камянях, але не прыдушвае імі людзей.

**Сьвятлана Курс**

# Музыка Залатарова, тэкст НКВД

**1936 год. Менск. Рэпрэсіі супраць пісьменьнікаў у самай сіле. НКВД разгортвае "справу Клімковіча" — тагачаснага старшыні СП і будучага аўтара гімну БССР. На допыты цягаюць Купалу, Коласа, Глебку. Тым самым часам ствараецца "Ліст беларускага народу вялікаму Сталіну"... 18 лістапада на Малой сцэне Купалаўскага тэатру можна будзе адчуць атмасфэру тых часоў. Купалаўцы інсцэнуюць пратакол допыту.**

Трупа рыхтуе прэм'еру п'есы-дакумэнту "Ў жніўні 36-га". На жаль, гледачы пабачаць не пастановачную дзею (спэктакль), а толькі інсцэнаваньне — чытаньне па ролях, "у асобах".

Аўтарам п'есы на афішах ды ў праграмках пазначаны вядомы гісторык Віталь Скалабан. Але сам ён ад гэтага сьціпла адмаўляецца: "Я ня здольны так прыдумаць: проста ўзяў стэнаграму допыту, якая захавалася ў архівах, і падаў яе". Тыя дакумэнты В.Скалабан выявіў у Нацыянальным архіве, рыхтуючы чарговы том Збору твораў Я.Купалы. "Да мяне ніхто з дасьледчыкаў той стэнаграмы не глядзеў", — сьцьвярджае гісторык. У п'есе будзе выкарыстаны, натуральна, ня ўвесь дакумэнт, а толькі ягоныя фрагмэнты. Цалкам ён друкаваўся ў "Звяздзе" на пачатку чэрвеня. Для агучваньня на сцэне матэрыялы НКВДсцкага сьледзтва пераклалі на беларускую. "Ну немагчыма, каб Купала гаварыў па-расейску — неяк гэта ненатуральна", — кажа загадчыца літаратурнай часткі тэатру Марына Бартніцкая.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Таксама ў часе інсцэнаваньня будуць выкарыстаныя часткі "Ліста беларускага народу...". Вершы прагучаць разам з музыкай Васіля Залатарова — адмыслова для іх напісанай у 1930-х араторыяй. Ноты і апісаньне араторыі (5 хораў, 4 аркестры) В.Скалабан выявіў у Музэі-архіве літаратуры і мастацтва.

Праўкі ў тэкст п'есы ўносяцца амаль кожны дзень — ходзяць чуткі, што "пад нож" пойдзе нават сюжэт з Клімковічам. Так што пакуль цяжка дакладна акрэсьліць, што ж пабачаць гледачы. "Думаю, што будзе цікава, бо нам самім вельмі падабаецца тое, што мы робім", — кажа М.Бартніцкая.



АНДРЭЙ ЛЯНКЕВІЧ

**Для В.Скалабана гэта ня першы прарыў у літаратурныя праекты. За плячыма ў гісторыка — сцэнары пяці дакумэнтальна-гістарычных фільмаў, прысьвечаных Я.Купалу, У.Ігнатоўскаму, З.Жылуновічу.**

Мастацкі кіраўнік тэатру Валеры Раеўскі лічыць, што гэтае інсцэнаваньне можа надоўга трапіць на афішу Купалаўскага: "Калі будзе зацікаўленасьць, калі Народны фронт масава прывядзе сваіх прыхільнікаў... Магчыма, тады ператворым інсцэнаваньне ў пастаноўку".

**Адам Воршыч**

**новы альбом Шалкевіча**

# Сьпявак жлобскае нацыі

**20 лістапада ў Палацы культуры вэтэранаў (Менск, вул.Купалы, 21) адбудзецца прэзэнтацыя альбому Віктара Шалкевіча "Добрай раніцы", выдадзенага "БМАgroup". Пачатак а 19-й. Пра новую плытку — нашаніўскі Слухач.**

Нарэшце маем кампіляцыю з найлепшых запісаў Шалкевіча ажно за дзесяць гадоў, выдадзеную на *CD*. Ну і правільна: гэты фармат больш прэстыжны, чым якія касэты, дзе можна зьверху Шалкевіча запісаць Саладуху, калі не спадабаецца песьня кшталту "Таварыша Сапегі" ці "Шчуроў Эўропы". Тым болей што народ ужо зачакаўся новых песень і альбомаў гэтага айчыннага Боба Дылана, якія ён абяцае вось ужо колькі гадоў. Мо часу ня мае запісвацца: усё канцэрты, выступы, усё больш за мяжой... Бо тут, на радзіме, рабіць іх ніхто не сьпяшаецца: Шалкевіч такі — скажа што ня тое, засьпявае нешта такое, на што ў райвыканкаме адказныя за культуру людзі пячатак з дазволам не набяруцца. І пачнуцца непрыемнасьці, зь якіх прыход падатковага інспэктара — толькі першая ластаўка.

Людзі рагочуць, слухаючы Шалкевічавы песьні. З чаго, здавалася б, там можна рагатаць? Што мы — "Жлобская нацыя", улюбёны стыль якой — "Смутны беларускі блюз"? Я неадназова быў сьведкам таго, як абураліся тутэйшыя, слухаючы "Жлобскую нацыю". Маўляў, гэта карыкатура злосная, мы зусім не такія, мы гордыя, свабадалюбныя, мы, мы, мы... І я б абурыўся, калі б тое прасьпяваў пра нас які Юры Шаўчук. А то ж сказаў наш, мясцовы, сам такі ж, як і мы ўсе. Яму можна, ён мае на тое права.

З 19 нумароў альбому, які гучыць пад 80 хвілінаў, толькі іранічны маналёг пад арыгінальнай назваю "*Bonus-track*" раней не выдаваўся. Рэшта — песьні з розных праграмаў. Патрэбы выстройваць іх паводле якога сюжэту не было: да творчасьці Шлакевіча можна падбірацца зь любога боку.

Дылана я згадаў невыпадкова. Шалкевіч пашырае дыяпазон уласна бардаўскае песьні, як і амэрыканскі Боб, уносячы ў гэты жанр часам вельмі вострае рокавае гучаньне. Тыя гарадзенскія аранжаваньні месцамі ўзорныя! А калі Шалкевіч зрэдку кідае музыкаў уласнага бэнду (ня ўвесь жа час ганарарамі зь імі дзяліцца!), агульнае ўражаньне ад ягоных песень не зьнікае. Дастаткова паслухаць прасьпяваны пад гітару прасьветлена-сумны шэдэўрык "Мы ехалі да Магілёва", каб пераканацца, што любіць ён тую жлобскую нацыю надзвычай моцна. І магілёўскіх яе прадстаўнікоў — таксама!





Каб у Беларусі існавала традыцыя кабарэ, Шалкевіч быў бы тут першым нумарам, бо ўплыў на ягоную стылістыку з боку вядомых польскіх артыстаў (прыкладам — Анджэя Расевіча) адчувальны. Але гэта ня пляжыць арыгінальнасьці таго, што робіць Шалкевіч. Нездарма ж музычны крытык Вітаўт Мартыненка ва ўступе да альбому зазначыў, што "слухач знойдзе тут і шэраг проста неверагодных сюрпрызаў". Я пакрыўджаны: "Слухач" трэба пісаць зь вялікае літары!

**P.S.** Не магу не адзначыць арыгінальнай знаходкі "БМАgroup" — рэклямны трэк у канцы альбому, запісаны з голасам Памідорава. Ёсьць толькі адзін тонкі момант: каб пачуць тую рэкляму, трэба купіць дыск Шалкевіча. А як купіць дыск, калі рэклямы той больш нідзе не чуваць?

**Слухач з-пад Каложы**

**рэцэнзія**

# Парадокс банальнасьці

"Беларусь", фотаальбом, Дзяніс Раманюк, 2002

**Гэтую кнігу, што прадаецца на мяжы ў *Duty Free* за 13 эўра, выдаў з асабістае ініцыятывы фотамастак Дзяніс Раманюк. Каб зрабіць альбом, не спатрэбілася ані вялікага выдавецтва, ані вялікіх інвэстыцыяў. Гэта сёньня ня дзівіць, зважаючы на найноўшыя камputарныя тэхналёгіі. Дзівіць іншае: чаму такіх выданьняў бракуе на беларускім рынку, дзе дзеюць дзясяткі дзяржаўных і прыватных выдавецтваў?**





"Беларусь" Дзяніса Раманюка вылучаецца выдатнай якасьцю паліграфіі. Рэч, якую ня сорамна падарыць. Кніга, якую прыемна гартаць, хоць на першы погляд — поўны банальнасьцяў даведачны тэкст, шматкроць бачаныя здымкі... Але ў тым і парадокс, што няма чаго паставіць побач з гэтай новай кнігаю.

Сярод суаўтараў — 11 фотамайстроў. Сярод іх Анатоль Кляшчук, Георгі Ліхтаровіч, Віталь Бараноўскі, Міхась Раманюк — бацька укладальніка, выбітны беларускі этнограф, які заўчасна пакінуў наш сьвет. Дзясяткі каляровых фататвораў, зробленых у розны час (некаторым здымкам больш за паўтара дзесяцігодзьдзя гадоў, іншыя зусім "сьвежыя"). Укладальнік ня ставіў задачы цалкам ды ўсебакова паказаць краіну. Але, не зважаючы на сьціплы фармат выданьня, перад намі паўстае зьмястоўная карціна ўсяго самага адметнага, што ёсьць у Беларушчыне.

Руплівы й дакладны адбор найлепшых здымкаў найлепшых аўтараў краіны дэманструе нам яе з самага прывабнага, эрзацнага боку. З таго боку, зь якога кожны хацеў бы бачыць свой край.

Пераглядаючы сотні кніг у беларускіх кнігарнях, я не знайшоў нічога лепшага за гэты альбом для падарунка госьцю. Сувэнір "Беларусь".

**С.Х.**

## Дзеці мусяць быць жаданыя

**Навукоўцы зь лісабонскага Інстытуту прыкладной псыхалёгіі правялі дасьледаваньні, якія дазваляюць сьцьвярджаць, што ў мужчыны, які хоча зрабіцца бацькам, падвышаецца ўзровень тэстастэрону** (мужчынскага гармону, што адказвае за выдзяленьне спэрматазоідаў) і, як вынік, павялічваецца імавернасьць апладненьня. Трохмесячныя дасьледаваньні, у якіх удзельнічалі дваццаць сем добраахвотнікаў, дазваляюць высунуць меркаваньне, што мужчынскі арганізм гэтак рэагуе на фэрамоны сваёй партнэркі, сынхранізуючы выпрацоўку тэстастэрону зь ейным авуляцыйным цыклам.

## Чаму здараецца экзэма

**Сымптомы экзэмы (хранічнага дэрматыту, водрыцы) агульнавядомыя:** сухасьць эпідэрмісу, сьвербі, пачырваненьне, прыпухласьць і лушчэньне скуры. Навукоўцы з Нацыянальнага габрэйскага мэдыка-дасьледчага цэнтру ў Дэнвэры вызначылі, што прычына экзэмы — недастатковае прадукаваньне натуральных антыбіётыкаў. Здаровыя людзі лёгка спраўляюцца з праявамі дэрматыту, бо ў адказ на запаленьне скуры колькасьць натуральных антыбіётыкаў у іх арганізьме павялічваецца. У хворых на экзэму гэтага не адбываецца. Адсюль — іх большая падатлівасьць да бактэрыяльных інфэкцыяў.

# Старэйшыя за піраміды

**На цыбульным полі ля Сланавіцаў пад Кракавам археолягі раскапалі гіганцкі нэкропаль, збудаваны шэсьць тысяч гадоў таму. Цяжка даць веры, што пад палеткамі хаваюцца гіганцкія дагістарычныя "піраміды".**

Зробленая археолягамі праца дазваляе ўявіць, як могільнік выглядаў у 1-й палове IV тыс. да н.э. Сваімі маштабамі ён уразіў бы ня толькі тагачаснага, але і сёньняшняга гледача. На вялізнай пляцоўцы стаялі сем будынкаў, даўжынёй ад 40 да 120 м і вышынёй ня менш за 2—3 м кожны. Іхныя сьцены былі складзеныя са шчыльна падагнаных бярвёнаў. Дахі, відаць, таксама былі драўляныя. Толькі адно, найвялікшае збудаваньне было дадаткова прысыпанае зямлёй.

Польскія "піраміды" зусім не былі падобныя да эгіпецкіх: усе будынкі формай нагадвалі выцягнутыя трапэцыі з уваходам з усходняга, шырэйшага боку. За колькі мэтраў ад уваходу зьмяшчалася каменная магільная камора, складзеная з вапняковых глыбаў. У адной з магільняў яна была зробленая з цэльнай гранітнай брылы, прыцягнутай з Татраў (можна ўявіць сабе, якая гэта была праца: сродкам транспартаваньня брылы былі круглыя драўляныя калоды).

Магільні прастаялі гадоў сто, мо дзьвесьце. Потым дрэва струхлела і будынкі абрынуліся. Каб сланавіцкія збудаваньні былі ня з дрэва, яны і сёньня прыцягвалі б да сябе тысячы турыстаў.

### Хто пахаваны ў Сланавіцах

Жыхары старажытнай Ангельшчыны ды Ірляндыі былі перакананыя, што іхныя мэгаліты ўзводзілі волаты для сваіх валадароў. Валатоўкамі называюць курганы і беларускія легенды. Аднак людзі, парэшткі якіх былі знойдзеныя ў польскіх "пірамідах", мелі рост 160—165 см. У кожнай пірамідзе зазвычай знаходзілі адзін касьцяк — найчасьцей мужчыны 35—65 гадоў. Толькі ў адной "пірамідзе" былі знойдзеныя тры каменныя каморы — для бацькі, маці і дзіцяці. Абок мужчыны археолягі знайшлі мядзяны кінжал — рэч унікальную для тых часоў. На жаль, з прычыны высокай кіслотнасьці глебы людзкія парэшткі захаваліся вельмі кепска.



Археолягі мяркуюць, што ў Сланавіцах пахаваная цэлая дынастыя тагачасных мясцовых валадароў. Магчыма, гэта найбуйнейшы такі могільнік у Польшчы, а мо і ва ўсёй Усходняй Эўропе, своеасаблівая польская "Даліна фараонаў".

### Дарога ў Вырай

Старажытныя могільнікі ў Сланавіцах — даніна культу плоднасьці, які панаваў некалі ў Эўропе сярод земляробаў ды жывёлагадоўцаў і выяўляўся ў веры, што ўсё адраджаецца пасьля бачнае, вонкавае сьмерці. Як сонца ўзыходзіць і заходзіць, як нараджаюцца, гінуць і зноў нараджаюцца расьліны, так і людзі: лічылася, пасьля зямной сьмерці яны адраджаюцца для жыцьця ў іншым сьвеце. Вялікая магільня ў форме піраміды азначала дарогу, па якой нябожчык мусіў перайсьці ў сьвет продкаў.

Новаадкрытыя могільнікі ў Польшчы — з той самай сэрыі мэгалітычных збудаваньняў, што і знакаміты Карнак на поўдні Брэтані, дзе знаходзіцца алея з трох тысячаў каменных глыбаў, што і Стоўнхендж у Англіі або эгіпецкія піраміды, але... на адну-дзьве тысячы год старэйшыя.

Масавыя пахаваньні, як кажа археоляг Мікола Крывальцэвіч, ёсьць і ў Беларусі — на тэрыторыі Краснасельскага археалягічнага комплексу ў Ваўкавыскім раёне. Там быў знойдзены велізарны могільнік — што праўда, не людзей, а парэштках забітай жывёлы (мяжа III—II тыс. да н.э.).

Самыя ж раньнія чалавечыя пахаваньні на тэрыторыі Беларусі — адзіночныя. Ім "усяго" каля 4,5 тысячаў гадоў (датуюцца 2500—2300 г. да н.э.). Яны былі знойдзеныя на паўднёвым усходзе краіны (Гомельшчына, Рагачоўшчына) уздоўж Дняпра і Сажа. Яны "псыхалягічна" больш зразумелыя і блізкія нам, чым краснасельскія ці сланавіцкія: паводле словаў М.Крывальцэвіча, магілы тых часоў — знак шанаваньня ўжо не прыроды, а продкаў. "Дзядоў", іншымі словамі.

# Друкаваць вачыма

**Брытанскія навукоўцы на старонках часопісу "*Nature*" паведамілі пра распрацоўку праграмы, якая дапамагае набіраць тэксты на кампутары без удзелу рук.**

Клявіятура была распрацаваная яшчэ ў XIX ст. Каб зразумець ейную нязручнасьць, паспрабуйце ўвесьці пяць сказаў, выкарыстоўваючы толькі адну руку.

Цяпер уявіце, як складана працаваць з кампутарам людзям з хворымі рукамі. На шчасьце, гэтая праблема можа цалкам зьнікнуць — дзякуючы вынаходзтву прафэсара Дэвіда МакКея і доктара Дэвіда Ўарда з унівэрсытэту ў Кембрыджы.

### Клявіша за клявішай

Для людзей, якія з розных прычынаў не могуць карыстацца кампутарамі пры дапамозе мышы і клявіятуры, спрабавалі прыдумаць розныя заменьнікі — ад аналягаў мышы, якія кіраваліся ротам, да прыстасаваньняў, якія адсочвалі рухі вочных яблыкаў і пераўтваралі іх у рухі курсора на экране. Але такія сыстэмы не пазбаўляюць ад выкарыстаньня клявіятуры — адно што яна высьвечваецца на маніторы, а той, хто піша, выбірае патрэбныя яму знакі. Мэтад малаэфэктыўны і вельмі ненатуральны для чалавечага вока. Гэткае пісаньне вымагае велізарнай сілы волі і страшэнна стамляе зрок. Аднак гэта было ці не адзіным выйсьцем. Цяпер становішча можа зьмяніцца.



Доктар Дэвід Уард — аўтар кампутарнай праграмы "Дэшэр".

### Як пазбавіць кампутар клявіятуры

Наватарская задума ўзьнікла... па дарозе ў аэрапорт. МакКей уводзіў нешта ў кішэнны кампутар (так званы палмтоп) з дапамогай мініятурнай клявіятуркі. Ягоны прыяцель Майк Лявіцкі заўважыў: "Шкада, што гэтыя кампутары ня могуць быць меншыя з-за сваёй клявіятуры".

У часе арганізаванай мазгавой атакі нарадзілася ідэя, як пазбавіць палмтоп клявіятуры, не ўскладніўшы працэсу ўводу тэкстаў. МакКей назваў сваю вынаходку "інтэрфэйсам з адваротнай арытмэтычнай кадаваньня". Неўзабаве Д.Уард напісаў кампутарную праграму пад назвай "Дэшэр", якая стала асновай ягонай доктарскай дысэртацыі.

Аўтары параўноўваюць "Дэшэр" са стандартнымі мэтадамі ўводу тэкстаў пры дапамозе зроку. Пасьля гадзіннай трэніроўкі чалавек, карыстаючыся традыцыйным мэтадам, можа набіраць 15 словаў у хвіліну, а з дапамогай "Дэшэру" — цэлых 25, робячы пры гэтым у 5 разоў менш памылак! Карыстальнікі праграмы кажуць, што яна значна зручнейшая. Набіраючы тэкст на клявіятуры, паказанай на экране кампутара, чалавек ніколі не бывае ўпэўнены, ці правільна ён напісаў слова. Вядома, ён можа зірнуць на ўжо напісаны тэкст, але тады курсор уцякае за межы клявіятуры. Каб зацугляць зрок, трэба вельмі пастарацца. Гэтая праблема зьнікае пры наборы паводле новага мэтаду. Карыстальнік увесь час бачыць некалькі апошніх набраных літараў і некалькі чарговых, найбольш імаверных.



Прафэсар Дэвід МакКей.

### Дзе шукаць "Дэшэр"

"Дэшэр" можна інсталяваць на хатнія кампутары, а таксама на палмтопы. У Інтэрнэце праграма даступная задарма. "Паколькі нашы дасьледаваньні фінансуюцца брытанскім грамадзтвам, я ня бачу падставаў прадаваць гэтую праграму", — кажа МакКей. Агульнадаступныя і так званыя зыходныя коды, што дазваляе ўносіць у праграму свае зьмены. Таму яе можна дастасаваць да канкрэтных патрэбаў.

"Дэшэр" карэктна працуе з рознымі мовамі, прычым "асваеньне" новай — адносна простае. Трэба падрыхтаваць адпаведны тэкст на гэтай мове, каб праграма магла падлічыць частату ўжываньня літараў, складоў і словаў. Наколькі вядома, ніхто яшчэ не стварыў такой статыстыкі для беларускай мовы. Таму нашыя энтузіясты маглі б заняцца гэтым, пагатоў што аўтары праграмы ўсяляк заахвочваюць падобную падтрымку свайго праекту.

Больш дэталёвую інфармацыю можна знайсьці па адрасе: http://www.inference.phy.cam.ac.uk/dasher.

## Небясьпечны пылок

**Дзеці, маці якіх у апошнія тры месяцы цяжарнасьці мелі кантакт з раздражняльным пылком расьлінаў, часьцей хварэюць на астму,** цьвердзяць швэдзкія вучоныя, якія назіралі за першымі гадамі жыцьця 111 тыс. дзяцей, народжаных у 1988—95 г.

"Згушчэньне пылку побач з будучай маці ў апошнія тыдні цяжарнасьці мае моцны ўплыў на тое, ці будзе дзіця, што мае прыйсьці на сьвет, астматыкам, — гаворыць эпідэміёляг Бэртыл Форсбэрг. — Меншае значэньне мае месяц нараджэньня. Мы дапускаем, што астма ў дзіцяці таксама можа быць зьвязаная, напрыклад, з працяглаcьцю цяжарнасьці і сутыкненьнем зь іншымі (апрача пылку) алергенамі, прычым як ва ўлоньні маці, так і пасьля нараджэньня".

Як зазначыў у камэнтары "НН" галоўны алерголяг Міністэрства аховы здароўя Беларусі Мікалай Скеп'ян, у нашай краіне сёньня налічваецца 47000 хворых на бранхіяльную астму. Паводле слоў мэдыка, імавернасьць зьяўленьня ў дзіцяці прыроджанай астмы ўзрастае, калі бацькі схільныя да алергіі. Пры гэтым, калі да алергіі мае схільнасьць толькі адзін з бацькоў, імавернасьць зьяўленьня астмы ў дзіцяці складае 30%, калі ж двое — 70%.

**Паводле *"Gazety Wyborczej"*, *"New England Journal of Medicine"*. Падрыхтаваў Болесь Палiўка**

## Арцём АРАШОНАК

* * *

Няўжо гэта павук
Ноччу сваё павуціньне
Расой упрыгожыў?

* * *

У старым чоўне
Зьзяюць срэбранай лускоЙ
Пялёсткі чаромхі.

* * *

Сумная песьня жаўрука
Ў жніўні вяртаецца...
Павуціньнем.

## Алесь БАКАЧ

### Ваўкалакі

Я думаў вершаў змрочных
не пісаць,
ды весяліцца зноў не выпадае:
схіліся прэч — імчыць пад рускі
мат
ліхая зграя.

Гараць драпежна вочы цыгарэт.
Дзявочы віск. Віно ў крыві шалее.
На бляклы Месяц і на людзкі
сьвет
скуголіць плэер.

Законы зграі — злучка і грызьня.
Сьляпым інстынктам скутыя
наглуха
айчына, вера, мова, дабрыня
і сьветач духу.

А заўтра ў школе ім дадуць урок
сусьветнае мастацкае культуры...
Які вядзьмар сурочыў нас знарок
і даў культ уркаў?

Нясу Алеську — дрэмле на руках.
Барвовы захад выткаў лесу знакі...
Няўжо і ёй, і Беларусі — шлях
у ваўкалакі?!

## Сяргей В.

### Яднаньне

У кожнага свой шлях, свая дарога,
У кожнага сваё жыцьцё, свой лёс
І кожны ад жыцьця свайго парога
Ідзе і стогне ад гаротных сьлёз.

І кожнаму сваё: свае пакуты,
Свой крыж, што трэба несьці
на плячах.
У кожнага свой вораг хіжы, люты,
Сябры, што паміраюць на вачах.

У кожнага свой шлях, свая дарога,
У кожнага сваё жыцьцё, свой лёс.
Ды трэба так, каб гонар за Радзіму
Ты праз усё жыцьцё сваё пранёс.

І гэты гонар, гонар за краіну,
Павінен жыць заўжды ў тваіх
вачах,
Ідзі і праслаўляй сваю Айчыну.
Няхай нас гэты аб'яднае шлях!

## Андрэй ВАЛОШКА

* * *

Млынары, згубіўшы працу, —
Сейбітамі стануць.
Зерне пырсьне з далоней у глебу,
Прарасьце і ў час свой дасьць
колас.
Выйдуць жніўнем людзі жаць жыта,
Ураджай у такі павязуць.
І спатрэбіцца зноў млынары,
Іх ня здарыцца доўга чакаць.
Прыйдуць, млын размыты адновяць.
Зноў мука пацячэ белай стужкай.

## ГЛЕБ

* * *

Я дзіўлюся:
адкуль бярэцца каханьне?
Бо яшчэ ўчора
пра яго я ня ведаў,
а сёньня, ад самага раньня,
яно прыйшло. Я якраз сьнедаў.

Я шукаю,
адкуль бяруцца пачуцьці.
Можа, іх
прыносіць завея?
Настаўніца глядзіць
у акно·чамусьці
і пытаецца, дзе Асьвея.

Мне не казалі,
адкуль бяруцца вочы.


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Можа, іх таксама
прыносіць бусел?
Няхай і так,
а гэтай ноччу
мы зноў вяртацца
ў неба мусім.

## Наста КУДАСАВА

* * *

Я побач з табою заўжды:
Калі над краінаю дым,
Калі не хапае вады
І перасыхаюць крыніцы.

Ты разам са мною жывеш,
Калі мітынгуеш, ці п'еш,
Ці ў мой апускаешся верш,
Ці ў роспачы падаеш ніцма.

Я буду з табой на вякі:
Калі пазасохнуць вянкі,
Пакінуць Радзіму шпакі,
Зграць нашай славы паперы...

І ты, знаю, будзеш са мной,
Як вецер над сіняй ракой,
Як над інсургентам канвой.
Ты будзеш са·мною, я веру...

## Глеб ЛАБАДЗЕНКА

* * *

Анёле! Што ж ня спусьцішся зь
нябёсаў,
Каб я душой ня пнуўся ў жабракі?
Гадоў праз сто прасіць тваёй рукі —
На скрыжаваньні паралельных
лёсаў.

Душой дзіця, хоць вопраткай
дарослы —
Ну што тут зробіш, калі я такі!
Навошта цягнеш да сваёй ракі,
Як цягнуць ланцугі свае матросы?

Ня суджана мне ўночы засынаць,
Патроху раставаць у шчырай
цемры.
Бог кпіў, калі вучыў мяне кахаць...

Ня стала сэрца часткаю сыстэмы.
З табой мы п'есу мусім пачынаць —
І разам скінуць нас з жыцьцёвай
сцэны.

## Віялета ПАЧКОЎСКАЯ

* * *

...На чацьверты дзень
стварыў Бог на небе
сьвяцілы...
Укручваю лямпачку.

* * *

Мы жывём,
пакуль гарыць наша зорка.
Цікава: а для каго зьзяе
Месяц?

* * *

Сланечнік
утаропіўся на дзьмухаўцы:
"Няўжо і я
пасівею?"

## Ірына ПІКУЛІК

* * *

Увосені прырода засынае,
Але ж яшчэ ня час мне смуткаваць,
Бо сэрцу зноўку хочацца сьпяваць —
Як не было вясной, яно палае!

Мне добра на зямлі, нібыта ў раі.
Шчасьліваю ты дапамог мне стаць.
Ярчэй, я бачу, зоры сталі зьзяць —
Іх столькі на далёкім небакраі!

У думках узьнікае спадзяваньне,
Што нешта нараджаецца між нас,
Бы сонца падымаецца ўраньні.

Адно мяне трывожыць
меркаваньне:
"Каханьне забівае час,
А час — каханьне".

## Апанас ЦЫХУН

* * *

*Максіму Багдановічу*

У задуме лес. Маўчаць бары.
Прыціхлі ў сёлах хаты —
Пяюць пра "Зорку" песьняры,
"Ад родных ніў..." — дзяўчаты.

Цябе няма — пакінуў нас.
А песьні ўсьлед лунаюць.
І васількі ў жытнёвы час
Твае нам расьцьвітаюць.

Ня зьдзейсьніў мар, аб чым ты
сьніў,
У сьвет куе зязюля.
Далёка ў Ялце ты спачыў,
А ў нас — твая матуля.

Дзе кіпарыс, дзе неба ціш,
Дзе мора, шум прыбою,
З "Вэнэрай"-зоркай ціха сьпіш,
Зь "Вянком" пад галавою.

Штогод вяночак над табой
Плятуць у небе гусі,
Калі ляцяць у вырай свой
З далёкай Беларусі.

## Міхась ЮЖЫК

* * *

Бытавала думка нежывая
Між людзей і птушак нежывых.
Ёй было прывольна ў гэтым краі,
Мы лавілі кожны яе ўздых.

Але раптам надыход жывога
Подыху адчула грамада.
Паляцелі мшыстыя аковы,
Зацурчэла сьвежая вада.

Мы жывое хвацка прывячалі:
Плюндравалі, заганялі ў гразь.
Раз прывыклі жыць у мёртвым
краі,
Хай жывое не трывожыць нас.

Паўтарэньне даўніны жахлівай:
Соль зямлі крыжуецца заўжды...
Нагінае голаў сіратліва
Чорны дуб ля мёртвае вады.

## Кацярына ШВЕД

### Беларусы!

Не патрэбна багацьце, ні грошы,
ні слава!..
Як такое з Радзімай зрабіць
мы маглі?
Беларусы! Нашчадкі сьвятога
Ўсяслава!
Ці вы чуеце стогны бацькоўскай
зямлі?
Ці ты чуеш, як плача гаротніца-
мова?
Яе топчуць нагамі манкурты свае!
Беларускае матчына роднае слова
Ім у горле сухім камяком застрае.
Дык паўстань, беларус, зь
небыцьця, як з магілы!
Прытуліся да роднай бацькоўскай
зямлі!
Яна дасьць табе моцы, жыцьцёвае
сілы,
Каб шчасьліва і вольна нашчадкі
жылі!

## Юлія ОКУНЕВА

* * *

*Але Ходан і ўсім, хто ішоў
да мяне з дабром*

Мілыя твары, далёкія, блізкія...
Колькі было іх у жыцьці!
Сьціплыя, шчырыя і прамяністыя,
Хто вам казаў, што рабіць, куды
йсьці?
Несьлі ў сьвет дабрыню і спагаду,
Веру, Надзею, Любоў.
У спрэчках са злом не хаваліся
ззаду.
Трэба было — падніmаліся зноў.
Кружацца думкі бурштынавай
нізкаю.
Сьветлыя цені плывуць па сьцяне.
Мілыя твары, далёкія, блізкія,
Быццам у німбах стаяць ля мяне.

## Аляксандар ЯРАШУК

### Дурманіць бэз

Прырода неяк выпадкова
Прыбрала хмары ўсе зь нябес.
У народзе загулялі словы:
"Прыйшла вясна".
Дурманіць бэз.

Як зелянінай зарастае
Ўзімку зроблены надрэз,
Так сэрца, кроў адпачываюць
Пасьля пакут.
Дурманіць бэз.

Ураньні птушак шчабятаньне,
Шуміць гальлём вясновы лес...
Пяе паветра аб каханьні.
Няўжо яно?
Дурманіць бэз...



# Віслава ШЫМБОРСКА

## Лужына

Зь дзяцінства я добра помню
той страх.
Я абмінала лужыны,
асабліва сьвежыя, пасьля
дажджу.
Адна зь іх жа магла быць бяз
дна,
хоць выглядала, як іншыя.

Ступлю і раптам правалюся
ўся,
пачну ўзьлятаць уніз,
яшчэ глыбей уніз,
у кірунку адбітых хмар,
а можа, і далей.

Потым лужына высахне,
зачыніцца нада мной,
а я назаўсёды злоўленая —
дзе —
зь неданесеным на паверхню
крыкам.

Толькі пазьней прыйшло
разуменьне:
ня ўсе дрэнныя прыгоды
зьмяшчаюцца ў законах
сьвету
і, нават калі б хацелі,
ня могуць здарыцца.

## Усё

Усё — *wszystko* —
слова нахабнае і пыхліва
надзьмутае.
Яно павінна пісацца
ў двукосьсі.
Робіць выгляд, што нічога
не абмінае,
што злучае, абдымае,
утрымлівае і мае.
А тым часам яно
толькі шматок завірухі.

**Пераклад з польскай мовы
Анатоля Вярцінскага**

пакаленьне NEXT

Тэда Лі

# Восеньская дэпрэсія

Холад струменем зацякаў у пакой праз шчыліны акон. Яна ляжала адна пасярод скамячанай пасьцелі зь нязьменным болем, адбітым у вачах і на далонях, на пазногцях, пальцах, сьцёгнах і прасьцінах. Яна дазваляла сабе восеньскую дэпрэсію, калі па вуліцы перастава̀лі шпацыраваць у майках, панамах і сандалях... Дэпрэсію яна прымала ў выглядзе смутку, у выглядзе бязьдзейнасьці і прагорклага паху тытуню, адчайных думак і сымбаляў, накрэсьленых пальцам на запацелым шкле...

Яна не выходзіла са сваёй кватэры, забывалася прачынацца, гатаваць сьняданак, мыць валасы, і пыл аднолькава шэрым пластом асядаў на паліцы — падваконьні — падлогу — раскіданыя па пакоі і здранцьвелыя ў недарэчных позах рэчы і яе саму, цёплую, сьвежую і няшчасную.

Яе ня клікалі Сарай. Аднак яна была Сарай. Яна любіла зьмешваць акварэльныя фарбы, мяняць ваду сваёй слоікавай *goldfish*, сьпяваць уласныя песьні пад гітару, уяўляць сябе кучаравай, уяўляць сябе зялёнымі вачыма, уяўляць шарую гадзіну, якая паступова сасьлізгае ў ноч, уяўляць дождж, танчыць, усклаўшы галаву некаму на плячо. Усё, чаго яна не любіла, — гэта Бунін і аранжкавы сок. Часам яна была аптымісткай. Але гэта было сьмешна. Гэта было чужое.

Яна чакала восені з прагнасьцю, нібы загадзя рыхтуючыся да ўсёзьнішчальнай восеньскай дэпрэсіі. Яна залазіла пад тоўстыя коўдры, каб ня чуць грукату фаервэркаў, яна плакала. Вялікія бялкі ейных прыгожых шэра-сініх вачэй зацякалі, ператвараліся ў ружовую мокрую масу, дзе патаналі зрэнкі... З надыходам дэпрэсіі яна часта назірала сябе ў люстэркавых паверхнях пакрытых лакам шафаў і асьветленых зь сярэдзіны аконных шыбаў, выключанага кампутарнага манітора і халоднага слоіка з халоднасардэчнай істотай. Насьценны гадзіньнік паказваў дакладны час у японскай сталіцы. Сара была Сарай, і яшчэ яськей, чым гэта, яна бачыла бледныя свае шчокі, схуднелую паставу і зваляныя валасы — сваю дэпрэсію. Усё навокал можна было аб'яднаць пад некалькімі пунктамі ейнага ненапісанага трактату пра восень і пакуту.

Пазамінулай восеньню ўсё было інакш. Дзённае менскае паветра пахла малаком, было стомленым і мяккім... Тады яна ўпершыню пакахала. Упершыню так калюча і бессаромна. Той восеньню яна была яшчэ зусім малой, дзяўчом, дзіцяткам. Восень, за якую яна пасталела, за якую ўпершыню адчула сябе жаданай.

Гэта ўжо так далёка, амаль нерэальна. Калі ты малады, два гады твайго жыцьця могуць разьдзяляць усе стадыі тваіх "я". Распластаўшыся на ложку, дзе ў тую восень марыла дзяўчынка з доўгімі косамі, маладая жанчына са зьбітымі валасамі перажывала сваю дэпрэсію. Дні капалі на нэрвы, як кроплі зь незакручанага крана на дно бліскучай місы.

Тая, што была Сарай, пасьпела зразумець: ніхто толкам ня ведае, што насамрэч слушна і як трэба рабіць правільна. Кожны ў сілах сам скласьці сыстэму ўласнага ўспрыманьня, толькі большасьць намагаецца не абцяжарваць сябе лішняй магчымасьцю выбіраць.

Пераважная большасьць ня любіць валодаць правам выбару. Выбіраць любяць выбраныя.

Яна зразумела, што сама хоча дзеля сябе гэтага ложка, гэтых пакутаў і гэтай дэпрэсіі, бо яны ёй блізкія. Падобнае прыцягвае падобнае. Касьмічны закон.

Няхай гэта дэпрэсія. Смутак. Боль. Самагубства. Яна адчувала сябе гераіняй раману Каэльё, і гэта дазваляла ёй паводзіць сябе яшчэ больш безадказна. Можна піць пігулкі, пісаць перадсьмяротныя гістэрычныя пасланьні, а лепш за ўсё зацягнуць сваё цела на халодную кухню, запаліць газ і заварыць сунічнай гарбаты...

За сьвятлом бэзавых сьвечак мінае боль, за кубкам духмянай вадкасьці мінае дэпрэсія. Кожны мае права на выбар. Перачакаць сэзон вятроў на тонкіх прасьцінах ці сустрэць сэзон зьліваў без парасону. Ці з парасонам.



Зьміцер Шызы

# Варта пачакаць

Беларусь вельмі восеньская краіна. Несапраўднасьць, прывіднасьць, адцягненасьць восені пасуюць яе вобразу. І яшчэ пасуе вечнае чаканьне. Беларусь як вялікая чакальня.

Восень — тайм-аўт між двума гульнёвымі перыядамі, транзытная станцыя вялікага вандраваньня. І таму — трэба пачакаць. Моўчкі. Паміж сьпёкай і сьнегам — прытаімся, сьцішымся. Антракт, спадарства.

Восень (як і чаканьне) абвастрае нашыя адчуваньні — слых, зрок, нюх. Выхоўвае нашыя вочы. Яны нечакана здабываюць пэрспэктыву. Позірк больш ня блытаецца ў летнім вецьці й буйным лісьці — ён сягае ўдалечыню. Бесьперашкодна! Адшукаць пэрспэктыву — як знайсьці собскую свабоду. Іншая справа — у які бок зірнуць. Так хочацца рвануць кудысьці за далягляд... Толькі цягнік яшчэ не прысьпеў. Чакайма, сузіральнікі.

Увосень хочацца маўчаць. Паміж словамі, над словамі. Прабел (хоць прабел — гэта ўжо зіма). Але ж якую асалоду прыносіць слова, вымаўленае восеньскім ранкам. Блытанае, шчабятлівае шматслоўе — не для аскетычнай восені. Паднясца зранку і — яшчэ да кавы — ціхутка, са смакам вымавіць некалькі родных беларускіх словаў. Так можна пачаць. Пачаць — і цешыцца надалей матчынай мовай, забыўшыся на чужую. Восень спрыяе.

І пахне восень чыста. Лазьняй. Дакладней — прылазьнікам (зноў прамежкавасьць), бо ўжо ня горача. Папарыліся, цяпер можна перавесьці дух, заспакоіць сэрца, памаўчаць. І праз хвілінку кінуцца ў палонку зімы. А пакуль — пачакай.



Анатоль Кляшчук

# ПОКАЗКІ ад дзядзькі Рыгора

Малая пытаецца ў маці:
— Які ён, цягнік?
Маці адказвае:
— Дачушка, як наша хата, Хадорына хата, Праксэдзіна хата вяроўкай счэплены, і трактар цягніць. А там людзі сядзяць.

* * *

У адзіным вушацкім шапіку жанчына купляе канвэрт. Зірнуўшы на наклееную марку, рашуча пярэчыць:
— Што гэтага лысага даяцё, у мяне свой лысы.
— Гэта ж такі вядомы!
— Усё роўна лысы. Свой надакучыў.

* * *

Памерла ў чалавека жонка. Пагараваў-патужыў дый ізноў ажаніўся. Новую жонку просіць:
— Вары мне штораньня малочны суп, як варыла нябожчыца. Дужа мне да смаку ён.
Зварыла новая жонка суп. Есьць, але кажа, што не такі, як у першай. Яна і солі дабаўляла, і цукру. Усё роўна не такі.
Неўзабаве знайшлося ў іх малое. Гаспадыня ставіць варыць суп, а тут дзіця закугікала. Пакуль яна яго суцішала, варыва прыгарэла. Муж узяў сам зь печы, есьць і шчасьліва крычыць:
— Цяпер такі, як у маёй першай!..

* * *

Адна баба не трапляла зь зяцем. Сварыліся й не мірыліся. Звадзіліся й ня ладзіліся. І пайшла цешча да шаптуна, да ведзьмара. Той даў бабе вады замоўленай і наказаў:
— Як пачнець яго забіраць, набяры ў рот вады і трымай, пакуль не аціхніць. І роб так шэсьць разоў. А калі ненарокам праглынеш ваду, скоранька бяжы й набірай новай у рот.
І памагло...

* * *

— ...У нас тут адну электрычкай завуць: як ток, скрозь праходзіць. Дзе хаўтуры, дзе імяніны, дзе корм які, дык там і пад'есь і йшчэ дамоў прывязець.

* * *

Дзед Стахван сядзіць на прызьбе, дрэмле. А тут певень упыліў за курыцай. Дзед сыпнуў жменьку зярнят. Певень накінуўся на пачастунак. І на курыцу забыўся.
Дзед глядзіць, як агняхвосты кавалер прагна дзяўбе зярняты, ды ўголас думае:
— Ня дай Бог, каб я да таго дажыў...

* * *

Скупы адважыўся прадаваць бульбу. І пачаў кожную бульбіну разразаць напалову, каб болей было.

* * *

У аднаго вушацкага было шмат дачок. І вечарам, перад сном, рабіў ён своеасаблівае пераклі-каньне, перш чым заперці дзьверы на засоў:
— Гапка ёсь, Ганулька ёсь, Праксэда ёсь, Тэкля ёсь? Засоўвай!

* * *

Было, што Пятрусь Броўка, наведаўшы землякоў у Пуцілкавічах, пачаў пытацца пра сваіх аднагодкаў, хто зь іх хто, хто чым займаецца. Яму й адказваюць, што Аўлас кароў пасець, Хвядос на фэрме робіць, а Якута — настаўнікам. Броўку зьдзівіла:
— Як гэта Якута настаўнікам стаў, ён жа скончыў адну клясу з калідорам?
— Дык ён на конезаводзе настаўнікам, — кажуць земляні цалкам сур'ёзна.

* * *

Афрыканскія госьці ў вушацкім музэі, які завецца музэем народнай славы. Дырэктар Мікола Кірпіч (прозьвішча такое не ад расейскай цэглы, а таму што зачынальнікі роду былі кірпатыя) тлумачыць, дае зьвесткі, распавядае. Дайшла чарга й да славутых землякоў. Госьці стомлена-сумныя. Ды калі прагучэла "Васіль Быкаў", ажывіліся, бо імя гэтае чулі ў сябе дома.
Потым Мікола, сын Міколаў, казаў:
— Даляр — і ў Афрыцы даляр, а Васіль Быкаў — ва ўсім сьвеце Васіль Быкаў.

* * *

Кіроўца пытаецца ў бацюшкі, ці ёсьць рай і пекла. Бацюшка адказвае:
— Рай ёсьць, а пекла няма. Бо ўсю смалу на дарогу вылілі, а ўсіх чарцей на скрыжаваньнях паставілі.
Дужа любілі гэтую прыпавесьць вушацкія кіроўцы.

* * *

Маці загадала пячы бліны. Паставіла ваду ў печ, а дачку паслала прасіць скавараду, скавароднічак, мучыцу, сольку ды чым бліны памазаць — маселка, а вада вольная: у нас свая ёсь.
І напякла бліноў, смачнейшых, чым у паноў.

* * *

Сабраўся бацька з сынамі далёкі лужок касіць. Ідуць, ідуць, а перад імі канаўка. Бацька скок — і пераскочыў.
Сын захоплена заўважае:
— Ты глядзі, наш бацька яшчэ лёгкі, як сабака!
Другі папраўляе:
— Ці ж можна на бацьку казаць сабака. Пераскочыў — ну й хрэн зь ім...

* * *

Як шчупак у лусцэ, у юбілейных мэдалях і значках хадзіў па мястэчку вэтэран. Школьнікам распавядаў пра вайну, пра подзьвігі свае.
Мама пра яго казала:
— Гэтак ён ваяваў: акопы рылі, а ён бабам у лапаты ручкі ўстаўляў.
Галоўнае — выжыць, а ўспомніць можна ўсё, што было й чаго не было...

* * *

Павёз мужык у сваты хлопца, у якога ня ўсе клёпкі ў галаве былі. Па дарозе паўтараў:
— Ты ж, не пажваўшы, не гавары.
Прыехалі, селі за стол. П'юць, ядуць. Маладзён жваў, жваў кумпячыну дый уступіў у размову:
— Дзядзька, ці помніш, як мы сьвіньню смалілі, а пахва лопнула?
Дажваўся.

* * *

З глыбіннай Расеі падарожны прыпыніўся ў вушацкага селяніна.
Вушацкі й пытаецца:
— Можа, ты калатушкі паспытаеш?
Расеец:
— *Не хочу!*

* * *

Старшыні калгасу далі слова ў райкамаўскім застольлі. Чаргове чырвонае сьвята. Той і пачынае па завучаным:
— Няхай жыве Карл Маркс, Фрыдрых Энгельс, Уладзімер Ільліч, таварыш Сталін...
Пералічвае, пералічвае ўсіх, каго належыць славіць, а думае сваё. І пад канец тосту вырвалася:
— І наагул, няхай жывець хто з кім хочаць!

Працяг на старонцы 16.

**жарт**



# ПОКАЗКІ ад дзядзькі Рыгора

Працяг са старонкі 15.

* * *

Местачковы далакоп, бывала, казаў ці з дакорам, ці з крыўдаю:

— Усе паміраюць, а хаваць некага.

* * *

**Падсьнежны чалавек**

Адразу пасьля вайны адзінокая маладзіца мяла местачковы пляц. Раптам мятла наткнулася на нешта жывое. Гэта пераможца на ўсю моц "узяў" за перамогу, памянуў сяброў дый рухнуў на дол. За ноч занесла сьнегам, як мядзьведзя таго ў берлагу.

Маладзіца раскатурхала мужыка, прывяла ў сваё цеснае жытло, адагрэла чым магла. А сама сабе ўсё прыгаворвала:

— Цяпер мужыкі не валяюцца...

Пра сьнежнага чалавека тады ня чулі. А падсьнежны маладзіцы дастаўся, не з Гімалаяў прыйшоў.

* * *

П'юць бацька з сынам. Выпілі, што было, здалося, што мала. Бацька й пасылае сына па бутэльку. Сын пытаецца:

— А грошы?

— За грошы й дурань прынясець, а ты вось так здабудзь бутэльку, — адказвае павучальна бацька.

Сын пайшоў і прыносіць пустую бутэльку.

— А як з пустой выпіць? — пытаецца бацька.

— З поўнай і дурань вып'ець, а ты з пустой выпі, — адказвае сын.

* * *

Цыган прадаваў каня. Адпаведна хваліў. Калі пакупец запытаўся, а ці ёсьць у каня якія заганы, цыган адказаў:

— Усім конь добры, толькі вянка ня носіць і на дрэва ня лезіць...

Ну й купіў аратай сабе памашніка.

Прывёў дамоў. А конь не даецца надзець хамут. Пад'ехалі да рэчкі, а хвалёны цягун на мост ні ў дугу ня йдзе.

**Рыгор Барадулін**

# Сабачыя гісторыі

**У аднаго сабакі праз двор** праклалі газавую трубу. Граждан ня мог спаць, бо яму здавалася, што тая труба залатая.

**У аднаго сабакі была** газавая труба. А ў Граждана быў газ і тамбоўскія ваўкі.

**Аднаму сабаку адключылі** газ. І ён зразумеў, што за газ трэба плаціць. А Граждан, калі яму не далі газу, пакрыўдзіўся, бо ён служыў у Савецкай Арміі не для таго, каб у дэмбелі бясцэльна праводзіць маладыя гады.

**Адзін сабака граў** на піянэрскай трубе, каб разбудзіць дзяцей. А Граждан іграў на газавай трубе, каб яшчэ раз разбудзіць Герцэна.

**Адзін сабака захварэў.** Патэлефанаваў у хуткую дапамогу. Слухаўку падняў Граждан і сказаў: "Заплаці за газ і сьпі спакойна!"

**В.А.**

## прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Вялікая падзяка ўсім**, хто ахвяраваў на крыжы ў Курапатах. Сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ

**Вальжыну Шутаву** віншую з народзінамі! Будзь вясёленькай, здаровенькай! Галоўнае — не пахаваць сваёй маладосьці ў марнасьці побытавых справаў. Андрусь

**Шчыра віншуем** Зьмітра і Натальлю Букатавых з нараджэньнем дачкі! Сябры

**Шчырыя вітаньні** файнаму менскаму хлопцу Дзянісу Бурку! Жадаю ўсяго найлепшага! Аленка

### ідэі

**Шаноўныя гамельчукі**, патэлефануйце на нумар 77-71-00 і папытайце, якой халеры радыё "Экспрэс" круціць песьню пра Пуціна. Сэрж

**Сьціплым** патрэбна дапамога. Разгледзьце іх няштучную прыгажосьць, зазірнуўшы ў сэрца... Там жыве анёл. Я бачыла. Аляксандрава дачка

**Жаночых** магіл няма ў полі. Лепей загінуць стоячы, чым жыць на каленях. Алмер

**Не размаўляючы** па-свойму, беларусы твораць над сабой самагубства. Лявон П.

**Толькі дурнота** беларуская можа не размаўляць па-беларуску. Таму як толькі дурноце не зразумела, што калі зьнікае мова, то зьнікае і нацыя. Лявон П.

**Хто па-беларуску** размаўляе, той Беларусь адраджае, а хто не — той выраджае. Дык кім лепш быць — адраджэнцам ці выраджэнцам (вырадкам)? Лявон П.

**Асуджэньне захопу** закладнікаў у Маскве чачэнскімі незалежнікамі на тле трыманьня расейцамі ў закладніках цэлай рэспублікі ё скрайнім цынізмам! Сумленьне Нацыі

**Біблія**. Нязрушаны камень. Для мяне? Станіслаў

**Не на іншамарцы**, а ў беларускім легкавіку будзе езьдзіць на працу сярэдні беларускі рабочы ва ўмовах іншых стандартаў і ўзрослага ўзроўню жыцьця! Беларус

**Дзіва ў Беларусі:** дзьве плыні цякуць у адным рэчышчы, пад адной зоркай, але ў супрацьлеглых напрамках. Mikita z Imperyji Babroŭ

**Акторам БДТ:** Парфяновіч, болей прымітывізму, і грандыёзны посьпех Кашпур-Трацьцякоў Вам забясьпечаны!" Mikita z Imperyji Babroŭ

### кантакты

**12 лістапада** летась зачынілі "Пагоню". Пагонеўцы П.Мажэйка і М.Маркевіч адбываюць трэці месяц пакараньня. Падтрымаем іх! Дашлеце ім на "хімію" паштоўкі з самымі простымі словамі падтрымкі. Паўлу Мажэйку: мікрар-н №3, д.3, пакой 208, 247210, Жлобін, Гомельская вобл.; Міколу Маркевічу: вул. Сумчанкі, 38, пакой 434, 213760, Асіповічы, Магілёўская вобл.

**"За Незалежнасьць**. Беларускі народ — гаспадар сваёй краіны". 17 лістапада (нядзеля), пл.Я.Коласа, 12.00. Калі ты за Беларусь — прыходзь! БПСаўцы

**"А над усім майце любоў**, якая ёсьць сукупнасьць дасканаласьці". Каласянам 3:14. Кожную нядзелю а 18 гадзіне беларускамоўнае богаслужэньне ў царкве "Ласка Божая". Менск, вул.Гурскага, 48

**Зь дзецьмі й** дарослымі на варштату "Батлейка" навучымося рабіці лялькі, гуляці шпэктакляў, складаці трыялетаў, разумець сэмантыцы традыцыйных сьвятаў... Т.: 247-13-40. Запрасеця пана Скіргайлу

**Батлейныя шпэктаклі** й граньне на дудах і хлетах у Вашых дамох і сядзібах, на васькіх імпрэзах дый акцыях. Т.: 247-13-40. Запрасеця пана Скіргайлу

**Nabor lacinkaj** a kapiješkaj. Karehavańnie vadle syntezy purystyčnych kanceptaŭ. Т.: 247-13-40. Zaprasiecia pana Skirhajłu

**Беларуская партыя свабоды** ў Менску. Т.: 211-00-00, аб.83602. Кожны аўторак ля помніка Я.Купалу

**Я — 28 гадоў**, прывабны, інтэлігентны, надзейны, в/а, люблю кнігі. Ты — простая, верная дзяўчына. Пісаць толькі для стварэньня сям'і. 210021, Віцебск-21, а/с 21, Аляксандру

**Аддам у добрыя рукі** за пляшку "Лідзкага" ч/б м/г ТВ "Юность" у пэнсійным веку. Ледзь дыхае. Kab Zon. Т.: (8-0296) 31-66-19

### кватэра

**Супрацоўніца часопісу** "Паміж" здыме пакой у Менску. Т.: 257-42-71, (8-0296) 19-80-53

**Віцебск на Менск**. 1-пакаёвую кватэру, новую, прыватызаваную мяняю на кватэру. Дапамагу зь перавозкай рэчаў. Т. (у Віцебску): (0212) 36-87-06

### кнігі, музыка

**Кнігу М.Раманюка** "Беларускія народныя крыжы' можна набыць ці замовіць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**Можна набыць** выдатную беларускую каляровую азбуку з малюнкамі, з друкаванымі і прапіснымі літарамі, фармату А3, зь вершыкамі на кожную літару. Т.: 288-68-91, пасьля 21-й. Ігар і Ганна

**Ігнат Дамейка** "Маё падарожжа" — новая кніга сэрыі "Беларускі кнігазбор" ужо ў продажы

**Новыя кнігі сэрыі** "Беларусіка" — "Беларусь—Бэльгія: Пераклад збліжае народы" можна набыць. Т.: 220-70-27

**Набуду кнігу** Варга Вікернэса *"Vongsmal"* на расейскай мове. E-mail: mmaximus@tut.by

**Шукаю рэлізы** *"Cold Meat Industry"*, а таксама запісы Грэга Брэгавіча й *DASich*. E-mail: mmaximus@tut.by

**Набуду рэлізы** *Dark Ambient (Ritual) Gothic/Nepfolk*-фармацыяў. E-mail: mmaximus@tut.by

**Прадам літаратуру** па славянскай гісторыі, культуры й міталёгіі. E-mail: mmaximus@tut.by

**Прыватная калекцыя** экстрэмальнай музыкі й тэкстаў шукае новых уладальнікаў. E-mail: mmaximus@tut.by

**"Беларускі кнігазбор":** Берасьце — кнігарня "Іскра", "Дружба", Баранавічы — "Кнігі", Горадня — "Слова", "Кругагляд", Ліда — "Кніжны сьвет", Полацак — "Сьветач"

**Паўцарства** — за "Правінцыю". Шукаю ў Менску другі нумар часопісу "Правінцыя". Т.: 257-42-71; e-mail: ala_@tut.by

**Набуду кнігі** Сьвятога Пісаньня ў беларускім перакладзе (не пераклад В.Сёмухі). Т.: 216-28-14 (пасьля 20.00)

**Выйшаў чарговы** 25 нумар футбольнага пэрыёдыка "OFFSIDE" (Барысаў). Тэмы нумару: "Судзейская змова", "Неадфарматаванае БТ", "Часы Малафеева адышлі ў нябыт", "Гульня чорнымі", "Дальтонікаў у міліцыю не бяруць", "Ісламісты", "Карткавая сыстэма", "Ламы супраць эскімосаў" ды іншыя, акрамя таго, як заўсёды, шмат карыкатураў, показак і пэрлаў камэнтатараў. Нумар можна набыць на Ўправе БНФ (Варвашэні, 8) альбо замовіць праз e-mail: sah@crossrd.org.by

**Аўдыё, відэа, CD, кнігі** ў Гомелі: плошча Паўстаньня — штонядзелю да 13.00. Тэлефон: 45-11-51. E-mail: bandrej@tut.by

Неразумнаму Ня бойся, несьвядомы цудаапалонік, хутчэй нараджайся, набывай акрэсьлены выгляд. Сонейка ці грымоты, жыві рэальнасьцю: туманы і міражы сваёй бязглуздай пяшчотай парушаюць бачнасьць. Сьняжынка-чармулінка.

**Новы погляд** на паходжаньне Русі, гісторыю Беларусі ў часопісе "Гістарычная Брама". Можна набыць ў берасьцейскай кнігарні "Іскра" і менскай "Акадэмкнізе"

**Прапаную** "Расейска-беларускі харэаграфічны слоўнік". Т.: (8-0296) 36-43-08

**Часопісы "ARCHE"**, "Дзеяслоў", "Беларускі гістарычны агляд" ёсьць на пл.Паўстаньня (у Гомелі) штонядзелю

**Вельмі танна** прадаю цудоўныя кнігі з хатняй бібліятэкі на розныя тэмы, у добрым стане. Укладзіце капэрту, вышлю каталёг. А/с 21, Віцебск-21, 210021

**Навіны гарадзенскай музыкі** на сайце http://michelson.by.ru. Замовы касэтаў і кніжак праз пошту: а/с 62, Горадня-3, 230003. Андрэй Мялешка

### купоны

**Прадам купоны** бясплатных абвестак мясцовых газэтаў Гарадзеншчыны і Маладэчна. Мар'ян Вянгроўскі. Т.: (01591) 22-1-09

**Прадам купоны** бясплатных абвестак "НН". Т.: 265-75-73

### пасьведчаньне

**Пасьведчаньне інваліда** І групы на імя Калгіна Віталя Уладзімеравіча, сэрыя 07 №023681 лічыць несапраўдным

### праца

**Шукаем няню** на 4—5 гадзінаў працы ў дзень 5 дзён на тыдзень. Гуляць зь дзіцем і дапамагаць у гаспадарцы. Т.: 231-55-71

**Зробім на замову** беларускія паясы і шмат іншых харошых рэчаў. Т.: 207-00-00, аб.19217; 252-86-28 (Аляксандра)

**Выканаю кантрольныя працы** па нямецкай мове. Т.: 240-40-24 (пасьля 21.00)

**Вазьму на карэктуру** тэксты (наркамаўка, тарашкевіца, лацінка). Магчымы пераклад з расейскай на беларускую. Т.: 265-75-73. Эдвард

**Беларускія візытоўкі** — поштаю! Сучасная якасьць і дызайн. Т.: (01642) 37-7-76. E-mail: igvar@tut.by

**Запрашаем** у пэрспэктыўны бізнэс. Т.: 229-65-03

### спачуваньне

**Выказваем спачуваньне** Анатолю Сысу з прычыны сьмерці маці. Паліна і Мікола Сьцепаненкі

## паштовая скрынка

**Алесю К. зь Менску.** Сабачыя гісторыі ў Вас атрымаліся прыватныя. Багата хто з чытачоў не зразумее, пра што гаворка.

**Рому П. з mail.ru.** Пытаньне пра кабарэ перашлем аўтару.

**Жаньне Н. зь Менску.** Ахвяруйце тады гэтыя грошы, гэтую кватэру на беларускі рух.

**Дарыялі Л. з Залесься.** На жаль, ваш матэрыял запазьніўся на два тыдні — пра такія падзеі трэба паведамляць хутка, бо інфармацыя мае ўласьцівасьць старэць. Апроч таго, пішучы пра сустрэчу з паэткай, Вы не пазначылі, у які ж дзень яна была, а сказаўшы пра "ўнікальны пагляд" спн.Ілатавай на нашу гісторыю, не адзначаеце, у чым ягоная ўнікальнасьць. Улічыце гэта, калі ласка, як будзеце яшчэ нам пісаць.

**Сяргею Б. з Гомелю.** З "Днямі санітараў" тая ж праблема, што і раней: стыль ёсьць — сюжэтнага стрыжня няма. Назьбірана ўсягоўсякага. Не газэтнае рэч.

**Разаліі Р. зь Менску.** Газэта не магла прысьвяціць той нумар тэме захопу закладнікаў у Маскве, бо ён здарыўся, калі газэта падпісвалася ў друк, і зьмяніць яе мы ўжо не маглі. Мы мусілі прааналізаваць усе галоўныя падзеі тыдня — у тым ліку і канфлікт вакол Нямцова. Пaглядзеце наступны нумар — там напісана болей.

**Міколу Б. з Дубровы.** Зрабіць даведнік, як Вы прапануеце, мы наўрад ці пакуль здолеем. Абмяжуемся, відаць, вялікім выніковым Каляндным нумарам.

**Алене з Магілёва.** Магілёўскіх ТБМаўцаў узначальвае сп.Міхась Булавацкі. Зь ім можна скантактавацца, даслаўшы ліст на адрас: 212030, г.Магілёў, а/с 3.



# КОШТЫ

## на платныя прыватныя абвесткі (для прыватных асобаў, на старонку 16):

**Рэклямныя расцэнкі:**

— да 20 словаў (тэкставы модуль) — 240 руб.

— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 300 руб.

— аформленая абвестка — 155 руб. за кв.см.

— аформленая абвестка памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету — ад 200 руб. за 1 кв.см.

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: УНП 101115521, рэдакцыя газэты "Наша Ніва", 220600, Менск, вул. Калектарная, 20-а, п. 2-а. Р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ "Белінвэстбанк" Менску, код 763. На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары "Для пісьмовых паведамленьняў" запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: "За рэклямныя паслугі".

НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| выпускны рэдактар | Сяргей Ёрш |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Чык |
| выдавец і заснавальнік | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, (0296) 13-32-32.**
**E-mail: nn@promedia.by**
**On-line: www.nn.by**


8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 2002 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г. Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3919.

Нумар падпісаны ў друк 13.11.2002.

Замова 7911.

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а

НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

**Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537**

Тэкст ______________________

Імя і прозьвішча ______________________

Адрас, тэлефон ______________________